БІБЛІЯТЭКА



Шолам-Алэйхэм

# ХЛОПЧЫК МОТКА

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

ШКОЛЬНІКА

БІБЛІОТЭКА ШКОЛЬНІКА

ШОЛАМ-АЛЭЙХЭМ

# ХЛОПЧЫК МОТКА

З яўрэйскай мовы
пераклаў З. Бядуля






БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1930

## АД ПЕРАКЛАДЧЫКА

Шолам-Алэйхэм (Шолам Рабіновіч)—найвялікшы ў сваім жанры (гумарыст-бытавік) яўрэйскі пісьменьнік. Яго ведае літаральна ўся яўрэйская насельнасьць ад інтэлігента да хатняй працаўніцы.

Усваіх творах, дзе ён малюе «яўрэйскае шчасьце» ў часы царызму, ён оптымісты. У яго герояў—вялікая энэргія і цяга да жыцьця. Яны ніколі ня сумуюць.

У романах, аповесьцях, новэлях і кароткіх монолёгах (некалькі сот) Шолам-Алэйхэм ахоплівае цэлую эпоху яўрэйскага жыцьця.

Многа мастацтва ўкладаў пісьменьнік у стылізацыю мовы. Дае шмат спэцыфічна яўрэйскіх пагаворак і народных дасьціпных слоў. Гэткай манерай ён характарызуе сваіх герояў. Слухаючы іхныя монолёгі, ты бачыш жывых людзей.

Перакладаць Шолам-Алэйхэма вельмі цяжка. Некаторыя фразы зусім немагчыма перакладаць, альбо калі даць даслоўны пераклад, дык тады трэба пісаць да яго шмат комэнтараў. Але дзеля таго, каб бела-

рускі чытач меў хоць маленькае ўяўленьне аб творчасьці Шолам-Алэйхэма, мы даем пераклад аднаго з яго папулярных твораў «Хлопчык Мотка», дзе хлопчык-сірата апавядае пра сваё жыцьцё на фоне быту местачковых рамесьнікаў і дробных гандляроў.

Пры перакладзе мы некаторыя месцы скарацілі.

---

# МНЕ ПАШАНЦАВАЛА—Я СІРАТА

## I

Ніколі мне ня было так добра, як цяпер. У чым справа?—памёр мой бацька, і я застаўся сіратой.

Старшы брат Эля лупцуе мяне за тое, што я богу не малюся, але маці бароніць, бо я сірата.

— Бог з табой! Каго-ж ты б'еш? Ты, мабыць, забыўся, што ён сірата?!

Я сплю з маткай на бацькавым ложку—уся мэбля ў хаце. Коўдрай маці абкрывае мяне.

— Сьпі, сірацінка, — кажа яна, — есьці няма чаго...

Але сон мяне не бярэ. Я вольны ад усяго.

Мне пашанцавала—я сірата.

Цэлы дзень швэндаюся каля рэчкі—лаўлю рыбу або купаюся. Рыбу лавіць я сам навучыўся. Калі хочаце, дык і вас навучу. Скіньце кашулю, завяжэце рукавы ды ідзеце памалу па горла ў вадзе. Трэба брысьці доўга-доўга. Калі адчуваеце, што кашуля цяжкая, дык значыць, яна поўная. Як найхутчэй трэба выскачыць на бераг і вытрасьці з кашулі траву і балота.

У траве часам блытаюцца маленькія жабкі— кіньце іх зноў у ваду, бо шкода. У балоце часам знойдзецца п'яўка. П'яўкі ўжо тавар—за дзесятак п'явак, калі ўдасца, можаце дастаць тры грошыкі, паўтары капейкі. Гэта ўлегцы ня возьмеш... Рыбы ня шукайце. Даўней і рыба вялася, цяпер няма. Я за рыбай ня надта ганюся! Няхай-бы хоць п'яўкі былі. Сяголетнім летам ніводнай п'яўкі не знайшоў!

Скуль брат мой Эля даведаўся, што я рыбалоўствам займаюся?—ніяк дадумацца не магу! Ён мне ледзь вуха не адарваў за рыбу. На маё шчасьце гэта прыкмеціла наша суседка, тоўстая Пэся.

— Ці-ж гэтак б'юць сірату?..

Мой брат Эля засароміўся і выпусьціў маё вуха. Усе мяне бароняць. Мне пашанцавала—я сірата.

## II

Наша суседка, тоўстая Пэся, вельмі мяне ўпадабала. Яна, як смала тая, прычапілася да маці, каб я пакуль што ў яе быў, гэта значыць, у Пэсі.

— Што-ж там такое?—казала яна.—Пры маім стале сядзіць дванаццаць чалавек, дык ён будзе трынаццатым.

Маці ледзьве згадзілася. Дык мой брат Эля заартачыўся.

— Хто за ім будзе глядзець?

— Я за ім буду глядзець. Ну што, добра? Нічога да мяне ня маеце?

Пэся ня вельмі багатая. Яе муж пераплётчык, а завецца ён Моўша. Аб ім кажуць, што ён добры майстар. Але гэта яшчэ мала. Трэба мець шчасьце таксама. Так кажа Пэся да маёй маці.

Маці згаджаецца з ёй. Яна кажа, што да няшчасьця трэба мець і шчасьце. Прыкладам яна мяне бярэ. Вось я сірата, а ўсе хочуць браць мяне да сябе. Ёсьць шмат ахвотнікаў, якія хочуць забраць мяне назаўсёды, але няхай так доўга яе ворагі хварэюць, як доўга яна мяне не аддасьць назаўсёды!

Так кажа маці і плача. Яна раіцца з маім братам Эляй:

— Як табе здаецца, аддаць яго Пэсі?

Мой брат Эля ўжо дарослы, бо іначай ніхто-б з ім ня раіўся. Ён гладзіць рукой свой безвалосы твар, нібы бараду, і гаворыць як дарослы.

— Чаму не аддаць? Няхай толькі ня зробіцца шалахвостам.

Парашылі, што я пакуль што буду ў суседкі Пэсі, але каб не зрабіўся шалахвостам.

Што-б ты ні рабіў, а па-іхнаму ўжо шалахвост! Прычапіць кату да хваста шчэмку—ты шалахвост. Малаціць кіём па кратах папоўскага двара—ты шалахвост! У Лейбы, ваданоса, адкруціў кран ад бочкі, каб вада вылілася,—ты шалахвост!

— Тваё шчасьце, што ты сірата!—кажа мне Лейба, ваданос,—а то адкруціў-бы табе руку і нагу! можаш мне паверыць.

Я веру яму. Я знаю, што цяпер ён мяне не кране, бо я сірата.

Мне пашанцавала—я сірата.

## III

Наша суседка Пэся, няхай яна выбачыць мяне, трохі спудлавала. Яна казала, што толькі дванаццаць сядзіць пры стале. Паводле майго рахунку, я чатырнаццаты. Мабыць, яна забылася пра сьляпога дзядзьку Боруха. А мо' яна яго ня ўлічыла ў ядуны, ён ужо вельмі стары і зубоў ня мае. Ня буду спрачацца. Жаваць ён ня можа, затое вельмі спрытна глытае, як гусак усёроўна. Усе яны праз меру хутка ядуць: хап-лап! Я таксама—дык яны б'юць мяне. Нагамі пад сталом б'юць. Болей усіх б'е мяне Рагаты. Рагаты—праўдзівы разбойнік. Завуць яго Гэршаль, але таму, што ў яго вялікі гуз на ілбу, яму далі мянушку «Рагаты». Кожны з іх мае імя і мянушку: «Калодка», «Кот», «Дзюбаты», «Буйвал», «Пэтэлэлэ», «Дай яшчэ», «Маж маслам»...

Не бядуйце—кожная клічка мае свой корань. Піню завуць «Калодкай», бо ён таўсты і круглы, як калодка. Вульфка—чорны, дык завуць яго «Катом». Хаім—буйвал, вось і далі яму прозьвішча «Буйвал». У Мэндаля востры нос, дык затое ён «Дзюбаты». «Пэтэлэлэ» абазвалі Файталя за тое, што ён заікаецца. Бэрка вялікі ласун: калі яму даюць кавалак хлеба з шмэльцам, дык ён

кажа: «Дай яшчэ». Зорах мае вельмі брыдкую назву «Маж маслам», бо ў яго з носу вечна цячэ. Кожны ў гэтай хаце мае сваю мянушку. Нават котка—самая спакойная і ціхая жывёліна—і тая клічку мае: завуць яе «Фэйга-Лэя старасьціха». А ведаеце чаму? Таму, што яна тоўстая, а Фэйга-Лэя жонка Нахмана, старасты тутэйшай сынагогі, таксама тоўстая. Колькі-ж вы думаеце яны мелі лупцоўкі за тое, каб ня звалі котку чалавечым імем? Як гарох да сьцяны! Калі далі каму мянушку, дык прапала!

## IV

Мне таксама далі новае імя—дагадайцеся якое?—«Мотка лупаты»... Ім не падабаюцца мае губы. Яны кажуць, што пры ядзе ў мяне губы кратаюцца. Хацеў-бы бачыць чалавека, у якога пры ядзе губы ня кратаюцца! Я зусім не ганарысты, але ня ведаю чаму—мне гэта мянушка вельмі не падабаецца! А дзеля таго, што мне не падабаецца, яны дразьняцца са мною наўмысьне. Упартыя, акаянныя—вы такіх яшчэ ня бачылі! Спачатку яны мяне звалі «Мотка Лупаты», а пасьля проста «Лупаты».

— Лупаты, дзе ты быў?

— Лупаты! Высмаркайся!

Мне гэта вельмі баліць, ня ведаю, што рабіць ад злосьці, і я плачу. Калі заўважыць іх бацька, муж Пэсі, Моўша пераплётчык, што я плачу, дык

ён мяне пытае: чаго плачу? Я кажу яму: як мне ня плакаць, калі мяне завуць Мотка, а яны далі мне мянушку «Лупаты!» Дык ён пытае: Хто? Я кажу: «Рагаты». Ён хоча біць «Рагатага», дык «Рагаты» кажа: што гэта ня ён, а «Калодка». Ён хоча біць «Калодку», дык «Калодка» кажа, што гэта ня ён, а «Кот».

Адзін паказвае на другога, другі на трэцяга— казка без канца! Тады іх бацька, Моўша пераплётчык, бярэ біблію і па чарзе ўсіх б'е і кажа пры гэтым:

— Байструкі! Я вам пакажу, як сірату крыўдзіць! Нячыстая сіла няхай скруціць бацьку вашага!..

Вось як. Кожны мяне бароніць. Ніхто не дазваляе крыўдзіць.

Мне пашанцавала—я сірата...

---

# У МЯНЕ БАГАТАЯ СЛУЖБА

## I

Мацi казала мне, што я ўжо маю службу. Не рабочым буду я,—казала яна,—яе ворагам—недачаканьне, каб яе сынок быў рабочым. Мая служба,—казала яна,—багатая і лёгкая. Днём я буду ў хэдары, а ўночы буду вартаваць шалёнага Лур'е. Ён вельмі багаты,—кажа яна. Уночы ён ня сьпіць, дык я буду з ім у адным пакоі. За гэта я буду мець вячэру і пяць рублёў на тыдзень. Гэтыя грошы будуць табе на вопраткі, боты табе куплю,—кажа мацi.

Здаецца, добра—праўда? Чаго тут плакаць? Але мая мацi плача. Бяз гэтага яна ня можа.

## II

Хоць удзень я ў хэдары, але ня вучуся. Памагаю жонцы рэбы (настаўніка) у хаце працаваць. То хату падмяту, то дровы прынясу, а пасьля забаўляюся катом. Гэта ўсё раблю з ахвотаю. Толькі, каб ня вучыцца. Вучыцца надакучае. Кот—мой лепшы сябар. Кажуць, нібы кот—

шкоднік. Няпраўда. Кот вельмі рахманая жывёліна. Сабака мае ў сваёй натуры хцівасьць, круціць хвастом. А кот ласьціцца. Як пагладзіш па галоўцы, зажмурыць вочкі і мурлыча. Я люблю катоў. Дык што з таго? Але пагаварэце з маімі таварышамі. Калі да іх падыдзе кот, дык так штурхануць нагой пад бок, аж кот тры разы перакруціцца. Я не магу глядзець, як б'юць ката, дык яны, мае сябры, з мяне сьмяюцца—разбойнікі. Мяне сябры мае завуць «драўляныя нагавіцы», бо мае нагавіцы з цьвёрдага палатна і выглядаюць, як калодкі, калі паставіш іх, дык стаяць. А маёй маці далі мянушку «плаксуха», бо яна заўсёды плача.

— Вунь ідзе твая маці-плаксуха!—кажуць хлопцы.

Гэта яна прышла забраць мяне з хэдара, каб адвесьці на багатую службу.

## III

Па дарозе маці скардзіцца, што ёй горка і цёмна (адно «горка» ёй мала). Пры такой гутарцы мы прышлі на маю багатую службу, да старога Лур'е. Стары Лур'е жыве ў царскіх палацах. Так кажа маці. Мяне цікавяць гэтыя царскія палацы. Пакуль што мы з маткай сядзім у кухні. І тут някепска. Белая печ блішчыць, пасуда блішчыць і ўсё блішчыць. Уваходзіць кабета, апранутая, як пані. Яна гутарыць з маткай і паказвае на мяне. Маці

ківае галавой. Выходзячы, мама строга загадвае мне «быць чалавекам». Пры гэтым яна выцірае вочы. Заўтра раніцой, кажа маці, яна прыдзе па мяне.

Мне даюць есьці: боршч, мяса і булку (булку не ў сьвяточны дзень!). Пасьля мяне адводзіць да шалёнага Лур'е старая кухарка з доўгім носам. Іду па сходках, выслажаных мяккімі дыванамі. Босымі нагамі вельмі прыемна іх таптаць. Яшчэ ня зусім цёмна, а лямпы сьвятлюсенька сьвецяць. Без канца лямпаў. Сьцены выклеены цацкамі і чалавечкамі. Крэслы пакрыты скурай. Столь вымалявана, не раўнуючы, як у сынагозе. Мяне завялі ў вялікі пакой. Ён такі вялікі, што калі-б я быў адзін, дык бегаў-бы ад сьцяны да сьцяны, альбо кінуўся-б на аксамітную коўдру і качаўся-б па падлозе. І спаць тут някепска.

## IV

Прыгожы яўрэй, высокі з белай барадой, з шырокім лобам, у шаўковым халаце, з аксамітнай ярмолкай на галаве, з вышыванымі пантоплямі на нагах—гэта стары Лур'е. Ён сядзіць над тоўстай кнігай. Жуе сваю бараду, пільна глядзіць у кнігу і нешта мармоча. Я гляджу на яго і думаю: ці бачыць ён мяне, ці не. Відаць, што не, бо ён мне нічога ня кажа. Як толькі мяне сюды ўпусьцілі, дык зараз-жа зачынілі дзьверы на ключ.

Раптам стары Лур'е паклікаў мяне:

— Падыходзьце сюды, дык я вам пакажу, што ў гэтай кнізе напісана.

Ці ён да мяне гаворыць? Гэта ён мне кажа «вы»? Аглядаюся на ўсе бакі — апрача мяне нікога няма.

— Падыходзьце сюды, паглядзеце, што талмуд кажа! Я падбліжаюся.

— Мяне клічаце?

— Вас, вас, няўжо-ж каго?

Стары Лур'е пальцам тыкае ў пісаньне і тлумачыць мне, што ў талмудзе напісана.

З кожным словам ён усё болей гарачыцца, уваходзіць у стос, ажно чырванее.

Ён кожную хвіліну штурхае мяне ў бок.

— Ну, што вы скажаце? Добра напісана, праўда?

Каб было надта добра—я ня бачу. Дзеля гэтага маўчу. Я маўчу, а ён артачыцца. Ён гарачыцца, а я маўчу.

Раптам адчыніліся дзьверы. Увайшла тая самая кабета, адзетая, як пані.

Яна гаворыць яму ў самае вуха. Мабыць, ён глухі. Яна кажа яму, каб ён мяне адпусьціў, бо мне пара спаць. Яна палажыла мяне спаць на спружынавай канапе. Вышла і замкнула дзьверы.

Стары Лур'е ходзіць па пакоі, рукі на сьпіне і нешта бурчыць, бомкае і жмурыць вочы. Я пачынаю думаць. Раптам ён падыходзіць да мяне і кажа:

— Ты ведаеш? Я хачу цябе зьесьці!

Я гляджу на яго і нічога не разумею.

— Уставай, я цябе зьем!

— Каго? мяне?

— Цябе! цябе! Я павінен цябе зьесьці! Іначай быць ня можа!

Так кажа стары Лур'е і зноў пачынае спацыраваць туды і сюды.

## V

Прыемная рэч—стары Лур'е хоча мяне зьесьці! Што на гэта скажа мая маці? На мяне нападае страх. Канапа, на якой я сплю, адсунута ад сьцяны. Ціханька я падлез пад канапу і схаваўся на падлозе ў куточку. Зуб аб зуб ляпае.

З маіх вачэй коцяцца кроплі па шчаках, адтуль у рот. Кроплі салёныя. Я плачу.

. . . . . . . . . . . . .

Прачнуўся раніцою. Аглядаюся, дзе я. Стары Лур'е яшчэ сядзіць над талмудам. Я ўспомніў, што стары хацеў мяне зьесьці, і зноў хаваюся. Дрыжу ад страху, каб ён мяне не пабачыў.

Раптам зьявілася тая самая кабета, адзетая, як пані, а за ёю служанка з сьнеданьнем.

— Дзе хлопчык?—пытаецца служанка, якую завуць Хана, і аглядаецца на ўсе бакі. Яна знаходзіць мяне пад канапай.

— Ну і лайдак ты, як я бачу! Што ты тут робіш? Хадзем на кухню. Там маці па цябе прышла.

Я ўскочыў на ногі і ад радасьці сьпяваю: рам-бом! бім-бом! бім-бам! рам-бом!

— Няхай ён трохі пачакае,—кажа Хана да маёй маці,—няхай вып'е шклянку кавы з булачкай! А вы самі таксама можаце пасьнедаць. Чорт іх ня возьме, яны вельмі багатыя!

Мы сьнедаем.

— Ці вы елі калі куханы з цукрам?—Вось такі смак маюць булкі ў багатых людзей. А мо' яшчэ смачней! А кава? — вось дык смачна! Мабыць, толькі ў раі так кормяць!

Хана дае мне яшчэ булачку ды яшчэ на дарогу з сабой.

У хэдары я паказваю булачку сваім таварышом. Яны абкружаюць мяне і глядзяць, як галодныя ваўкі. Я ім даю па кавалачку. Яны ажно пальцы аблізваюць.

— Дзе-ж ты дастаў такія смачныя рэчы?

Я запіхаю булку за абедзьве шчакі, стаю супроць дзяцей горда, рукі засунуў у глыбокія кішэні дрыўляных штаноў і скачу на месцы босымі закарузлымі нагамі. Пры гэтым думаю.

— Эх вы, жабрацкія торбы! булачкі, ха-ха-ха! Ды каб вы яшчэ каву папробвалі!

Я адмаўляюся ад сваёй багатай службы.

---

# *М я д о в а я   с а ж а л к а*

I

Адну ўцеху мая маці мае: майму брату Элю, дзякаваць богу, надта добра жывецца. Ён апынуўся ў мядовай сажалцы. Ад вялікай радасьці маці выцірае сьлёзы. Эля ўжо навекі забясьпечаны, кажа яна. Хоць нявестка ня ой-ой-ой якая (я тое самае думаю!), але затое ён мае багатага цесьця. Ён пекар. Завуць яго Ёна. Пекар Ёна. Ён сам не пячэ. Пякуць іншыя. Ён толькі купляе муку і прадае хлеб, булкі і абаранкі. Перад пасхай ён пячэ мацу на ўвесь горад. Ён такі злы—аж страх. Я думаю, што ён разбойнік. Я раз папаўся ў яго лапы, калі быў у гасьцёх у брата Элі і сам сябе пачаставаў абаранкам. Абаранак быў сьвежы, цёплы і пульхлы. Як наўмысьне чорт прынёс пекара Ёну. Каб вы бачылі, як у яго загарэліся злыя вочы! З таго часу я туды не хаджу. Каб мяне золатам абсыпалі, дык мая нага там болей ня будзе! Ёна мае паганую прывычку: бярэ за каўнер і кульгіць за дзьверы, а пры гэтым уклеіць некалькі тумакоў ззаду! Я паскардзіўся матцы, дык яна зараз-жа туды бягом пусьцілася. Яна хацела

зыграць там на цымбалах, як належыцца. Але мой брат Эля не дапусьціў. Ён тлумачыў матцы, што дзеля мяне ён мае сорам. Калі-б я ні прыходзіў да іх,—кажа Эля,—дык заўсёды хрумшчу абаранкі. Ён кажа, што лепш дасьць мне капейку, каб я дзе ў іншым месцы купіў сабе абаранак. Дык маці кажа, што ён літасьці нада мною ня мае, што ён забываецца, што я сірата. На гэта Эля кажа, што і сірата не павінен хапаць абаранкаў з чужой печы, што і сірата не павінен быць злодзеем. Маці чырванее, бярэ мяне за руку, ляпае дзьвярмі, і мы выходзім, каб болей ня бачыць гэтай мядовай сажалкі.

## II

Вы хочаце ведаць, як выцек мёд з сажалкі? Вы хочаце ведаць, як брыдка скончыў Ёна? Я ўжо вам гаварыў, што ён сам не пячэ. Пякуць іншыя. Нейкія два чорныя яўрэі і тры чужыя кабеціны, абарваныя, абшорпаныя, з чырвонымі цёплымі хусткамі на галовах (хоць на дварэ пячэ—аж дзецца няма дзе!). Здарылася такая штука. Не адна штука, а некалькі. У абаранках і булках пачалі знаходзіць ніткі, анучы, тараканаў і кавалкі шкла. Нехта прынёс у пякарню жмут чорных валасоў і пачаў палохаць паліцыяй. Давай дапытвацца ў рабочых, чые валасы. Мужчыны казалі на кабет, кабеты—на мужчын. Кабеты апраўдваліся, што ў іх рыжыя валасы. Мужчыны казалі,

што ў іх не такія доўгія валасы. Кабеты пасварыліся. І тут выплылі наверх цікавыя рэчы: адна згубіла ў цесьце падвязку ад нагі. Другая замясіла шматок ад парэзанага пальца. Трэцяя кожную ноч сьпіць на цесьце, як на падушцы. Яна клялася ўсім сьвятым, што гэта мана. Гэта здарылася толькі раз, ці два. Яна ня мела падушкі...

Пачалася завіруха ва ўсім горадзе. Пекар Ёна бегаў, як атручаны. Нічога не памагло. Ніхто ня купляў у яго булак і абаранкаў. Хоць ты выкідай тавар сабакам! Вось я радаваўся!

## III

Але Ёну ўлегцы ня возьмеш. Ён выгнаў сваіх рабочых і наняў іншых. У шабас (субота) ён абегаў усе сынагогі і павядоміў, што наняў новых пекароў, што з гэтага дню ён сам будзе сачыць за чыстатой. Калі хто знойдзе хоць адзін валасок у яго халках, дык ён плоціць дзесяць рублёў штрафу. Ёна зноў пачаў таргаваць. Шукалі валасоў у яго булках і не знаходзілі. А калі знаходзілі і паказвалі яму, дык ён выганяў з пякарні, гаварыў, што гэта наўмысьне палажылі ў булкі, каб вырваць дзесяць рублёў штрафу. Яго не ашукаюць!.. Ну і штукар гэты Ёна!

Але агарнула яго новае ліха. Аднаго разу ўсе рабочыя яго пякарні забралі лахі пад пахі і пашлі. Яны болей ні за якія грошы ня будуць у яго працаваць. Хіба калі ён падбавіць ім плату

па рублю на тыдзень і будзе іх адпускаць дахаты начаваць, і болей ня будзе біць рукамі па зубах. Ёна мае такую прывычку: калі нешта не па шэрсьці, дык тыцне кулаком у зубы.

Ёна загарэўся ад злосьці. Ён гаспадарыць у пякарні ўжо шмат год, і ў першы раз ён пачуў, каб рабочы ўказваў, як трэба біць! Аб надбаўцы платы ён і слухаць ня хоча. Ён можа дастаць дзесяць іншых замест іх. Вялікая цана рабочы! Мала людзей з голаду памірае? Ён пашоў шукаць іншых пекароў. Ніхто да яго ня ідзе. Чаму? Усе пекары згаварыліся. Ніхто да яго ня пойдзе, пакуль ня прыме ранейшых рабочых і пакуль ня выканае іхныя тры запатрабаваньні: 1) рубель на тыдзень надбаўкі, 2) начаваць дома, 3) ня біць кулакамі ў зубы...

Ёна пляваўся і харкаўся, лаяўся брыдкімі словамі і біў кулакамі аб стол. Я радаваўся. Але паслухайце, што было далей!

## IV

Гарачы летні дзень. Толькі-што зьявіліся дыні і кавуны. Поўны рынак дынь і кавуноў! Дыні жоўтыя і пахнуць вельмі смачна. Кавуны чырвоныя (унутры), як агонь, з чорнымі зерняткамі, салодкія, як цукер. Мая маці ня любіць кавуноў. Яна кажа, што дыні спарней. Калі купляе дыню,— кажа яна,—дык ёсьць харчоў для нас на два дні— на сьнеданьне, на абед і на вячэру. А кавун,—

кажа яна,—толькі для ласуноў: поўны жывот вады ад кавуноў. Памойму, яна памыляецца. Каб я быў царом, дык еў-бы круглы год толькі кавуны з хлебам! Гэта глупства, што шмат зернятак. Добры кавун, калі яго патрасьці, дык зерні высыпаюцца—тады еж колькі ўлезе! Ого! Я так загаварыўся аб кавунох, што забыўся, аб чым раней гаварыў. Я гаварыў пра Ёну абараначніка. Ну, і скруціла яго ў тры пагібелі! Ніхто гэтага не спадзяваўся. Мы сядзім з маткай пры стале і абедаем: дыню з хлебам. Адчыняюць дзьверы і паказваецца мой брат Эля з бібліяй у руках. За ім пляцецца яго жонка, Броха. У аднэй руцэ яна трымае каўнер з хвосьцікамі, а ў другой—старое рэшата. Мой брат Эля бледны, як палатно, а яго жонка, чырвоная, як рак.

— Мы прышлі да вас,—кажа Броха.

— Маці, мы ледзь выратаваліся,—кажа мой брат Эля.

Абое яны плачуць, а маці ім памагае. Што здарылася? Пажар? Выгналі з хаты? Зусім ня тое. Ёна пацярпеў крах. Апісалі яго з галавы да ног. Забралі ўсё да апошняй ніткі. І хату забралі. А яго, прашу выбачыць, выкінулі з хаты, як нешта на вілах.

— А, божачка ты мой! А, людцы добрыя!—кажа маці і рукі ламае,—дзе-ж яго грошы? Ёнжа ж такі багаты!

На гэта мой брат Эля кажа, што, папершае—ён ня быў такім ужо багатым. А, падругое... але

тут мая швагерка Броха ўзьелася: яе бацька быў вельмі багатым, але ўсе грошы вырасходаваў на яе вясельле. Такое вясельле дык хіба ў прынцаў і магнатаў бывае! Броха вельмі любіць гаварыць пра сваё вясельле. Аб гэтым яна трубіць па ўсіх вуліцах. Гэткага вясельля, кажа яна, на ўсім сьвеце ня было і ня будзе. Пячэньня што на яе вясельлі было; жаранага, смажанага, скваранага і паранага што на яе вясельлі; тарты, пернічкі, пірагі, царскія хлябцы, кугалі і мугалі—што на яе вясельлі было!..

А пакуль-што Броха засталася толькі з каўнерыкам ды з паломаным рэшатам у руках. Пра пасаг і гаварыць няма чаго—усё прапала. Нават і вопраткі маладых і загарак брата забралі. Яны цяпер голы, як саколы! Мёд выцек, і сажалка пустая асталася.

— Будзьце пакуль-што ў мяне, дзеткі,—казала маці,—потым бог зьлітуецца...

Пры гэтым маці ўступіла маладой сваё ложка—адзіную мэблю ў нашай хаце.

Вось вам мядовая сажалка!

---

# ТРУНАК МАЙГО БРАТА ЭЛІ

«За адзін рубель—сто рублёў! Сто рублёў у месяц можа зарабляць кожны, хто прачытае нашу кнігу, што каштуе з перасылкай усяго адзін рубель. Сьпяшэце, купеце! Не зявайце, хапайце—каб не спазьніліся».

Вось такое дзіва вычытаў недзе ў газэтах мой брат Эля, як толькі перабраўся да нас з сваёй жонкай. Ня буду вам у другі раз паўтараць гэтай гісторыі, колькі-б ні прасілі, бо я вельмі заняты. Я зарабляю грошы. Я прадаю па вуліцах трунак, што мой брат Эля робіць сваімі ўласнымі рукамі. Ён налаўчыўся гэта фабрыкаваць з кнігі, якая каштуе ўсяго адзін рубель, а зарабляць можна сто рублёў і болей у месяц. Мой брат Эля выпісаў гэту цудоўную кнігу, аддаў за яе апошні рубель і пачаў пацяшаць маці, каб яна болей не бедавала:

— Маці! Дзякаваць богу, мы забясьпечаны. Будзем мець грошы аж пагэтуль (ён рукой паказвае на горла).

— Скуль?! Як?!—дзівіцца маці,—ты службу дастаў?

— Яшчэ лепш за службу!—кажа брат, і вочы яго зьзяюць. Мабыць, ён вельмі рад. Ён просіць чакаць некалькі дзён, пакуль атрымае кнігу.

— Якую кнігу?—пытаецца маці.

— Кніга над усімі кнігамі!—кажа брат Эля і пытаецца, ці хопіць ёй сто рублёў у месяц.

Маці сьмяецца і кажа, што ёй было-б досыць сто рублёў на год, каб толькі пэўныя. На гэта брат Эля кажа, што ў яе жаночы слабы розум, а сам бяжыць на пошту. Ён ходзіць на пошту за кнігай штодня. Ужо другі тыдзень, як паслаў грошы, а кнігі яшчэ няма! Тымчасам трэба жыць. «Душы ня выплюнеш». Так кажа маці. Я не разумею, як гэта можна выплюнуць душу?

Ша, ужо ёсьць кніга! Мы яе распакавалі, і мой брат Эля пачаў чытаць. Страхота з панскіх ботаў! Чаго ён там ня вычытаў! Колькі парад і рацэптаў, як рабіць грошы! Можна зарабіць сто рублёў у месяц, робячы найлепшы атрамант, чорную мазь для ботаў. Можна столькі зарабіць у месяц, нішчачы мышэй, тараканоў, клапоў, блох і іншыя гадоты. Можна разбагацець, робячы па гатоваму рацэпту лікёры, салодкую гарэлку, ліманад, содавую ваду, квас і іншае пітво.

Мой брат Эля спыніўся на апошнім рацэпце. Квас! Квас!—гэта такі трунак, што танна каштуе і шмат разыходзіцца. А лета гарачае. Вы павінны ведаць, што ад квасу Борух-квасьнік проста спух ад багацьця. Ён робіць «бутлёвы квас». Яго квас славіцца на ўсім сьвеце. З бутэлек страляе,— як з гарматы. У чым сакрэт—ніхто ня ведае.

Наш квас, што мой брат Эля робіць, ня «бутлёвы квас» і не страляе. Як ён робіць—не магу вам

казаць. Мой брат Эля хавае гэты сакрэт пры сабе. Ён запіраецца ад усіх у маміным пакоі і там фабрыкуе. Але калі гэта застанецца паміж намі, калі не разбрэшаце, дык я вам скажу, з чаго квас робіцца. Там ёсьць лупіны ад цытрынаў, цукер і нешта-нейкае, што завецца «крымэтартэрум»—кіслае, як воцат, а рэшта—вада. Чым больш вады, тым больш квасу. Гэта ўсё трэба мяшаць у цэбры простым кіем, так напісана ў кнізе, і трунак гатовы! Пасьля трэба пераліць у жбан і кінуць туды кавалак лёду. Самае галоўнае—лёд! Бяз лёду гэта ня трунак, а нешта нейкае. Гэта я вам кажу ня з кнігі: я сам пакаштаваў квас бяз лёду, дык думаў, што паеду да Абрагама на піва!

Хто павінен прадаваць гэты квас па вуліцах, як ня я? Майму брату Элі не выпадае: жанаты чалавек. Маці тым болей. Мы не дапусьцім, каб яна валэндалася з жбанам па рынку і выкрыквала: «Квас! квас! Дзядзькі, квас!» У сям'і парашылі, што гэта павінна быць маёй работай. Я гэтаму страшна абрадаваўся. Жартачкі, такім купцом зрабіўся! Мой брат Эля вучыў мяне, як рабіць. Жбан трымаць у аднэй руцэ на вяроўцы, шклянку—у другой руцэ. А каб заклікаць народ, я павінен голасна сьпяваць:

Дзядзькі, квас!  
Па капейцы шлянка!  
Холадна і соладка!  
Лю-ба—та-а-а!

У мяне якраз добры голас, сопрана, бо мой бацька быў кантарам у сынагозе. Я засьпяваў на ўвесь голас і перакруціў вывучаныя словы дагары нагамі:

Салодкая шклянка!
Па капейцы дзядзька!
Холадна і моташна!
Глу-па-та-а-а!..

Ня ведаю: ці мае сьпевы так спадабаліся; ці мой квас быў смачны; ці можа дзеля таго што дзень быў гарачы,—першы жбан я прадаў за поўгадзіны і прынёс дахаты пяць залатовак. Мне налілі ў жбан сьвежага квасу, пры гэтым брат мне казаў, што калі за дзень прадам пяць-шэсьць жбаноў квасу—выйдзе якраз сто рублёў у месяц. Нам квас бадай нічога не каштуе, калі ня лічыць лёду. Каб лёд дарма не псаваўся, трэба бягом прадаваць пітво. Я так і раблю. За мною бягуць дзеці, дразьняць мяне, крыўляюцца. Колькі я зарабіў у першы дзень—ня ведаю, але дома былі вельмі здаволены. Мне далі вялікі кавалак дыні, кавуна. А квас мы ўсе п'ем, як ваду ўсёроўна. Уночы сплю на падлозе. Маці непакоіцца, ці мне ногі не баляць ад такой беганіны. Мой брат Эля з яе сьмяецца. Ён кажа, што ў такога хлопца ніколі нічога не баліць.

— Праўда!—пацьвярджаю я.—Калі хочаце, дык цяпер, уночы, пайду з квасам на вуліцу.

## IV

Шчасьце прэцца да нас і праз дзьверы, праз вароты і праз усе шчыліны. Гарачыя дні. Проста, як у печы! Людзі млеюць ад гарачыні. Дзеці падаюць, як мухі. Каб ня шклянка квасу, дык можна спапяліцца. Прадаю можа дзесяць жбаноў у дзень! Мой брат Эля пільным вокам у цэбар пазірае і кажа, што там ужо «днее». Гэта значыць, што квас канчаецца. І ён прыдумвае штуку і далівае цэбар вадою. На гэта я яшчэ лепшы майстар за яго. Я так заўсёды раблю. Па дарозе частую квасам усіх сваіх добрых знаёмых сустрэчных і папярэчных. А каб ня было страты, даліваю вады. Ніводная кропля не прападае—і мы добра зарабляем. Маці выплаціла шмат даўгоў, купіла тое ды сёе ў хату, а мне абяцаліся купіць боты на зіму. Мне здаецца, што нікому так ня добра, як мне. Але не скажы «гоп!», пакуль не пераскок! Слухайце, што будзе далей. Яшчэ шчасьце, што мяне ў паліцыю не забралі. Аднаго разу я па дарозе зайшоў з сваім квасам да нашай суседкі Пэсі. Пачаставаў іх усіх квасам і вышаў у сенцы даліць жбан вадою. Я, мабыць, натрапіў на балею з вадою ад бруднай бялізны і бухнуў адтуль у жбан шклянак з дваццаць вады. Я выскачыў на вуліцу з новай песьняй, якую сам прыдумаў.

Дзядзькі, бацькі!
Квас вельмі смачны!
Пійце на здароўечка, на шчасьце!

Адзін яўрэй спыніў мяне, дае капейку і просіць наліць квасу. Ён выпіў і зморшчыўся.

— Хлопчык! Што гэта ў цябе за трунак?

Ня маю часу з ім калатырыць, бо яшчэ двое чакаюць чаргі. Адзін выпіў паўшклянкі, другі— трэцюю частку. Заплацілі, плюнулі і пашлі. Яшчэ адзін пакаштаваў і казаў, што пахне мылам і сольлю. Яшчэ адзін зірнуў у шклянку і вярнуў мне назад, пытаючыся:

— Што гэта ў цябе?

— Такі трунак з нашага заводу,—кажу я.

— Трунак з заводу?—кажа ён.—Не з заводу, а з нейкага смуроду!

Яшчэ адзін падышоў. Папрабаваў на язык і плюхнуў мне ў твар. Вакол мяне сабралася цэлая грамада старых і малых. Усе гавораць, махаюць рукамі, ёрзаюць, круцць і верць на ўсе бакі. Падышоў паліцэйскі. Папрасіў пакаштаваць. Я наліў поўную шклянку. Ён папрабаваў, плюнуў і зазлаваўся.

— Дзе ты дастаў такія памыі?—пытаецца ён.

— Гэта з кнігі,—кажу я,—мой брат Эля робіць.

— Хто твой брат?—пытаецца ён.

— Мой брат Эля!—кажу я.

— Які Эля?—пытаецца ён.

— Не кажы, ёлап, на свайго брата!—кажуць мне па-нашаму некалькі яўрэяў у адзін голас.

Пачынаецца суматоха. Хэўра расьце. Паліцэйскі бярэ мяне за руку і хоча адвесьці (з квасам) у паліцыю.

Шум вакол расьце. «Бедны сірата!» чую з усіх бакоў. Сэрца маё чуе, што я тут усыпаўся. Я паглядаю на грамаду вакол і вачыма прашу ратунку. Нехта совае паліцэйскаму дытку ў рукі. Ён не бярэ. Тады адзін стары яўрэй міргае мне хітрымі вачыма і кажа панашаму, каб паліцэйскі не зразумеў:

— Мотка! Вырві ў яго руку і махні драла!

Я вырываюся, бяру ногі на плечы і лататы да хаты!

— Дзе жбан?—пытаецца ў мяне брат Эля.

— У паліцыі,—кажу я з плачам.

---

# ПАТОК АТРАМАНТУ

## I

Ну, і дурань-жа я быў! Я думаў, што за продаж ня вельмі добрага квасу мне галаву скруцяць! У канцы—нічога. Дармо спалохаўся. А Ента не прадае лой за гусіны шмэльц? А Гдаля не гадаваў горад трэфным мясам цэлы год?—Так ад усяго сэрца кажа маёй маці наша суседка Пэся. Аднаго поля ягадкі з маёй маткай! Але мой брат Эля ня зьбіўся з панталыку: апарыўся квасам, дык астудзіцца нечым іншым. Выратуе кніга «За рубель—сто»! Ён сядзіць начамі над кнігай і вучыць яе напамяць. Там цэлая процьма рацэптаў, як рабіць грошы. Ён ужо ведае бадай усе рацэпты. Ён ужо ведае, як рабіць атрамант, як рабіць мазь да ботаў, як выганяць мышэй, тараканоў і іншую нечысьць. Раней за усё ён бярэцца за атрамант. Атрамант, кажа ён; залатая справа. Усе вучацца пісаць. Ён дзеля цікавасьці запытаўся. ў пісара Юдаля, колькі атраманту ў яго выходзіць?

— На цэлы маёнтак!—кажа Юдаль.

## II

Мой брат Эля купіў у аптэцы нейкія «парашкі» і бутэльку гліцарыны. Ён гэта ўсыпаў у вялікі гаршчок (новы гаршчок купіў). Гаршчок з жыжкай усунуў у печ і ціханька шапнуў маці, каб яна замкнула дзьверы. Маці з апаскай зірнула на печ. Мабыць, баялася, каб печ не рассыпалася ад нейкага выбуху. Пасьля ўцягнулі ў хату вялікі цэбар з-пад квасу. Калі варыва ў гаршку ўскіпела, дык яго вылілі ў цэбар. Пасьля гэтага пачалі ліць туды ваду. Калі налілі паўцэбра, брат казаў: «Годзе!», і зноў узяўся за кнігу «За рубель—сто». Доўга ён чытаў, а пасьля ціханька прасіў прынесьці новае пяро і аркуш паперы. «Паперу, на якой пішуць прашэньні»,—шапянуў мой брат Эля матцы на вуха. Ткнуў пяро ў цэбар і чыркнуў нешта на белым аркушы паперы. Напісанае мой брат Эля паказаў раней матцы, потым Бросі. Абедзьве зірнулі і казалі яму:

— Піша!

Зараз-жа зноў прыняліся за ранейшую работу. Уліўшы ў цэбар яшчэ пару вёдраў вады, мой брат Эля падняў руку і казаў: «Годзе!»—Зноў тыцнуў пяром у цэбар, зноў чыркнуў на белым аркушы паперы і паднёс напісанае—спачатку матцы, а пасьля маёй швагерцы Бросі. Абедзьве яшчэ раз зірнулі ў паперу і казалі:

— Піша!

Так некалькі разоў, пакуль цэбар зрабіўся паўнюсенькі, як вока. Ня было куды ліць болей. Тады мой брат Эля padняў высака руку, сказаў: «Годзе!»—і мы ўсе селі палуднаваць.

## III

Пасьля яды мы давай ліць атрамант у бутэлькі. Бутэлек мой брат Эля нацягнуў з усяго сьвету. Розныя бутэлькі і бутэлечкі, вялікія і малыя. Бутэлькі з-пад піва, бутэлькі з-пад віна, бутэлькі з-пад квасу, бутэлькі з-пад гарэлкі і проста бутэлькі. Накупіў шмат старых коркаў, каб таней каштавала, лейку купіў новую і купіў таксама бляшаную конаўку, каб ліць атрамант з цэбра ў бутэлькі.

Пры гэтым мой брат Эля зноў казаў матцы ціханька на вуха, каб яна замкнула дзьверы, пасьля чаго мы ўсе прыняліся за працу. Праца была падзелена паміж намі вельмі добра.

Мая швагерка Броха паласкала бутэлькі і перадавала матцы. Маці аглядала кожную бутэльку паасобку і перадавала мне ў рукі. Мне трэба было толькі ўстаўляць у бутэльку лейку і трымаць аднэй рукой бутэльку, а другой—лейку. Галоўную працу рабіў мой брат Эля: набіраў конаўкай з цэбра і ліў мне ў лейку. Праца вельмі цікавая і вясёлая. Адно толькі кепска—атрамант пэцкае пальцы, рукі, нос, увесь твар. Мы з братам Эляй

вымазаліся атрамантам з галавы да ног і выглядалі, як чэрці.

У першы раз пачуў я сьмех маткі. Мая швагерка Броха рагатала ўвесь час да таго, што ледзьве ня лопнула. Мой брат Эля—чалавек сур'ёзны і ня любіць, каб з яго сьмяяліся. Ён злуецца і пытае ў Брохі, чаго яна сьмяецца. Дык яна яшчэ болей сьмяецца. Тады ён яшчэ болей злуецца, дык яе яшчэ большы сьмех разьбірае. Кожную хвіліну яна канчаецца са сьмеху. Во зараз разарвецца на кавалкі ад рогату! Маці пачынае прасіць-маліць, каб мы памыліся. Але няма калі. Ён клапаціцца: не хапае бутэлек! Дзе-ж дастаць яшчэ бутэлек? Ён дае грошы жонцы і кажа ёй па сакрэту, каб яна пашла па бутэлькі. Броха зірнула на яго і бухнула новым сьмехам. Тады ён кажа матцы той самы сакрэт. Маці пашла па бутэлькі, а мы зноў пачынаем ліць ваду ў цэбар. Разумеецца, льлем патрошку—вёдрамі. Пасьля кожнага вядра вады мой брат Эля падымае руку і кажа: «Годзе!», тыцне ручкай у цэбар, зробіць пару круцёлак на белым аркушы паперы і сам сабе кажа:

— Піша!

Так некалькі разоў, пакуль цэбар зноў паўнюсенькім зрабіўся. Як зьявіліся новыя бутэлькі, мы ўсе ўчатырох прыняліся за ранейшую працу: льлем атрамант з цэбра ў бутэлькі.

— Калі ўжо будзе канец?—пытаецца мая швагерка Броха.

— Не ўрачы!—кажа маці, а мой брат Эля злосна зірнуў на Броху, як-бы ён хацеў казаць.

— Хоць ты мне жонка, але дурная, як бот!

## IV

Колькі ў нас атраманту—не магу вам казаць. Думаю, што тысяча бутэлек! Але што з таго— няма дзе дзецца з імі. Мой брат Эля ўжо ўсюды хадзіў. Прадаваць у раздроб, бутэлькамі—няма сэнсу. Так кажа мой брат Эля нашаму суседу, Моўшы пераплётчыку. Моўша, як прышоў да нас і ўгледзеў столькі бутэлек, дык так спалохаўся, ажна адскочыў назад. Гэта заўважыў мой брат Эля; і паміж іх пачалася гутарка:

Эля: Чаго вы так спалохаліся?

Пераплётчык: Што гэта ў бутэльках?

Эля: Што-ж можа быць? Віно!

Пераплётчык: Якое віно? Гэта-ж атрамант.

Эля: Дык чаго-ж пытаецеся?

Пераплётчык: Нашто табе гэтулькі атраманту?

Эля: Піць буду!

Пераплётчык: Не, я бяз жартаў пытаюся. Будзеш прадаваць і ў раздроб?

Эля: Я яшчэ не звар'яцеў. Калі прадаваць, дык па дзесяць бутэлек, па дваццаць бутэлек, па пяцьдзесят бутэлек, па сто бутэлек. Гэта завецца «гуртам». Вы ведаеце, што такое «гурт»?

П е р а п л ё т ч ы к: Я ведаю, што такое «гурт». Каму будзеш прадаваць?

Э л я: Каму? Рабіну!

Мой брат Эля пашоў да крамнікаў. Зайшоў да аднаго вялікага гуртоўніка. Той казаў прынесьці бутэльку, каб паглядзець тавар. Другому крамніку прынёс бутэльку атраманту, дык той і ў рукі браць ня хоча, бо на бутэльцы няма наклейкі. На бутэльцы павінен быць ярлычок, кажа крамнік, прыгожая паперка з цацкай. На гэта мой брат Эля кажа: «Я не раблю цацак, а раблю атрамант». На гэта крамнік адказвае: «Рабеце на здароўе». Тады брат пусьціўся да пісара Юдаля. Пісар Юдаль сыпнуў яму некалькі няпрыемных слоў. Ён ужо назапасіўся атрамантам на цэлы год. «Сколькі-ж бутэлек вы купілі?»—пытаецца ў яго брат. «Бутэлек?!—дзівіцца Юдаль,—я купіў адну бутэльку атраманту, дык хопіць надоўга...»

Вось табе і гандаль! Вось табе і гешэфт! Пісарчук набрахаў! Раней казаў, што бяз канца грошай аддае на атрамант, а цяпер бутэльку—на год!

Мой брат Эля зьбіўся з панталыку. Дзе-ж ён дзене гэтулькі атраманту? Раней ён казаў, што ў раздроб прадаваць ня будзе, а толькі «гуртам». Цяпер ён трохі зьмякчэў. Ён кажа, што папрабуе прадаваць і ў раздроб.

Хутка я вам раскажу, як мой брат Эля прадаваў атрамант у раздроб.

## V

Мой брат Эля прынёс вялікі аркуш паперы. На гэтым аркушы ён напісаў вялікімі літарамі:

> **Тут прадаецца атрамант гуртам і ў РАЗДРОБ добра і ТАННА.**

Словы «ў раздроб» і «танна» ледзьве ня ўвесь аркуш займалі. Як папера высахла, ён прыклеіў яе да дзьвярэй з вуліцы. Людзі спыняліся і чыталі. Я пазіраў праз вакно. Мой брат Эля таксама глядзеў праз вакно і ламаў пальцы. Ён быў вельмі ўстрывожаны. Ён казаў мне:

— Ведаеш што? ідзі прыслухоўвайся, што там гавораць.

Мяне доўга прасіць ня трэба. Пастаяўшы з паўгадзіны каля дзьвярэй, я ўвайшоў назад у хату. Мой брат Эля падыходзіць да мяне і ціха пытае:

— Ну?
— Што ну?
— Што яны казалі?
— Хто?
— Людзі, якія праходзілі?
— Яны казалі, што хораша напісана.
— І болей нічога?
— Болей нічога.

Мой брат Эля пачаў уздыхаць.

Маці ў яго пытае:

— Чаго, дурненькі, уздыхаеш? Пачакай трошачку. Хочаш за адзін дзень увесь тавар прадаць?

— Хоць пачатак!..—кажа мой брат Эля з сьлязьмі ў горле.

— Пачакай, сынку, будзе і пачатак.

Так кажа матка і кліча нас да стала абедаць. Мы ўсе ўчатырох ледзьве прымасьціліся к сталу. Бутэлькі з атрамантам запоўнілі ўсю хату—няма дзе павярнуцца.

Толькі мы пачалі есьці, ажно прыбягае дзяцюк. Цікавы дзяцюк. Ён ужо жаніх. Копель завецца. Яго бацька кравец. Жаночы кравец.

— Тут прадаецца атрамант у раздроб?

— Тут, а што?

— Мне трэба трохі атраманту.

— Колькі табе атраманту?

— Дай мне на капейку атраманту.

Мой брат Эля хадыром захадзіў. Каб не сароміўся маткі, дык выкінуў-бы за дзьверы жаніха Копеля. Брат стрымліваецца і налівае яму на капейку атраманту.

Праз некалькі хвілін прыходзіць дзяўчынка. Яе ня ведаю. Яна калупае пальцам у носе і пытаецца ў маткі:

— Тут робяць атрамант?

— Тут, а што?

— Сястра прасіла, можа вы ёй пазычыце трохі атраманту? Ёй трэба пісаць ліст да жаніха ў Амэрыку.

— Хто твая сястра?

— Краўчыха Бася.

— Ого! Глядзі толькі, як яна вырасла! Няўрокам кажучы! А цябе я і не пазнала. Бутэлечку маеш?

— Адкуль у нас бутэлечка? Сястра прасіла, можа ручку дасьцё,—як толькі напіша ліст у Амэрыку, дык зараз-жа аддасьць атрамант і ручку.

- Майго брата Элі няма пры стале. Ён у другім пакоіку. Ён ціха спацырує, кусаючы пазуры.

## VI

Мой брат Эля ходзіць зьбянтэжаны. Што рабіць з атрамантам?

— Зноў атрамант?—пытаецца матка.

— Я ня думаю пра атрамант!—кажа мой брат Эля.—Ліха яго матары з атрамантам! Бутэлькі мне патрэбны! У бутэльках—вялікі капітал! Трэба апаражніць бутэлькі і зрабіць іх на грошы!..

Ад усяго ён робіць грошы! Пастанавілі выліць атрамант чорту лысаму. Адна бяда: куды выліць столькі атраманту? Проста сорамна!..

— Нічога не паможа!—кажа мой брат Эля.— Прыдзецца пачакаць да ночы. Уночы цёмна і ніхто не пабачыць.

Ледзь ночы дачакаліся. Як наўмысьне месяц сьвеціць, як ліхтарня. Калі ня трэба, ён зьяўляецца, паганы месяц. Нібы хто за ім паслаў!.. Так кажа мой брат Эля, і мы выносім бутэльку за бутэлькай—і плюх на вуліцу. На вуліцы мы зрабілі цэлую рэчку. Ня трэба ліць на адным месцы. Так кажа мне мой брат Эля. Я пачынаю ліць у розных мясцох. Кожная бутэлька мае ў мяне новае месца:

Сьцяна суседняй хаты—плюх!

Суседні паркан—плюх!

Дзьве казы ляжаць супроць месяца і жвачку жуюць—плюх!

— На сягоньня досыць!—кажа мой брат Эля. Мы ідзем спаць. Ціха і цёмна. Падае свой голас цвыркун. З-пад печы мурлыча кот. Ён такі гультай—і ўдзень і ўночы цёнгля сьпіць. Па хаце чуваць ціхія крокі. Можа чорт?.. Маці ня сьпіць. Яна, здаецца, ніколі ня сьпіць. Яна заўсёды стогне і вохкае, сама з сабою гаворыць.

## VII

Я яшчэ ляжу на падлозе і праз сон чую нейкі шум, галас і гармідар. Чуваць знаёмыя галасы. Расплюшчваю вочы, ужо позна. Сонца глядзіць праз вакно, кліча мяне на вуліцу. Я ўспамінаю, што было ўчора—ага! Атрамант! Я хутка апранаюся. Маці плача (калі яна ня плача?). Мая швагерка Броха злуецца (калі яна ня злуецца?).

А мой брат Эля стаіць пасярод хаты, апусьціўшы галаву, хоць падстаў пад яго дайніцу! У чым справа? Не адна справа, а некалькі спраў! Нашы суседзі падняліся раніцой, дык пачалася суматоха—зарэзалі іх! У аднаго ўся сьцяна атрамантам абліта. У другога абмазаны ўвесь паркан—новы паркан. У трэцяга было дзьве казы, белыя, як сьнег, дык іх ачарнілі—-не пазнаць. Гэта ўсё яшчэ паўбяды, каб не панчохі разьнічыхі, пара белых панчох, дык іх запэцкалі. А хто прасіў яе разьвесіць панчохі на чужым паркане? Маці абяцала адкупіць ёй новыя панчохі. А сьцяна? А паркан?—Мая матка і швагерка Броха цэлы дзень чысьцілі іх і шчоткамі і вадою, а плямы замазвалі белай глінкай.

— Ваша шчасьце, што вы патрапілі на добрых суседзяў. Каб напалі на сад лекара Мэнашы, дык ведалі-б пачом фунт ліха!

Так кажа наша суседка Пэся да маёй маткі.

— А вы што думалі? Да няшчасьця трэба мець і шчасьце!—Так адказвае ёй мая матка і пaглядае на мяне.

Што яна гэтым хоча казаць?..

## VIII

— Цяпер я ўжо паразумнеў,—кажа мне мой брат Эля.—Хай толькі падыдзе ноч, дык панясем атрамант на рэчку.

Далібог, праўда! Лепшага нічога ня прыдумаеш! Усёроўна ў рэчку льлюць рознае паскудзтва. Там мыюць бялізну, там купаюць коняй, там плюхаюцца сьвіньні. А я з рэчкай даўно пасябраваўся. Я ўжо вам калісьці апавядаў аб тым, як я займаюся рыбацтвам. Можаце зразумець, як я абрадаваўся, як я выглядаў у тую хвіліну, як мы пашлі на рэчку.

Як толькі падышла ноч, мы напакавалі ў вялікія кошыкі бутэлькі і панесьлі туды на рэчку. Вылівалі атрамант, парожныя бутэлькі адносілі дахаты і адтуль зноў з атрамантам да рэчкі. Мы працавалі ўсю ноч. Такой вясёлай ночы ў мяне ўжо даўно ня было. Месяц сьвеціць. Нехта на дне рэчкі робіць: «Буль-буль-буль». Пара жабак пераклікаюцца паміж сабою: «Ква-ква!» А рэчка маленькая: зусім няглыбокая. Я магу па ёй перабрысьці, нават ня скінуўшы нагавіц! Проста сьмех.

Ад нашага атраманту рэчка трохі паднялася. Ня жартачкі—мо' тысяча бутэлек! Затое мы напрацаваліся, як тыя валы.

Мы спалі, як забітыя. Маці нас разбудзіла з плачам:

— Ліхенька на мяне! Ой, доля мая горкая! Што-ж вы там з рэчкай зрабілі?..

Аказалася, што мы ўсё мястэчка абяздолілі. Прачкі ня маюць дзе бялізну мыць. Фурманы ня маюць дзе коняй паіць. Ваданосы... Вось зьбяруцца яны ўсе разам і нападуць на нас...

Такімі прыемнымі словамі нас разбудзіла матка. Але мы іх ня будзем чакаць. Абыдземся без такіх мілых гасьцей. Мы ня хочам бачыць, як ваданосы будуць з намі разьлічвацца. Я і мой брат Эля бярэм ногі на плечы і—марш да яго сябра Піні.

— Там няхай яны нас шукаюць!—Так кажа мой брат Эля, бярэ мяне за руку і мы пускаемся бягом да яго сябра Піні. Калі мы з вамі яшчэ пабачымся, дык я вас пазнаёмлю з Піняй. Ён вельмі цікавы чалавек і ён багаты на спрытныя думкі.

---

# ВУЛІЦА ЧХАЕ

## I

Ведаеце, які ў нас цяпер ходкі тавар?—мышы. Мой брат Эля цэлы тыдзень вучыў кнігу, паводле якой робяць грошы, «За рубель—сто». Ён кажа, што ўжо навучыўся выганяць мышэй, тараканоў і іншыя брыдоты, нават шчураў. Няхай толькі пусьцяць яго куды з яго парашком, дык ніводнай мышы не застанецца—разьбягуцца, альбо перадохнуць. Няма болей мышэй! Як гэта ён робіць—я ня ведаю. Гэта сакрэт. Сакрэт гэты ведае толькі ён і кніга, болей ніхто. Кнігу трымае ён ў кішэні, а парашок—у паперы. Парашок ружовы і тонка размолаты, як нюхальны тутун. Гэта завецца «шамарыці».

— Што гэта шамарыці?

— Турэцкі перац.

— Што гэта турэцкі перац?

— Я табе пакажу «што гэта», дык ты ў мяне адчыніш дзьверы галавой!

Так кажа мне мой брат Эля. Ён ня любіць, каб у яго распытваліся ў час работы. Я гляджу і маўчу.

Я бачу, што апрача чырвонага парашка, у яго ёсьць яшчэ парашок. Таксама для мышэй. Але з тым трэба абыходзіцца асьцярожна!

— Атрута!—кажа мой брат Эля ўсім нам мо сто разоў. Галоўным чынам мне гаворыць.

Першую спробу мы рабілі над мышамі суседкі Пэсі. Там без канца мышэй. Вы-ж ведаеце, што яе муж пераплётчык. Моўша завецца ён. У яго заўсёды поўная хата кніг. Мышы любяць кнігі. Ня так кнігі, як клей. Але разам з клеем яны грызуць і кнігі.

— Пусьцеце мяне нанач!—просіцца мой брат Эля ў пераплётчыка. Той ня хоча. Ён кажа:

— Я баюся, каб ты мне кнігі не сапсаваў.

— Якім чынам я вам кнігі сапсую?—пытаецца ў яго мой брат Эля.

— Я ня ведаю якім чынам, але баюся. Кнігі чужыя.

Ну вось, гаварыце з пераплётчыкам! Ледзь угаварылі. Ён пусьціў нас нанач.

## II

У першую ноч нам не пашанцавала. Ніводнай мышы не злавілі! Мой брат Эля кажа, што гэта якраз добра. Мышы, кажа ён, панюхалі парашок і разьбегліся. Пераплётчык круціць галавой і ўсьміхаецца ў бараду. Відаць, што ня верыць. Аднак,

па мястэчку прайшла пагалоска, што мы выганяем мышэй. Такую пагалоску пусьціла наша суседка Пэся. Яна раніцой пашла на рынак і растарабаніла на ўсё мястэчка, «што так, як мы праганяем мышэй, ніхто не праганяе». Яна праславіла наша імя. Раней пра квас яна таксама ўсюды пратрубіла. Пасьля на ўвесь сьвет прашумела аб тым, што мы робім атрамант. Але ці-ж Пэся вінавата, што нікому атрамант не патрэбен? Мышы гэта ня тое, што атрамант. Мышэй усюды ёсьць—бадай у кожнай хаце. Кожны гаспадар мае ката. Але што можа рабіць адзін кот супроць многіх мышэй? А галоўным чынам супроць шчуроў! Шчуры баяцца ката, як Гаман браждзжоткі. Здаецца, што шчуроў і кот баіцца. Так кажа шавец Бэрка. Ён апавядае пра шчуроў многа страхоцьцяў. Праўда, шавец Бэрка любіць трохі прыхварбаваць, але калі тут хлусьні толькі напалову, дык і то хораша! Ён кажа, што шчуры зьелі ў яго пару новых ботаў. Ён божыцца такімі словамі, што і пярэхрысту паверыш. Ён кажа, што сам на свае вочы бачыў, як два шчуры вышлі з сваіх нор і зьелі пару ботаў. Гэта было ўночы. Падысьці блізка ён баяўся— вялізныя шчуры, як цяляты. Здалёку ён іх гнаў, сьвістаў на іх, тупаў нагамі, крычаў: «кыш-кыш-кыш-кыш!»—нічога не памагло. Ён кінуў на іх абсац ад бота, дык яны толькі зірнулі на яго і давай далей сваё рабіць. Пасьля ён кінуў на іх ката, дык яны і ката зьелі. Ніхто-б яму не паверыў, але калі чалавек божыцца!

— Пусьцеце мяне нанач,—кажа мой брат Эля,—дык я выганю ўсіх шчуроў!

— О, рабеце ласку!—кажа шавец Бэрка.— Яшчэ дзякаваць буду!

## III

Цэлую ноч сядзелі мы ў шаўца Бэркі. Бэрка таксама сядзеў з намі. Ой, якія харошыя байкі ён расказвае! Ён расказвае пра турэцкую вайну (ён і сам быў салдатам). Ён быў у такім месцы, якое завецца «Плеўна». Дык страллялі там з гарматаў. Ведаеце, якой велічыні гармата? Уявеце сабе, што куля большая за ўсю хату, а гармата выкідвае ў хвіліну каля тысячы такіх куль. Вы здаволены? Куля на ляту так крычыць, што адразу аглушае. Адзін раз ён стаяў на варце,—так апавядае Бэрка-шавец.—Раптам чуе ён грукат, і панясло яго ўверх, высока нясе яго, аж за хмары і там разарвалася куля на тысячу кавалкаў. Шчасьце,—кажа Бэрка,—што яго скінула на мяккае месца. Каб ня гэта, ён расквасіў-бы сабе галаву. Мой брат Эля слухае і бровы ў яго сьмяюцца. Гэта значыць, ён сам не сьмяецца, толькі бровы сьмяюцца. Дзіўны сьмех. Шавец Бэрка не заўважвае гэтага. Ён не перастае гаварыць свае дзіўныя байкі. Адна байка страшней за другую. Вось так мы сядзелі да самай раніцы. А шчуры?— каб хоць адзін шчур паказаўся!

— Вы чараўнік!—кажа шавец Бэрка да майго брата Элі. Бэрка пускае погаласку па мястэчку, што мы замовамі выгналі ў яго ўсіх шчуроў за адну ноч. Ён божыцца, што сам бачыў, як мой Эля нешта шаптаў, а пры гэтым шчуры пусьціліся наўцекі да рэчкі, пераплылі на той бераг і зьніклі нямаведама дзе...

## IV

Такім чынам мы зарабляем на жыцьцё, хоць мой брат Эля лішняга не бярэ і кожнаму гаворыць, што змагаецца з мышамі, не замовамі, а парашкамі.

Мая швагерка Броха пачынае і мяне паважаць, бо я памагаю брату грошы зарабляць. Звычайна яна заве мяне «жабраком», «шлімазарнікам», «злыбедай». Цяпер зьміласьцівілася і заве «Мотачкай».

— Мотачка! Падай мне чаравікі!

— Мотачка! Прынясі вады!

— Мотачка! Вынесі сьмецьце!

Вось і я панам у яе зрабіўся, як пачаў грошы зарабляць!

Адна бяда з маім братам Эляй, што ён мае храпку ўсё фабрыкаваць многа. Квасу—цэбрамі. Атрамант—тысяча бутэлек. Парашку для мышэй—вялізны мяшок.

Мяшок стаіць сярод хаты. Аднаго разу, калі ў хаце быў толькі я адзін, мне ўздумалася вярхом паезьдзіць на мяшку. Мяшок трэснуў і нешта

жоўтае пасыпалася з яго на падлогу. Я нагнуўся, каб зноў усыпаць у мяшок і на мяне напала чханьнё. Каб я ўцягнуў у нос поўную табакерку тутуну, дык так моцна ня чхаў-бы. Я чхаў доўга, пакуль выскачыў на вуліцу, можа там, думаю, перастану чхаць. Дзе там? Прыходзіць матка і бачыць, як я чхаю. Яна пытаецца, што са мною. Я адказваю ёй: Чхі! Чхі! і яшчэ раз чхі!

— А, божа-ж мой, дзе ты схваціў такі катар?— кажа матка і пачынае рукі ламаць. Я не перастаю чхаць і паказваю рукою на хату.

Яна бяжыць туды і выбягае назад яшчэ з большым чханьнем, чым я. Прыходзіць Эля і бачыць, як мы з маткай чхаем. Ён пытаецца: што гэта? Матка паказвае рукой у хату. Ён бяжыць туды і вырываецца адтуль з лямантам:

— Хто гэта рассы... Чхі! Чхі!Чхі!

Я ніколі яшчэ ня бачыў майго брата такім злосным. Ён кідаецца на мяне з кулакамі. Адно шчасьце, што ён чхае. Каб ня гэта, ён-бы мяне пакалечыў. Прыходзіць мая швагерка Броха. Яна бачыць, як мы ўтрох чхаем.

— Што гэта з вамі? Што вы раптам зачхалі ўсе хорам?

Што мы ёй скажам? Ці-ж мы можам вымавіць хоць адно слова? Мы паказваем рукамі ў хату. Яна бягом туды. Адтуль выскачыла, як ашпараная, чырвоная, злосная і накідваецца з крыкам на майго брата Элю:

— А я табе што гавар... Чхі! Чхі! Чхі!

Надыходзіць наша суседка, тоўстая Пэся. Яна да нас гаворыць, а ніхто з нас ня можа ёй адказаць. Мы паказваем на хату. Яна ідзе туды і хутка выбягае:

— Што вы гэта нараб... Чхі! Чхі! Чхі!

Пэся махае рукамі. Выходзіць яе муж Моўша, пераплётчык. Ён глядзіць на нас і сьмяецца:

— Чаму раптам напала на вас такое чханьнё?

— Патурбуйцеся ў ха... Чхі! Чхі! Чхі!—кажам яму і паказваем на хату. Моўша пераплётчык уваходзіць і выскаквае адтуль з рогатам:

— Я ўжо ведаю ў чым справа! Я ўжо панюхаў! Гэта параш... Чхі! Чхі! Ачхі!

Ён бярэцца рукамі за бакі і чхае са смакам, з апэтытам. Пасьля кожнага «ачхі!» ён робіць скок угору, становіцца на кончыкі пальцаў і чхае яшчэ, яшчэ раз скокне, яшчэ раз чхне і так бяз канца.

Праз паўгадзіны чхаюць усе нашы суседзі і суседкі з сваімі дзядзькамі і цёткамі, з дзядамі, унукамі, стрыечнымі братамі, з усімі сватамі, з добрымі сябрамі і знаёмымі. Уся вуліца з канца ў канец чхае на розныя лады, на розныя галасы.

Чаго мой брат Эля так спалохаўся? Мабыць баіцца, каб не адплацілі яму за чханьнё. Ён бярэ мяне за руку, і, чхаючы, мы пускаемся наўцекі да яго сябра Піні. Мой брат Эля расказвае яму ўсю гісторыю. Піня слухае ўважліва, як доктар хворага.

Калі мой брат Эля скончыў гаварыць, Піня яму кажа:

— А ну, пакажы мне кнігу!

Мой брат Эля вымае з глыбокай кішэні кнігу і перадае Піні. Яго сябар Піня чытае загаловак: «За адзін рубель—сто рублёў! Спосаб як з нічога, пяцьцю пальцамі, зарабляць сто рублёў і болей у месяц». Піня бярэ кнігу і кідае ў печ у вагонь. Мой брат Эля рвецца рукамі да агню, каб выратаваць свой скарб. Піня яго спыняе:

— Памалу! Не хапай!

Праз пару хвілін ад цудоўнай кнігі майго брата Элі, якая вучыць, як зарабіць сто рублёў у месяц, застаецца купка попелу. Астаўся адзін толькі цэлы шматок паперы. Ледзь-ледзь было прыкметна слова: «Ша-ма-ры-ці».

---

# НАШ СЯБАР ПІНЯ

## I

Ці памятаеце, я вам калісьці казаў, што пазнаёмлю вас з Піняй? Я абяцаўся пазнаёміць, бо ён багат на добрыя думкі. Піня—сябар майго брата Элі. Але спачатку я павінен пазнаёміць вас з яго дзедам, пасьля з яго бацькам, пасьля з дзядзькам, а ўжо ў канцы з самым Піняй.

Толькі не палохайцеся—буду гаварыць коротка. Пачынаю з дзеда.

Вы чулі калісьці пра шкляра Гэсаля? Гэта дзед Піні. Ён і шкляр, і маляр, і тутун робіць, і люстэркі. Цяпер ён займаецца толькі тым, што трэць тутун на парашок і прадае. Пакуль чалавек жыве, кажа ён, дык павінен сам на хлеб зарабляць. Гэсаль—высокі, худы, з чырвонымі вачыма, з страшна доўгім носам, зьнізу шырокі, зьверху вузкі і выгнуты, як труба. Я думаю, што такі нос у яго ад тутуну—вечна, нюхае. Ён вельмі стары, яму можа сто гадоў, аднак ён пры поўным розуме. Кажуць, што ён яшчэ цяпер разумнейшы за сваіх двух сыноў: Гэрша-Лейбы механіка і Шнэера зэгармайстра. Гэрша-Лейба механік, такі

самы высокі і тонкі, як Гэсаль. І ў яго доўгі нос, але ён ня нюхае тутуну. Мо' яшчэ будзе нюхаць. Ён муляр. Славіцца ўсюды за вельмі разумнага. У яго сапраўды высокі лоб. Няма ніводнай рэчы на сьвеце, якой ён ня ўцяміў-бы сваім уласным розумам. Так ён сам пра сябе кажа. Каб яго вучылі, дык быў-бы першым на цэлым сьвеце. Яму толькі раз глянуць—і ўжо ведае, разумее. Печы рабіць ён сам ад сябе навучыўся. Ён пару разоў бачыў, як Іван-пячкур робіць печы, дык яго прабіраў сьмех. Ён казаў, што Іван нават ня ведае, што значыць печ. Ён прышоў дахаты, раскінуў печ і з тых самых цаглін паставіў другую. Спачатку дыміла, задушыцца можна было. Дык ён раскінуў у другі раз і паставіў новую печ. Так ён рабіў разоў з дзесяць, пакуль зрабіўся знакамітым маханікам. Ён сам прыдумаў печ такога гатунку, у якой досыць паліць раз на тыдзень. Адна бяда, кажа ён, што няма добрай цэглы, патрэбнай для гэтага. Ён кажа, што калі-б яму далі «кахлёвыя» цэглы, дык паставіў-бы печ на дзіва. Ён кажа, што печ рабіць цяжэй, чымся загаркі. Гэтым ён дразьніць свайго брата Шнэера. Яго брат Шнэер маладзейшы і вышэйшы за яго. І ў яго такі самы нос. Ён—зэгармайстар. Думалі, што будзе рабінам альбо разьнікам, альбо мэламэдам (настаўнікам). Такая ў яго галава да навукі! Дык яму захацелася мець справу з загаркамі. Як гэта сталася? Паслухайце!

Калі Шнэер быў яшчэ малым хлапцом,—так ён сам расказвае,—дык ужо думаў аб вялікіх справах. Ён стараўся ўласным розумам даходзіць сакрэту замка. Чаму, калі круціш ключом направа — адмыкаецца, а налева — замыкаецца? Альбо, як зроблен загарак? Чаму б'е якраз тады, калі вялікая стрэлка падыходзіць да дванаццаці? У першы раз,—кажа ён,—як пабачыў загарак з птушкай, дык ледзь не звар'яцеў. Загарак з птушкай падарыў яго бацьку адстаўны палкоўнік, які даваў яму работу. Кожны раз перад тым, як загарак павінен быў званіць, адчыняліся дзьверцы і выходзіла зязюля, якая кукавала. Зязюля была рыхтык жывая. Нават кот памыляўся. Кожны раз, як зязюля кукавала, кот стараўся яе злавіць.

Шнэер даў сабе слова выведаць сакрэт загарка. Аднаго разу, калі ў хаце нікога ня было, ён адпрырваўся да загарка. Зьняў яго са сьцяны, адкруціў усе шрубкі і выняў мэханізм. У гэты час падышоў бацька. Ён так біў яго, ажно думалі, што Шнэер ужо ня будзе жыць. Па сягоньнешні дзень,—кажа ён,—знакі на целе асталіся. Але Шнэер паставіў на сваім—ён зэгармайстар. Я не скажу, каб ён быў адным з лепшых, але за папраўку загарка бярэ танна. Бадай кожны тыдзень ён папраўляе загарак майго брата Элі. Мой брат Эля мо<br>жа панёс-бы загарак другому майстру, але перад Піняй яму нялоўка. Піня кажа, што вінават мабыць загарак сам, а ня дзядзька Шнэер, бо

калі загарак—загарак, дык кожны майстар яго паправі́ць. А калі сам загарак—не загарак, дык чым яму майстар паможа?

Ці-ж Піня няпраўду кажа?

## II

Піня таксама з вялікім розумам, як яго бацька Гэрша-Лейба маханік і як яго дзядзька Шнэер зэгармайстар. У яго такі самы доўгі нос. Уся іхная радня насатая. Яны маюць цётку Крэйну, дык яна мае дачку Малку, дык Малка мае такі доўгі нос,—хоць ты яго на выстаўку! А яшчэ ня так нос, як увесь твар. Малка выглядае, як птушка. Яна сароміцца людзям паказацца. Піня трохі ў яе ўдаўся. Але ў хлапца гэта ня гак прыкметна. Праўда, бяз сьмеху на яго глядзець нельга. Мала таго, што ён высокі і худы, дык мае яшчэ пару доўгіх вушэй, доўгую шыю, як у гусака, а ў дадатак ён трошку прысьлепаваты. Куды-б ні пашоў, дык з кім-колечы тыцнецца ілбом. Калі спыняецца, дык на нагу сустрэчнаму наступіць. Адна штаніна ў яго закасана ўверх, а шкарпэткі вісяць. Кашуля расхрыстана. Гальштук перакручаны. Як гаворыць, дык хрыпіць і сьлінаю брызгае, і надта цукеркі любіць. Калі з ім ні сустрэнешся, ён заўсёды нешта смокча. Але затое ён вельмі здатны і кемны. Няма нічога такога на сьвеце, аб чым ён-бы ня знаў, не разумеў і ня ўмеў. У навуцы, кажуць, што нават

рабіна перагнаў. Сваім пісаньнем заткнуў за пояс усіх вучоных. Апрача таго, што пекна піша, як друкуе, дык яшчэ мае вялікі спрыт да вершаў. Ён вершамі апісаў усё мястэчка: рабіна, разьніка, багатага Шмуйлу, сваю радню—усіх апісаў, і ўсіх—вершам. Вершы Піні хадзілі з рук у рукі. Усе лопаліся ад сьмеху. Усе ведаюць іх напамяць. Я таксама памятаю пару з яго вершаў:

Шмуйла наш багаты
Вельмі пузаты.
Карк свой горбіць,
З міскі сёрбае,
Аж віхурыць,
Пыл і дым курыць.
Яго жонка Сорка
Спрытна на гаворкі!
Розум яе бабіны,
Як у казы рабіна.
Я скажу знарок—
Трасца ім у бок.

Усё мястэчка шумела, кіпела гэтым вершам. Нехта прыдумаў да верша шабасовы сьпеў. Усе сьпявалі пра багатага Шмуйлу і яго жонку Сорку.

Даведаліся аб гэтым Шмуйла з Соркай. Паклікалі да сябе бацьку Піні і з плачам запыталіся: што мае да іх яго сын Піня?.. Прышоўшы дахаты, яго бацька, маханік Гэрша-Лейба, замкнуў усе дзьверы і так усыпаў Піні ў пэўнае

месца, што той дзесятаму заказаў болей вершаў ня пісаць. Пакуль жыць будзе, болей пісаць ня будзе.

## III

Наш сябар Піня, пасьля вялікай лупцоўкі за пісаніну, кінуў вершы пісаць. На ліха яны яму здаліся. Так кажа сам Піня. Захацелася яму жаніцца. Гэта значыць, не яму, а яго бацьку Гэрша-Лейбу захацелася, каб Піня жаніўся і каб стаў «чалавекам». Піня жаніўся з дачкой мельніка. Мельнік адчыніў для яго мучную краму. Мой брат Эля зайздросьціць яму, бо ў Піні ёсьць гешэфт, ёсьць да чаго рукі прычапіць. Піня з яго сьмяецца. Ён кажа: Праўда, ёсьць гешэфт, але не для мяне. Ці-ж гэта,—кажа ён,—работа пэцкацца з мукою? Гэта, кажа ён, пасуе такому неадукаванаму, як мельнік... Што я,—кажа Піня,— вінават, калі не магу сядзець у крамцы? Я не магу, бо мая галава імкнецца ў іншы бок, галава ляціць. Гэта, кажа ён, у нас такая сям'я—з лятучымі галовамі...

Так кажа Піня і ня хоча сядзець у крамцы. Ён лепей над кніжкай сядзець будзе, дык будзе яму прыемней, кажа ён. Праўда, яго цесьць, мельнік, вельмі злуецца, але павінен маўчаць. Ён баіцца, каб Піня яго ў вершах не апісаў. Апрача таго, ён вельмі песьціць сваю дачку. Яна ў яго аднааднюсенькая. Яна завецца Тайбка. Яна троху касавокая, але вельмі добрая. Мая маці кажа,

што Тайбка такая лагодная, хоць ты яе да скулы прылажы. Я, аднак, не разумею, як гэта да скулы прыкладаць?.. Тайбка цэлымі днямі ў крамцы, а Піня ў хаце сядзіць. Мы з братам бадай штодня ў яго бываем. Ён перад намі сэрца сваё расчыняе. Кожны раз ён перад намі стогне і вохкае, і скардзіцца на свой горкі лёс. Яму тут цесна і душна,—кажа ён. Ён чуе, што задыхаецца. Каб ён быў у іншым горадзе, дык было-б зусім інакш. Калі-б яго адгэтуль пусьцілі хоць на год, дык ён-бы сьвет перавярнуў дагары нагамі! Так ён кажа да майго брата Элі. Ні з кім ён такі ня шчыры, як з маім братам. Ён майму брату паказвае розныя лісты да вялікіх людзей. «Вялікія людзі» пішуць яму, што ў ім ёсьць нешта нейкае.

Піня таксама кажа, што ў ім ёсьць нешта нейкае. Я гляджу на яго і думаю: «Што ў ім такое ёсьць?..»

## IV

Аднаго разу прыходзіць да нас Піня і выклікае майго брата Элю на сакрэт. Калі сакрэт, дык я павінен ведаць. Я люблю знаць усе сакрэты, я хаджу за імі ззаду і лаўлю словы. Піня гаворыць і мой брат Эля гаворыць. Я вам перадаю іхную гутарку:

Піня: Што мы тут выседзім?

Эля: Я тое самае кажу.

Піня: Вось я чытаў, як адзін паехаў з пяцьцю пальцамі, паўгода начаваў на вуліцы, за кавалак хлеба вуліцы падмятаў.

Эля: Ну, а цяпер?

Піня: Каб нам ня горш.

Эля: Так?

Піня: Так! Так! А як-жа? Я табе маніць буду? Я ўжо гаварыў з сваёй Тайбкай.

Эля: А што-ж яна кажа?

Піня: Што ёй казаць? Яна едзе.

Эля: Яна едзе? Ну, а цесьць?

Піня: Хто яго слухае? Калі адзін паеду, яму лягчэй будзе? Ён-жа ведае, што ў мяне неспакойная галава, што я тут жыць не магу!

Эля: А ты думаеш, што я тут магу жыць?

Піня: Дык паднімемся і паедзем.

Эля: Падняцца і ехаць? З чым?

Піня: Шыфскарты мы дастанем дарам.

Эля: Што значыць дарам?

Піня: На выплату. Мы калі-колечы выплацім. Пакуль-што дарам.

Эля: Ну, а да мора? Выдаткі? Білеты? Чыгунка?

Піня: Колькі-ж нам білетаў?

Эля: Сапраўды, колькі-ж нам?

Піня: Лічы: Я і мая Тайбка—два. Ты і твая Броха—два, чатыры.

Эля: А матка—пяць.

Піня: Пяць.

Эля: Ну, а Мотка?

Піня: Для яго досыць паўбілета. А мо' і паўбілета замнога; мы скажам, што ён яшчэ трох год ня мае.

Эля: Ты звар'яцеў?

Што мне рабіць? Не магу болей стрымлівацца. З вялікай радасьці я падскочыў з крыкам. Абодва адвярнуліся да мяне. Я пускаюся бягом, падскакваю, б'ю сябе далонямі ў лыткі. Жартачкі— еду!.. Мора!.. Білет!.. Паўбілета!.. Куды, напрыклад, едзем? Мне і ведаць ня хочацца. Ці-ж гэта мая справа? Еду—і добра! Ведаеце, што я вам скажу? Калі мы захочам добра памазгаваць, дык я ў жыцьці сваім яшчэ нікуды ня езьдзіў. Я нават смаку язды ня ведаю. Праўда, троху гэтага смаку я пакаштаваў. Я калісьці паезьдзіў на казе нашага суседа, але гэта мне дорага каштавала. Мала таго, што я разьбіўся і нос сабе расквасіў, дык яшчэ пару разоў поўху меў. Дзеля гэтага я той язды ня лічу.

Цэлы дзень хаджу, як вар'ят. Страціў апэтыт да яды. Уначы сьніцца мне, што еду. Ня еду, а лячу. Нашуся на крыльлях, як птушка. Няхай жыве наш сябар Піня! У маіх вачох ён набывае ў тысячу разоў болей прыязьні, чымся раней. Каб не сароміўся, дык кінуўся-б яму на шыю абымаць і цалаваць. Такі любы Піня!

Ну, я-ж вам гаварыў, што ён багат на спрытныя думкі?

---

# ША, МЫ ЕДЗЕМ У АМЭРЫКУ

## I

Ша, мы едзем у Амэрыку! Дзе гэта Амэрыка?—я ня ведаю. Я толькі ведаю, што гэта далёка-далёка. Трэба туды ехаць і ехаць так далёка, аж пакуль ня прыедзеш. А як прыедзеш, дык ёсьць такое месца, дзе трэба скідаць вопраткі і доктару вочы паказаць. Калі ў вас здаровыя вочы, дык добра. А калі не, дык паедзеце гэтай-жа дарогай назад. Здаецца, у мяне здаровыя вочы. Хлопцы з школы іх выпрабавалі: злавілі мяне, кінулі на зямлю і ўсыпалі мне ў вочы тутун. Ну і дасталася ім ад майго брата Элі! Цяпер у мяне вочы, як крышталь. Затое з маёй маткай гора адно. Так кажа мой брат Эля. Яна цёнгля плача. Як бацька памёр, дык па сёнешні дзень плакаць не перастала.

— Зьлітуйся над намі! Праз цябе нас, не ў благі час кажучы, у Амэрыку ня пусьцяць!

Так кажа матцы мой брат Эля. Яна яму на гэта кажа:

— Дурненькі ты сынок! Ці я плачу? Нейк само плачацца, без мяне!..

Так кажа матка, выцірае вочы фартухом і бярэцца за падушкі. Трэба перасыпаць усе падушкі. У Амэрыцы няма падушак. Усяго там многа, толькі падушак няма. Як там людзі сьпяць—ня ведаю. Мабыць, пад галавою цьвёрда! У нас, дзякаваць богу, шмат гэтага дабра. Тры пярыны, шэсьць падушак і чатыры падушачкі. Маленькія падушачкі завуцца «байстручкамі». З гэтых чатырох «байстручкоў» матка робіць адну падушку. Я вельмі шкадую, бо кожны раз раніцай забаўляюся «байстручкамі». Раблю з іх башлычкі, катоў, сабачак...

— Як прыедзем жывенькія і здаравенькія туды, дык зноў перасыпім падушкі ў маленькія «байстручкі».

Так кажа мама да мяне і да маёй швагеркі Брохі. Маёй швагерцы вельмі ня хочацца ехаць у Амэрыку. Ёй цяжка расставацца з сваімі бацькамі. Каб ёй год таму назад казалі, што яна паедзе ў Амэрыку, кажа Броха, дык яна-б таму ў вочы плюнула.

— А каб мне год таму назад казалі, што я застануся ўдавой...

Так гаворыць матка і пачынае плакаць. Гэта заўважыў мой брат Эля і давай гвалтаваць:

— Зноў у плач кінулася? Мабыць, хочаш нас усіх абяздоліць?!.

## II

Надыходзіць на нашу суматоху суседка Пэся. Яна пачынае цэлае казаньне:

— Дык вы сапраўды едзеце ў Амэрыку? Дай вам бог шчасьця. Бог ўсё можа. Летась паехала туды мая крэўніца Рыва з сваім мужам Гіляй. Яна піша, што мучаюцца, перабіваюцца так-сяк, але жывуць... Як мы ні ўпрашвалі іх, каб пісалі, як людзі: што, калі і як?—дык яны адказваюць: Амэрыка — край для ўсіх. Кожны мучаецца і кожны жыве... Яшчэ добра, што пішуць. Спачатку нічога ня пісалі. Мы думалі, што ў моры ўтапіліся. Наогул, ці варта вам рабіць увесь гэты тарарам?

— Вы кінеце сыпаць нам перац у вочы?

Такімі словамі мой брат Эля нападае на суседку Пэсю і дастае ад яе заслужаную порцыю:

— Сыпаць перац у вочы? Глядзі, які разумненькі знайшоўся! Ён едзе ў Амэрыку! Ці-ж даўно я няньчылася з табою? На руках насіла. Запытайся маткі, колькі клопату я мела, калі ты раз у шабасовы вечар ледзь косткай не задавіўся. Каб я тады ня грукнула табе ў плечы раз, два і тры, дык цяпер ня ехаў-бы ў Амэрыку мучыцца і жыць!..

Наша суседка Пэся толькі-што пачала вастрыць свой язык. Яна-б яшчэ доўга гаварыла, але матка пачала яе маліць-прасіць:

— Пэсечка, родненькая, сэрцайка, любанька, каб вы былі жывы і здаровы...

Болей матка гаварыць ня можа. Пачала плакаць. Мой брат Эля ляпнуў дзьвярмі і выскачыў з хаты.

## III

Наша хата ўжо апусьцела. Маленькі пакоік заваленны клумкамі, пакункамі і падушкамі. Падушкі вырасьлі аж да столі. Калі ў хаце нікога няма, я ўзьбіраюся на ўсе падушкі і еду адтуль уніз, як з гары на санках. Мне здаецца, што ніколі мне яшчэ ня было так добра, як цяпер. Маці ўжо даўно яды ня варыць у печы. Мой брат Эля прыносіць з рынку сушаную рыбку і мы ямо з цыбуляй. Рыбка з цыбуляй смачней за ўсё. Наш сябра Піня таксама есьць з намі. Ён заўсёды зьбянтэжаны. Галава ў яго хадыром ходзіць. А з таго часу, як мы едзем у Амэрыку, ён зусім з панталыку зьбіўся. Так кажа на яго маці. Адна штаніна ў яго закасана ўверх, адна шкарпэтка— уніз. А як уваходзіць да нас у хату, дык заўсёды аб касяк бэнц ілбом! Мая маці кожны раз кажа яму:

— Ты-ж бачыш, што ты такі высокі, дык чаму-ж не нахіляешся?

— Ён кепска бачыць!

Так бароніць яго мой брат Эля, і разам з Піняй ідуць пакончыць з продажам нашай хаткі:

нейкія паперы напісаць. Хатку нашу мы ўжо даўно прадалі. Адкупіў яе кравец Зіля. Вось як хутка кравец хатку купляе: Зіля вялікі нуднік. Раней ён тры разы на дзень хадзіў аглядаць нашу хатку. Нюхаў сьцены, мацаў комін, лазіў на гару, аглядаў дах. Пасьля ён пачаў прыходзіць з сваёй жонкай. Яна завецца Мэня. Кожны раз, як гляну на яе, мяне разьбірае сьмех. Цялушка нашай суседкі таксама завецца «Мэня». Абедзьве «Мэні» падобны адна да аднэй. У цялушкі Мэні—круглыя вочы і белая морда. У краўчыхі Мэні—тое самае... Пасьля кравец Зіля пачаў прыводзіць з сабою знаўцаў аглядаць хатку, галоўным чынам, краўцоў—краўцоў з усяго мястэчка. Кожны з іх знаходзіць нейкі новы недахоп. Нарэшце, пастанавілі папрасіць на агляд хаткі бацьку Піні—Гэршу-Лейбу механіка. Гэрша-Лейба механік знаецца на такія рэчы. Ён вельмі справядлівы чалавек. Яму можна паверыць. Прыходзіць Гэрша-Лейба і аглядае хатку з усіх бакоў. Ён падымае галаву ўгару, чэша сабе пад барадой і кажа:

— Вось гэта хатка можа стаяць сто год, калі ня болей.

Яму памагае адзін з хэўры краўцоў:

— Напэўна! Абы толькі перасыпаць яе цэгламі, даць некалькі дубовых падпораў, паставіць чатыры новыя сьцены і зацымбаліць бляшаны дах, тады яна будзе стаяць і стаяць, калі бог захоча, аж да прыходу Мэсіяша!

Каб, скажам, Гэршу-Лейбу механіка паслалі да яго бацькі і маткі, каб яго аблілі варам, ён-бы мацней і шчырэй не зазлаваўся. Ён толькі адно пытаўся:

— Скуль гэта ў такога паруэ, краўчугі, зладзюгі, шальмяца бяруцца слаўцы спрачацца з ім—з Гэршанам-Лейбай механікам? Дзе-ж гэта той недарэка набраўся, як жаба гразі, такіх слоў, такіх гутарак, такой мовы, такіх вымовак, такога баламуцтва? Дзе-ж гэта ён так свой паганы язык навастрыў!?

Я дармо радаваўся: я думаў, што во-во зазьвіняць, заляпаюць аплявухі. Нарэшце, наскочылі людзі (усюды вырастаюць «людзі!»), узяліся за іх, і памірылі, і пачалі таргавацца, і прышлі да згоды, і паслалі па гарэлку, і пілі магарыч. Віншавалі нас, каб мы шчасьліва паехалі, каб шчасьліва даехалі, каб гешэфты былі ў нас добрыя, каб зараблялі шмат грошай, і каб вярнуліся назад сюды з божай дапамогай...

— Паволі! Ня так хутка варочаюцца назад з Амэрыкі!—кажа мой брат Эля.

## IV

Пачалася новая суматоха—разьвітвацца. Ад хаты да хаты ходзім і разьвітваемся. Мы былі ўжо ўва ўсіх нашых крэўных, суседзяў і знаёмых. У Ёны пекара мы адсядзелі цэлы дзень. Там сабраліся ўсе. Там мы абедалі, пілі піва. Мяне па-

садзілі побач з сястрой маёй швагеркі. Алтка завецца яна. Яна на год старэйшая за мяне і носіць дзьве касічкі, скручаныя ззаду ў абаранак. Кабалісьці мне яе сваталі. З таго часу, калі нас бачаць разам, дык завуць «жаніх і нявеста». Аднак, мы не саромімся і ціха гутарым паміж сабою. Яна ў мяне пытаецца, ці я буду па ёй сумаваць?— Пэўна, буду сумаваць! Пасьля яна яшчэ пытаецца, ці я буду ёй лісты пісаць з Амэрыкі?—Пэўна, буду пісаць лісты з Амэрыкі!

— Як ты будзеш пісаць? Ты-ж ня ўмееш пісаць?

— Вялікая штука ў Амэрыцы пісаць навучыцца!—кажу я, укладаючы рукі ў кішэні. Алтка глядзіць на мяне і ўсьміхаецца. Я ведаю, чаго яна ўсьміхаецца. Яна бярэ сябе ў рукі. Ёй баліць, што я еду, а яна—не.

## V

Ужо прыехаў Лэйзар на «арлох». Тройка гарачых стаеньнікаў! Яны ня могуць стаяць на месцы: тупаюць нагамі, пырскаюць сьлінай мне ў твар. Я ня ведаю, што раней рабіць: ці глядзець на коняй, ці памагаць насіць бэбахі на воз? Я раблю і адно і другое: я стаю каля коняй і гляджу, як носяць нашы бэбахі на воз. Поўны воз. Цэлая гара падушак. Пара ўжо ехаць. Да чыгункі нам сорак пяць вёрст. Ужо ўсе сабраліся: мой брат Эля, і мая швагерка Броха, і наш сябра

Піня, і яго жонка Тайбка, і ўся іх сям'я: бацька Піні, Гэрша-Лейба маханік, Шнэер зэгармайстар—і ўсе, усе нашы крэўныя і крэўныя Піні. Ёна пекар з сваімі сынамі. Шкада, што я вас з імі не пазнаёміў. Цяпер часу ня маю. Мы едзем у Амэрыку. Усе тупаюцца вакол, глядзяць на нас, даюць нам розныя парады, як асьцерагацца жулікаў.

— У Амэрыцы няма жулікаў.

Так кажа мой брат Эля і бярэцца рукамі за кішэню, якую матка яму прышыла ў такім месцы, каб ніякі злодзей на сьвеце не дагадаўся, што там можа быць кішэня. Там ляжаць грошы, якія мы дасталі за хату. Мабыць, ёмкі кош грошай, бо ўсе пытаюцца, ці ён добра грошы схаваў?

— Добра! добра! Не бядуйце!—кажа мой брат Эля. Яму ўжо надакучыла кожнага паасобку запэўняць аб грашох. Пачалі разьвітвацца. Пачалі цалавацца, плакаць.

Глядзець, як Піня цалуецца—цікавей, чымся быць у тэатры. Піня—прысьлепаваты, дык не трапляе туды, куды трэба. Альбо ў бараду пацалуе, альбо ў кончык носа, альбо стукнецца ў лоб. Мае ён яшчэ прывычку, як ідзе, дык падскаквае і чапляецца за свае ўласныя ногі. Я вам кажу, што жывот можа лопнуць ад сьмеху. Дзякаваць богу, мы ўжо сядзім на возе. Я з фурманом на перадку. Маці хацела мяне пасадзіць на падушках, дык мой брат Эля казаў, што на перадку мне будзе лепей. Пэўна будзе лепей! Тут я бачу

перад сабою ўвесь сьвет і ўвесь сьвет мяне бачыць! Лэйзар бярэцца за пугу, а ўся хэўра бярэцца за плач.

— Бывайце здаровы!

— Усяго найлепшага!

— Пішэце нам аб вашым здароўі!

— Дай вам бог шчасьця!

— Не забывайце нас!

— Пішэце кожны тыдзень!

— Перадайце прывітаньне Мойшы з Басяй, з Мэерам, з Златай, з Хана-Пэрляй, з Сорай, з іхнымі дзяцьмі!

— Бывайце здаровы! Бывайце, здаровы!

Так мы ўсе крычым, і мне здаецца, што ўжо едзем. Лэйзар шчыра сьцебануў пугай кожнага з сваіх «арлоў». Аднаму яшчэ ў дадатак пугаўём падсыпаў. Калёсы круцяцца. Мы ківаемся і падскакваем. Нешта казыча ў горле. Хочацца сьпяваць. Мы едзем, мы едзем, мы едзем у Амэрыку!

---

# МЫ КРАДЗЕМСЯ ПРАЗ ГРАНІЦУ

## I

Ехаць на чыгунцы вельмі прыемна! Фурманкай таксама ня кепска, але трасе, і пасьля гэтага страшна бакі баляць. Коні Лэйзара праўда носяцца, як арлы. Аднак, мы доўга цягнуліся, пакуль дабраліся да станцыі. А як прыехалі, дык не маглі вылезьці з воза. Мне было лепш за ўсіх. Я сядзеў на перадку побач з фурманам Лэйзарам. Было цьвёрда. Косьці балелі. Але затое я ў любую хвіліну—скок з воза. Яны гэтага рабіць не маглі. Вы ведаеце, хто гэта «яны»: мой брат Эля з маёй швагеркай Брохай, наш сябар Піня з сваёй жонкай Тайбкай і мая маці. Горш было кабетам. Яны былі завалены пакункамі і бэбахамі! Раней трэба было павыкідаць усё з воза, а пасьля выцягваць паасобку баб. Усё гэта рабіў Лэйзар. Ён, праўда, злосны чалавек і лаецца на чым сьвет стаіць, але затое справядлівы і шчыры балагол (фурман). Адна бяда, што ён кінуў нас з пакункамі і падушкамі на станцыі, а сам пабег шукаць новых пасажыраў да мястэчка. Мы без яго засталіся на станцыі пакінутымі, адзінокімі,

як у лесе. Зараз-жа сторож пачаў да нас чапляцца за падушкі. Яго справа, што ў нас шмат падушак. Мая матка гаворыць да яго лагодна. Яна кажа, што мы едзем у Амэрыку. Дык ён накідваецца, як разбойнік, і радзіць, каб мы паехалі ў такое месца у..., але мне сорамна казаць вам куды.

— Трэба з гэтым «гоем» як-колечы паладзіць, даць яму хапу ў лапу...

Так кажа мой брат Эля да нашага сябра Піні. Піня—наш павадыр, наша галава.

Ён умее гаварыць парасійску. Адна бяда, што ён трохі загарачы і імпэтны. Чуць што, дык ён заёрзае, агнём загарыцца і пачынае сыпаць, як боб, лаянкі. Ён падыходзіць да стоража і пачынае з ім гутарку парасійску. Я гэта вам перадаю парасійску і зараз-жа пералажу на нашу мову:

— Слушай но, человек! Черт тебе не взял, как мы поехали в Америку из множественэ число подушки и подушечки, каторе ми тоби дал на водке и молчи, свинья!

На нашай мове гэта выходзіць шмат пякней:

— Слухай ты, чалавеча! Чорт цябе ня возьме, калі едзем у Амэрыку і вязем з сабою шмат падушак і падушачак. Мы табе дамо на кілішак гарэлкі і маўчы, сьвіньня!

Сторож у кішэню па слова не палез і сыпнуў Піні ў самыя вочы: «жыд халамід», «сабачая морда», «сьвіное вуха», «паганая вера». Мы спа-

лохаліся скандалу, паліцыі. Мая маці пачала ўжо рукі ламаць і казала да Піні з плачам:

— Хто цябе прасіў, каб ты выскачыў з сваім языком, каб паказваў, што ты ўмееш?

— Ня бойцеся. «Гой» возьме паўкарбованца і будзе «гут»!

Так яно і вышла. Піня сыпаў парасійску, а сторaж сыпаў брыдкія лаянкі направа і налева і давай цягаць пакі і падушкі ў вялікую хату з высокімі вокнамі, што завецца «вакзал». Але тут пачаўся самы галоўны тарарам. У чым справа? Сторaж кажа, што нас ня пусьцяць у вагон з гэтымі падушкамі і анучамі. (Ён, мабыць, коўдры «анучамі» называе. Яны троху парваныя—і вата лезе з усіх бакоў). Трэба ісьці да «начальніка». Хто павінен ісьці?—Вядома, Піня! Піня ідзе за сторажам «да начальніка». Я—шмырг за імі.

З «начальнікам» Піня бяседуе зусім інакш. Ён гавора троху спакайней, лагодней, махаючы рукамі. Ён фарсіць, смаліць нейкія дзіўныя словы, якіх я ніколі ня чуў: «Калёмбус», «цывілізацыя»..., «Аляксандр-Фон-Гумбольт». «Сланімскі»... «Матэматыка»... Рэшта слоў я ўжо ня памятаю.

«Начальнік» яго ўважліва слухаў, паглядаў на яго і маўчаў. Мабыць, яго задзівіла вучонасьць Піні. Але і гэта не памагло. Трэба было ўсе падушкі аддаць у багаж, і на рукі выдалі квіток. Маці вельмі занепакоілася: на чым-жа мы будзем спаць?

## II

Маці дарма непакоілася: на чым мы будзем спаць. Дзе ўжо спаць, калі і сядзець ня было дзе. У вагоне было так цесна, што задушыцца можна было. Сярод пасажыраў многа яўрэяў і хрысьціян. Дзеля падушак мы праваронілі самыя лепшыя месцы. Ледзь удалося нам пасадзіць кабет з пакункамі на падлозе. Матку ў адным канцы вагона, Броху і Тайбку—у другім канцы. Калі ім трэба гаварыць паміж сабою, дык яны крычаць на ўвесь вагон, пераклікаюцца, як гусі. Усе з іх сьмяюцца. Мой брат Эля і наш сябар Піня засталіся як-бы ў паветры вісець—ні туды, ні сюды. Сьлепаваты Піня часта дастае штурхачы ў лоб ці ў бок. А я? За мяне не бядуйце! Мне добра! Мне весела! Праўда, таўкуць мяне з усіх бакоў на мак, ціскаюць на сыр. Я стаю ля вакна. Тое, што я бачу, вы, пэўна, ніколі ня бачылі. Перад маімі вачыма носяцца хаты, слупы, дровы, людзі, лясы, поле—страхоцьце! І не раскажаш! А цягнік, як імчыцца! А калёсы, як бражджаць! А які стукат і грукат! А як сьвішчыць і пішчыць!

Матка баіцца, каб я ня выпаў праз вакно, дык яна кожную хвіліну крычыць на ўвесь голас:

— Мотл! Мотл!

Нейкі малады панок у сініх акулярах яе перадразьнівае, кажа такім-жа тонам: «Мотл! Мотл!» Усе хрысьціяне сьмяюцца. Яўрэі нібы ня чуюць. Матку маю гэта цікавіць, як леташні сьнег. Яна

галосіць у адзін тон: «Мотл! Мотл!» Чаго ёй яшчэ трэба? Ёй хочацца, каб я што-колечы зьеў. У нас вельмі смачныя рэчы—царская яда: рэдзька, цыбуля, зялёныя агурцы, яйкі. На кожнага адно яйка. Я ў першы раз ем такія прысмакі. Нашаму піру троху перашкодзіў сам Піня. Ён ня можа маўчаць, калі крыўдзяць яўрэя. Усе сьмяюцца з нашай яды. Піня падымаецца ўва ўвесь высокі рост і кажа да панка ў акулярах парасійску:

— А как ві кушаеце сьвіньня? (А калі вы ясьцё сьвініну?).

Гэтыя словы не спадабаліся хрысьціянам. Адзін з іх падняўся, мабыць, аж да пячонкі яго прабрала. Ён падскочыў да Піні, ляпнуў яму поўху так моцна, ажно зазьвінела вакол. Нашага сябра Піню таксама ўлегцы ня возьмеш. Ён хацеў адплаціць удвойчы. Але, як вам вядома, ён прысьлепаваты. Зусім не таго чалавека ўдарыў. На шчасьце, падышоў кондуктар з обэр-кондуктарам. Паднялася суматоха, крык, галас. Усе гавораць, усе крычаць. Аднаму нагу прыціснулі чамаданам. У другога шапку выкінулі праз вакно.

Хрысьціяне крычаць: Гэта выдумка! Хлусьня! Яўрэі выбралі сьведак наўмысьля двух хрысьціян. Адзін з іх поп.

Хрысьціяне кажуць, што яўрэі падкупілі папа. Поп гаворыць цэлае казаньне.

Праляцелі такім чынам некалькі станцый. На кожнай станцыі вагон робіцца прастарнейшым.

Пасажыраў усё менш. Нашы кабеты ўжо, як пані, сядзяць на скамейках. Мой брат Эля і наш сябар Піня аджылі, адхаяліся. Яны сядзяць на самых лепшых мясцох. Толькі цяпер Тайбка заўважыла, што ў яе мужа Піні шчака, як булка, паднялася, і засталіся на ёй знакі ад пальцаў. Тайбка верадуе. Піня ўспакойвае, кажа, што не баліць. Толькі сьвярбіць. Ён ня любіць гутарыць аб гэтым. Ён лепш гаворыць з суседзямі-яўрэямі. Ён пытаецца, куды яны едуць. Аказваецца, што шмат з іх едзе ў Амэрыку. Пачуўшы гэта, мы вельмі ўзрадаваліся.

— Чаго-ж вы дагэтуль маўчалі? Мы таксама едзем у Амэрыку!

Так гаворыць да іх Піня. Мы хутка знаёмімся. Мы ўжо ўсе ведаем, хто адкуль і куды едзе.

— Вы ў Нью-Ёрк? А мы ў Філядэльфію!

— Што гэта за Філядэльфія?

— Такі самы горад, як Нью-Ёрк!

— Ша, паволі! Філядэльфія супроць Нью-Ёрку, як Эйшышкі супроць Вільні, Дракма супроць Адэсы, Атвоцк супроць Варшавы, Сямёнаўка супроць Пецярбургу, Казелец супроць Харкава...

— Тэ-тэ-тэ! Гэта-ж вы, няўрокам кажучы, цэлы сьвет ведаеце!

— Каб я столькі меў, сколькі бачыў! Калі хочаце, я вам пералічу ўсе гарады, дзе я бываў...

— Гэта пакіньце на шабас. Вы лепш кажэце, што мне рабіць з граніцай?

— Будзеце рабіць тое, што мы робім, што ўсе робяць.

Пачынаецца гутарка аб тым, як перакрасьціся праз граніцу. Я не разумею, што значыць «красьціся праз граніцу»? Ці-ж мы зладзеі?.

У каго пытацца? Маці ня ведае. Што можа знаць баба? Мой брат Эля ня любіць, каб яму дурылі галаву. Ён кажа, што такі хлопчык, як я, не павінен умешвацца ў гутарку дарослых. Піня часу ня мае. Ён гаворыць. Усе гавораць. Кожны расказвае сваю байку пра граніцу.

Ша! мы ўжо ля граніцы!

## III

Я думаў, што «граніца» мае нейкія рогі. Але нічога надзвычайнага няма: такія самыя будынкі, такія самыя яўрэі і хрысьціяне, як у нас. Нават такі рынак і такія крамкі, як у нас. Мая швагерка Броха і Тайбка—жонка нашага сябра Піні—пашлі на рынак па пакупкі. Я таксама хачу ісьці з імі, дык матка не адпускае ні на хвіліну. Яна баіцца, каб мяне ня ўкралі на самай граніцы. Мой брат Эля і наш сябар Піня кудысь пашлі. Яны шушукаюцца з чужымі яўрэямі, якіх я ня ведаю. Матка кажа, што гэта агенты. Агенты будуць з намі «красьці» граніцу. Адзін з іх, сапраўды, як злодзей выглядае. Зялёная халадайка, белы парасон і зладзейскія вочы. А другі, наадварот, выглядае вельмі паважным, у капялюшы. Вакол

іх круціцца, як уюн, яўрэйка. Яна мае выгляд набожнай, справядлівай. Яна ўвесь час з богам гаворыць. Яна пытаецца ў маёй маткі, дзе яна шабасовыя сьвечкі запаліць, калі мы будзем тут шабасаваць? Матка кажа, што мы тут шабасаваць няе будзем. Шабасаваць будзем з божай дапамогай па тым баку граніцы. Яўрэйка робіць набожны твар і кажа: «Амэн, божачка». Але яна баіцца, каб мы не папаліся ў пастку. Агенты, кажа яна, з якімі мы вядзем гутарку, простыя зладзеі. Яны вывудзяць у нас усе грошы, кажа яна, і завядуць нас у багну. Калі мы хочам, кажа яна «красьці» граніцу, дык лепш «красьці» з ёю, дык нам будзе прыемна і добра!.. Вось як? Яна таксама зладзейка? Дык навошта з богам гаворыць?..

## IV

Цэлы дзень мы заняты сваімі бэбахамі. Трэба ўсё запакаваць і аддаць старой яўрэйцы. Яна ўсё гэта нам пасьля ператарабаніць на той бок граніцы. Галоўным чынам, кажа яна, нашы ўласныя асобы. Яна дае нам парады, як трымацца. Калі падыдзе поўнач, кажа яна, нам трэба выйсьці з мястэчка. Там, кажа яна, ёсьць узгорак. Нам трэба мінуць гэты ўзгорак, кажа яна, ды ісьці налева, ісьці ды ісьці, пакуль заўважым яшчэ адзін узгорак. Мінуўшы другі ўзгорак, кажа яна, нам трэба павярнуць направа, так ісьці доўга, па-

куль дабярэмся да карчмы. Няхай у карчму ўвойдзе толькі адзін з нас, а ня ўсе. Там мы трапім, кажа яна, двух мужыкоў, якія п'юць гарэлку пры століку. Трэба падысьці, кажа яна, да іх і сказануць «Хаймова»—гэтага досыць. Як толькі яны пачуюць слова «Хаймова» (яе імя), дык яны падымуцца, кажа яна, і пойдуць з вамі да лясочку. У ляску вас будуць чакаць яшчэ чатыры мужыкі. Калі яны будуць спаць, дык вы іх разбудзіце. Як будзеце ў лясочку, кажа яна, дык голасна не гаварэце, пікнуць нельга, каб, барані бог, не пачулі і не пачалі страляць. На кожным кроку, кажа яна, стаіць салдат са стрэльбай і страляе... З лясочку, кажа яна, мужыкі выведуць вас на дарогу ўжо па тым баку граніцы...

Байка з узгоркам, з карчмой, з лясочкам мне вельмі спадабалася. Матцы троху боязна. Броха і Тайбка таксама палохаюцца. Мы жартуем над імі. Бабы і вераб'я баяцца.

Ледзь ночы дачакаліся. Павячэралі. Пацямнела. Якраз у дванаццаць мы, усе шэсьць чалавек, пусьціліся ў дарогу. Наперадзе ішлі мы—мужчыны. За намі кабеты. Гэтак, як напрарочыла нам старая яўрэйка, так і было. Мы пабачылі ўзгорак. Мінулі яго і павярнулі налева. Мы ішлі да ішлі і пабачылі яшчэ адзін узгорак. Тут мы павярнулі направа і доўга ішлі, аж пакуль дабраліся да карчмы. У карчму пашоў адзін з нас. Хто? Вядома, Піня. Мы чакаем паўгадзіны, гадзіну, дзьве гадзіны—няма Піні. Кабеты нашы

кажуць, што трэба ісьці паглядзець, дзе Піня? Каму ісьці?—Майму брату Элі. Мама кажа, што яна баіцца. Тады я парываюся ісьці—зноў баіцца. Ша! Вось Піня.

— Дзе ты так доўга марудзіў?

— У карчме.

— Дзе мужыкі?

— Сьпяць.

— Чаму ты іх не разбудзіў?

— Скуль ведаеце, што я іх ня будзіў?

— Чаму ты ім не казаў Хаймова?

— А скуль ведаеце, што я ім не казаў?

— Ну?

— Ну—ну!

— Гэта-ж кепска!

— А хто кажа, што добра?..

## V

Мой брат Эля сапраўды разумны чалавек. Ён кажа, што трэба пайсьці ў карчму ўдвох, папрабаваць яшчэ разбудзіць мужыкоў. Так яно і сталася. Ня мінула і поўгадзіны, ажно паказваюцца нашыя з мужыкамі. Мужыкі яшчэ заспаныя, троху п'яныя, плююцца і лаюцца брыдкімі словамі—аж страх. Слова «чорт» мо' сто разоў казалі. Мне здаецца, што кабеты троху іх баяцца. Гэта я пазнаю па іх войканьні і стагнаньні і па шэптах «божачка», якія вырываюцца з вуснаў маёй маткі. Голасна казаць яна

баіцца. Мы маўчым, як вады ў рот набраўшы. Мы ідзём ды ідзём, болей нікога ня відаць. Дзе-ж яшчэ чатыры? Раптам нашы правадыры спыняюць ход і пытаюцца ў нас, колькі грошы маем? На нас нападае такі страх, што зуб аб зуб ляпае. Мая матка кажа, што ў нас няма грошай. Тады мужыкі кажуць, што гэта няпраўда. Усе яўрэі маюць грошы. Яны пры гэтым вымаюць нажы і кажуць: «Калі нам грошы не дасьцё, мы вас зарэжам!..» Усе мы стаім і дрыжым, як авечкі. Мама шэпча да майго брата Элі, каб ён разьвязаў кішэню і аддаў ім грошы (тыя грошы, якія мы дасталі за нашу хатку). Мая швагерка Броха ў гэту хвіліну абамлела. Убачыўшы гэта, мая матка загвалтавала на ўвесь голас. Тайбка таксама падняла крык.

Раптам—трах—тарарах!!! Пачуліся стрэлы. Пошчакі пашлі па лесе. Мужыкі зьніклі. Броха ачнулася. Матка схапіла мяне за адну руку, брат Эля за другую:

— Дзеткі! Бяжым!.. Бог паможа нам!..

Ня ведаю, скуль бярэцца ў маткі столькі сіл?—Кожную хвіліну мы чапляемся аб дрэвы і падаем. Падымаемся і далей бяжым. Кожны раз матка адварочваецца і ціха пытаецца:

— Пiня, бяжым? Броха, бяжым? Тайбка, бяжым? Бяжыце, бяжыце, бог нам паможа!

Колькі часу мы так беглі—ня ведаю. З лесу мы ўжо даўно выбраліся. Бярэцца пад дзень.

Халодны ветрык дзьме ў твар. Але нам вельмі горача. Перад намі вуліца, і яшчэ вуліца. Белая царква, агароды, хаткі. Гэта, мабыць, тое мястэчка, якое нам напрарочыла старая яўрэйка. Такім чынам, мы ўжо «ўкралі» граніцу. Насустрач—яўрэй з такімі доўгімі пэйсамі, якіх я ў жыцьці ніколі ня бачыў. На ім—доўгі да пят, парваны халат. На шыі—зялёны шалік. Ён гоніць перад сабою казу. Мы затрымліваем яго з казой і кажам яму «дзень добры!» Яўрэй з казой аглядае нас з галавы да ног. Піня пачынае з ім гутарку. Яўрэй гаворыць неяк дзіўна. Мова—наша, але ён усё акае: «а-а-а». Піня пытаецца, ці яшчэ далёка да граніцы. Яўрэй дзівіцца: «якая граніца»? Выходзіць так, што мы ўжо даўно перайшлі расійскую граніцу.

— Калі так, дык што-ж мы бяжым, як вар'яты.

Мы ўсе пачынаем дзіка сьмяяцца. Кабеты аж падаюць ад сьмеху. Мая матка падымае рукі ўгару і кажа: «Дзякуй табе, божачка!»

Працяглы плач вырываецца з яе грудзей.

---

# ПА ТОЙ БОК ГРАНІЦЫ

## I

Ведаеце дзе мы блытаемся?—Мы ўжо па той бок граніцы! Аж у Бродах. Броды прыгожы гарадок! Ня тыя вуліцы, ня тыя людзі, што ў нас. Нават яўрэі не такія яўрэі, што ў нас. Гэта значыць, што яўрэі, тыя самыя яўрэі, як у нас. А калі хочаце, дык яны яшчэ болей яўрэі, чымся нашыя яўрэі. Пэйсы куды даўжэйшыя, чымся ў нашых. Халадайкі цягнуцца аж да зямлі. Яны носяць нейкія дзіўныя капялюшыкі, паясы, пантоплі і шкарпэткі, а кабеты—парыкі. Але іхная мова—ой, мова! Гэта завецца нямецкая мова. Ня так, як у нас. Гэта значыць, словы тыя самыя, як у нас, але ўсё выгаварваецца на «а». Напрыклад: у нас «вос» (што)—у іх «вас», «дос». (гэта)—«дас», «брэйт» (хлеб)—«брайт», «Мэер»—«Маер». А сама гаворка іхная! Яны не гавораць, а пяюць. Заўсёды сьпяваюць—вясёлы народ! Мы хутка прылаўчыліся. Першым быў наш сябар Піня Ён пачаў гаварыць панямецку бадай з першага дня нашага прыбыцьця. Яму было лягчэй, бо ён яшчэ дома вучыўся панямецку. Мой брат Эля кажа, што

хаця ён ніколі панямецку ня вучыўся, аднакжа разумее ня меней за Пініо. Я прыслухоўваюся да нямецкай гутаркі і вучуся. У чужым краі трэба ведаць яго мову. Так кажа Піня. Яго жонка Тайбка ўжо таксама гаворыць напалову панямецку, напалову паяўрэйску. Мая швагерка Броха, жонка Элі, таксама хацела-б гаварыць панямецку, але бедная ня ўмее. Нядольная! А матка зусім на хоча ведаць нямецкай мовы. Яна будзе гаварыць, - кажа матка, так, як дома гаварыла. Дзеля немцаў ламаць язык яна ня мае ахвоты. Яна зусім злуецца на іх. Яна думала, што немцы людзі справядлівыя, дык аказваецца, што яны таксама не сьвятыя. Анэгды яна была на рынку, дык ёй не даважылі тавару. Яна прасіла фунт, а далі ёй—яна сама ня ведае колькі.

Так апавядае матка і канчае тым, што сярод немцаў, мабыць, таксама ёсьць зладзеі. Пачула гэта мая швагерка Броха, дык разгарачылася і замахала рукамі:

— Вы кажаце зладзеі? Злодзей на злодзеі! Адзін злодзей горшы за другога! Трэба іх асьцерагацца горш, чым у нас! У нас прынамсі ведаюць, што мужык—злодзей.

— У нас, дурненькая, сам мужык ведае, што ён злодзей.

Так кажа матка і расказвае байку пра белага бычка—пра нейкую дзеўку Хімку. Была ў нас калісьці дзеўка Хімка. Тады яшчэ тата,

сьвятой памяці, жыў. Дык гэтая Хімка была добра дзеўка, але троху зладзейка. Бывала, усе разыйдуцца з хаты, дык яна не хацела аставацца адна. Яна сама сябе баялася, каб нічога ня ўкрала...

## II

У немцаў усё ня так, як у нас. Нават грошы не такія, як у нас. Тут ня ведаюць ні капейкі, ні грыўні, ні залатоўкі, ні саракоўкі. Тут нейкія грэйцы. Усё прадаюць за грэйцы. За наш рубель даюць бяз конца грэйцаў. Мая матка кажа, што гэта ня грошы, а гузікі. Мой брат Эля кажа, што грэйцы разыходзяцца між пальцаў, як сьнег. Штодня ён садзіцца ў куточку, распорвае кішэню, вымае рубель і зноў зашывае кішэню. Так штодня. А дні плывуць, а нашых пакункаў і падушак яшчэ няма. Яўрэйка, якая «крала» з намі граніцу, мабыць, учыніла над намі лоўкі жарт. Мала таго, што на нас напала ў лесе яе-ж цёплая кампанія, дык мы яшчэ застанемся бяз нашых бэбахаў. Маці толькі войкае і войкае: «Дзе нашы падушкі і падушачкі? Як мы кранемся ў Амэрыку без падушак?.»

У Піні кожны раз зьяўляецца новы проект. Ён кажа, што пойдзе з «заявлением» праз чыгунку, з «прошением» да «начальніка» граніцы. Ён пераскокне туды да яўрэйкі і так за-

дасьць ёй на ўсе застаўкі, так задасьць, ажно ёй горка і моташна стане! Ён запытаецца ў яе: «Ці-ж можна так?!..» Але дурныя паперы! Не памогуць ні «заявление», ні «прошение»! Таўбка ня пусьціць яго туды да яўрэйкі. Дудкі! Каб ёй поўную хату золата насыпалі—і то ня пусьціць. Так яна секанула языком, і няхай хоць сьвет перавернецца—яна яго ня пусьціць. Ёй яшчэ ікаецца тое, як «кралі граніцу». Мы ўсе яшчэ памятаем смак граніцы.

Мы кожнаму апавядаем гэтае жудаснае здарэньне: як мы кралі граніцу, як яўрэйка дала нам мужыкоў, каб ператарабаніць нас на гэты бок, як мужыкі хацелі нас зарэзаць у лесе; на шчасьце, мая швагерка Броха абамлела і мая матка залемантавала. Пачулі салдаты і давай страляць. Мужыкі ўцяклі, і мы выратаваліся. Так апавядае матка.

Мой брат Эля апавядае гэтае самае, але троху інакш.

Броха яго перапыняе і расказвае гэта самае, але зноў іначай.

Тайбка кажа, што Броха ня ўсё памятае, бо яна абамлела і хоча апавядаць гэтае самае ад самага пачатку.

Урываецца наш сябар Піня і кажа ёй, што яна нічога ня ведае. Вось ён раскажа яшчэ раз ад пачатку да канца.

Штодня і кожнаму паасобку мы апавядаем гэту самую прыгоду аб тым, як мы «кралі гра-

ніцу». Усе слухачы ківаюць галовамі, цмокаюць губамі. Яны кажуць, што нам яшчэ пашанцавала! Мы павінны богу сьвечку паставіць!

## III

Па гэтым баку граніцы нам добра, яшчэ лепей, чым дома. Рабіць мы нічога ня робім. Палец аб палец не кранем. Альбо сядзім у гасьцініцы, альбо спацыруем па вуліцах. Харошы гарадок. Я ня ведаю, што мае швагерка Броха да гарадка? Штодня яна знаходзіць нейкую новую прычэпку. То ёй не падабаецца, бо гразка. То яна кажа, што сьмярдзіць горш, чым у нас. Аднаго разу ўночы яна прачнулася з крыкам: напалі на яе. Мы ўсе паўскочылі з ложкаў:

— Хто на цябе напаў? Разбойнікі?

— Якія разбойнікі? Клапы!

Раніцой мы аб усім гэтым даем знаць гаспадару, дык ён ня ведае, што гэта за прысмакі клапы. Тады Піня тлумачыць яму панямецку. На гэта ён кажа, што ў Нямеччыне няма такіх дабрадзеяў. Гэта, мабыць, мы самі, кажа ён, з таго боку граніцы прывезьлі...

Ну, і злуецца-ж на яго Броха! Яна ненавідзіць яго, кажа яна, горш пярэхрыста! Я ня ведаю за што. Здаецца вельмі прыстойны чалавек. Гаворачы, ён троху крывіць рот і ўсьміхаецца. Апрача таго ён вельмі любіць даваць парады. Куды нам ісьці, у каго купляць і ў каго ня

купляць. А калі куды ідзем што-колечы купляць, дык ён з намі таксама ідзе. Болей усяго мы купляем вопраткі. Мы пачалі троху лепш апранацца. Наш сябар Піня кажа, што брыдка быць адзетым пажабрацкаму. У чужым горадзе, кажа ён, трэба быць людзьмі. Тым болей тут заграніцай, дзе ўсё бадай задарма дастаеш. Гэта-ж вядома ва ўсім сьвеце.

Раней за ўсё ён сабе купіў капялюш нямецкі, пільчак кароткі да кален і новы гальштук. Трэба быць мацней жалеза, каб зірнуць на Піню ў яго новых нямецкіх вопратках. Доўгі ён і ценькі. Да гэтага яшчэ прысьлепаваты. А ў дадатак—падскаквае ідучы. А што адзін нос яго варт? Матка кажа, што ён да нячысьціка падобен. Мой брат Эля знаходзіць, што ён акурат «вэнгерац», альбо «катарыншчык». На гэта Піня кажа, што нямаведама што пякней: ці «вэнгерац», ці «катарыншчык», або «жабрак»? Гэта ён пра нас думае. Мой брат Эля адказвае, што каб хацеў, дык і ён-бы апрануўся, як немец. Зусім невялікая штука, кажа ён, грошы ветрам пусьціць, карбованцы растыцкаць. Рубельчыкі патрэбны, кажа ён, і ў Амэрыцы... Пхі—спрачаецца Піня: у Амэрыцы нам грошы не патрэбны. Там, кажа ён, мы самі грошы!

Ён так доўга над намі бубніў, пакуль мой брат Эля ня купіў сабе таксама капялюх з пільчаком, і мне таксама капялюшык і куртачку. Мы

ўсе ўтрох ходзім па вуліцах і гаворым паня-мецку. Я пэўны, што ўсе думаюць, што мы немцы. Аднак бяда, што за намі цягам цягнуцца нашыя кабеты: мая матка, Броха і Тайбка. Не адыходзяць ні на крок. Матка баіцца, каб я не заблудзіўся сярод немцаў. А тыя ходзяць за намі проста так сабе—як цяляты. Чаго яны баяцца—ня ведаю. Дзеля таго што мы ходзім кампаніяй у шэсьць чалавек, увесь сьвет на нас дзівіцца. Каб ім зрэнкі павылазілі! Чаго яны тут ня бачылі?

## IV

— Найвялікшыя дурні на сьвеце—гэта немцы,—так кажа мой брат Эля.—Што-б вы ім ні гаварылі, усё яны вам верацьць на слова.

— Апрача грошы. Грошы ў іх даражэй, чым у нас! «Грэйцар»—іхная душа. За «крону» роднага бацьку прададуць, а за «гульдэны»—самаго бога!

Так кажа Броха, а Тайбка ёй падтаквае. Усе трое кабет, як я вам ужо казаў, нейк нездаволены немцамі. Я ня ведаю чаму. Мне яны якраз вельмі падабаюцца. Каб не Амэрыка, бадык я-б тут астаўся назаўсёды. Дзе-ж вы бачылі такія дамы, як тут? А людзі? Такія добрыя людзі! Усё яны вам прадаюць! Нават каровы тутэйшыя не такія каровы, як у нас. Розуму, магчыма, у іх ня болей, чым у на-

шых, але нямецкія каровы выглядаюць болей людзкімі. Усё тут інакш выглядае. А пагаварыць з нашымі кабетамі, дык яны вам скажуць, што ў нас лепей. Нічога ім не падабаецца. Гасьцініца таксама. Ня так гасьцініца, як гаспадары. Яны лупяць скуру, кажа Броха. За ўсё плаці. Нават за шклянку халоднай вады. Драбінку солі яны вам дарам не дадуць. Калі мы адгэтуль у пару ня выбярэмся, дык прыдзецца пайсьці па хатах жабраваць.

Так кажа мая швагерка Броха. Але мая швагерка Броха шмат глупства гаворыць! Дзеля чаго яна гаворыць на майго брата Элю, што ён баба? А нашага сабру Піню яна называе абармотам і трэфнай пасудзінай. Іншая на месцы Тайбкі, жонкі Піні, задала-б ёй такога перцу, каб яна дзесятаму заказала пустамеліць. Але Тайбка, як матка кажа, добрая, хоць ты яе да скулы прылажы. Яна Бросі нічога не адказвае. Усе ёй не адказваюць. Я таксама. Супроць мяне яна агнём гарыць. Яна заве мяне паскрэбкам, альбо «Мотка з вострым языком». Я, кажа яна, у дарозе вельмі добра язык навастрыў. Мяне гэткія словы мала абыходзяць. Затое матка ня можа вынасіць гэтай крыўды, нашто Броха гаворыць пра мой язык? Матка пачынае плакаць. А мой брат Эля ня любіць, калі матка плача. Ён кажа, што яна псуе сабе вочы, а з сапсутымі вачыма ў Амэрыку ня пускаюць.

## V

Магу вам навіну расказаць. Мы дасталі вестку аб нашых падушках і падушачках. Пасадзілі ў турму яўрэйку, якая з намі «граніцу крала». Наш сябар Піня вельмі рад. Ён кажа, што яна гэта шчыра зарабіла. На гэта матка кажа: «якжа, а мае падушкі?» «Ну, а мае падушкі»?..— пытаецца Піня.

Цяпер ужо ведаем напэўна, што наша дабро прапала. Што рабіць? Трэба ехаць далей. Іншай радачкі няма. Мой брат Эля галаву страціў. Матка яго пацяшае. Яна кажа: а што-б мы рабілі, дурненькі, каб у нас грошы забралі, якія мы за хатку атрымалі, ды яшчэ каб зарэзалі нас? Наш сябар Піня згаджаецца з маткай. Ён кажа, што яўрэй павінен быць заўсёды здаволеным. На ўсялякія прыгоды яўрэй павінен казаць: «Усё к лепшаму»!

Мы рыхтуемся ў дарогу. Мы распытваемся ў стрэчных-папярэчных, як ехаць у Амэрыку? Устрэчныя-папярэчныя выслухваюць і кожны сваю параду дае. Адзін кажа: трэба ехаць на Парыж. Другі—на Лёндон. Трэці тлумачыць, што праз Антвэрпэн будзе бліжэй. У нас ужо да таго глузды затуманены, што мы ўжо самі ня ведаем як рабіць. Парыжу матка баіцца. Завялікі шум, кажа яна. Антвэрпэн Бросі не падабаецца. Нейкі Антвэрпэн—дзіўная назва. Яна гэтага ніколі ня чула. Спы-

няемся на Лёндоне. Піня кажа, што самае лепшае—ехаць праз Лёндон. Ён шмат разоў чытаў у географі (такая кніга), што Лёндон востры горад. А Родшыльд, кажа ён, таксама з Лёндону паходзіць.

— Родшыльд з Парыжу!

Так кажа мой брат Эля. У іх заўсёды так. Спрачаюцца. Адзін кажа: дзень. Другі кажа: ноч. Каб ужо надта спрачаліся, дык не. Але ўпартыя вельмі! Яны часам так цэлы дзень упіраюцца адзін супроць аднаго. Пакуль іх не разьбярэш. Анэгды яны ледзь за чубы ня ўрэпіліся з-за аднаго нямецкага слова: «Хрэн». Адзін сказаў, што хрэн панямецку будзе «хран». Другі тлумачыў, што хрэн панямецку будзе «хрон». Дзьве гадзіны яны сьлінай пырскалі адзін на аднаго, пакуль пашлі на рынак, купілі вязку хрэну, панесьлі да гаспадара гасьцініцы і запыталіся: пане немец! У нас да вас просьба, але вы нам чыстую праўду кажэце. Як у вас на вашай мове завецца во гэты фрухт—«хран» або «хрон»? На гэта гаспадар гасьніцы казаў: «На нашай нямецкай мове гэты фрухт завецца ня хрэну, панесьці да гаспадара гасьцініцы і заяцьце! Немец заўсёды любіць кепікі строіць. Ён часам так грукне вас словам, ажно вушы завянуць. Вазьмеце, напрыклад, загарак. Здаецца, нічога прасьцейшага няма. Дык гэта ў іх завецца не загарак, а «гор». А слова «гор»

(паяўрэйскаму—волас) у немца завецца «гар». А «гар» (паяўрэйску—пан) у немца «гэр». А «гэр» (паяўрэйску—сюды), у немца—«гіргір». Ну і дурні гэтыя немцы! Дзівадлы нейкія!

## VI.

Выбачайце, я загаварыўся аб дурных немцах і іхнай дзівацкай мове і зусім забыўся, што мы едзем у Амэрыку. Гэта ня значыць, што мы едзем проста ў Амэрыку. Пакуль-што едзем у Лёндон. І ня проста ў Лёндон, а ў Львоў. Там, у Львове, кажуць, ёсьць камітэт для эмігрантаў. Можа праз камітэт мы дастанем дапамогу. Чым мы горшыя за іншых эмігрантаў? Мы-ж страцілі нашы падушкі і падушачкі... Матка ўжо вучыцца—рыхтуецца як гаварыць і як плакаць. «Толькі ня плакаць»,—просіць лі-тасьці мой брат Эля—трэба мець у галаве (у памяці) вочы. Без вачэй Амэрыка ня пушчае»...

Так кажа мой брат Эля і ідзе да гаспадара расплачвацца за гасьцініцу. Праз колькі хвілін ён выбягае адтуль ні жывы, ні мёртвы. У чым справа? Гаспадар тыцнуў яму такі рахунак, ажно ў вачох пацямнела. За ўсё трэба плаціць, за ліхтары на шабасовыя сьвечкі, шэсьць ліхтароў—шэсьць «грэйцараў». За шабасовую малітву, якую ён сьпяваў пры стале і мы слухалі, яму трэба плаціць чатыры «грэйцары». Мы ў яго пытаемся: «чаму-ж гэта чатыры?»—Ён ка-

жа: «Калі хочаце плаціць пяць—няхай будзе пяць». Апрача таго, яму яшчэ трэба плаціць за нешта нейкае, што завецца «камісіяй». Што гэта за трасца? Гэта, кажа ён, трэба яму плаціць за фатыгу, што ён з намі хадзіў вопратку купляць.

Пачуўшы гэта, мая швагерка Броха ўскочыла з галошаньнем:

— А я вам не гаварыла, што немцы горшыя за расійскіх разбойнікаў у лесе? Нашыя расійскія хуліганы ў тысячы разоў лепшыя за немцаў! Ці-ж мы ў Бродах? Гэта-ж мы ў Садоме і Гаморы!!!

Гаспадара, мабыць, ня так моцна закародзіла тое, што паставілі яго на адну дошку з расійскімі хуліганамі, як тое, што назвалі Броды Садомам і Гаморай. Ён вельмі занараваўся. Ён нам казаў, што надта добра, што расійскія «хуліганы» ўчыняюць пагромы над намі. Гэта, кажа ён, яшчэ мала. Каб ён быў расійскім «кайзерам», дык загадаў-бы выразаць усіх яўрэяў да апошняга.

Мне здаецца, я вам ужо казаў, што наш сябар Піня вельмі гарачы чалавек. Калі яго моцна не зачэпіш, дык ён маўчыць і маўчыць. Але сыпні на яго нялюбым словам, дык пабачыш бацьку з таго сьвету!

Піня падняўся ва ўвесь свой высокі рост, падскочыў да гаспадара і на ўвесь голас крыкнуў яму ў самы твар:

— Немец!!! Каб цябе немач!

Праўда, гэта Піні дорага каштавала. Гаспадар гасьцініцы ляпнуў яму пару цяжкіх і смачных аплявухаў, ажно іскры пасыпаліся. Але няма кепскага без дабра. Увесь горад зьбегся на шум. Было весела. Я люблю, калі весела.

У той-жа дзень мы ўцяклі ў Львоў.

---

# ЛЬВОЎ І КРАКАЎ

## I

Львоў, бачыце, ужо ня тое, што Броды. Папершае, сам горад. Хораша, чыста, прасторна— проста заглядзецца можна! Але ня думайце, што ў Львове няма такіх вуліц, як у Бродах, дзе сярод лета трэба хадзіць у галёшах і затыкаць нос. Затое ў сярэдзіне гораду ёсьць сад, дзе ўсім можна спацыраваць, нават козам. Вольны край. У шабас яўрэі ходзяць у ярмолках вольна па вуліцах і ніхто ім слова ня кажа. А людзі? Золата і срэбра! Мая матка кажа, што паміж Бродамі і Львовам такая розьніца, як між днём і ноччу. Мой брат Эля кажа, што ён вельмі шкадуе, чаму заграніцай раней Броды, а пасьля Львоў. Павінна было быць наадварот. Наш сябар Піня тлумачыць, што Львоў харашэйшы за Броды дзеля таго, што гэты горад далей ад граніцы і бліжэй да Амэрыкі. На гэта мой брат Эля кажа: «Раўня, як сьвіньня да каня. Дзе Львоў, а дзе Амэрыка!» На гэта Піня адказвае, што ў справе гарадоў ён, Эля, можа яшчэ ў яго

вучыцца, бо ён, Пiня, чытаў географiю. «Калi ты чытаў географiю, кажа яму мой брат Эля, дык кажы мне, дзе камiтэт?»—«Якi камiтэт?»—«Камiтэт для эмiгрантаў!»—«Прычым тут географiя?»—«Той, хто знае географiю, павiнен усё знаць».

Так кажа мой брат Эля. Мы ўсюды распытваемся, дзе камiтэт, але нiхто ня ведае. Дзiўны горад.

— Яны знаюць, але ня хочуць сказаць!

Так разважае мая швагерка Броха. Ёй нiчога не падабаецца. I Львоў не падабаецца—зашырокiя вулiцы. Новая хiба: маладая завельмi харошая.

Тайбка, жонка сябра Пiнi, таксама супроць Львова. Калi ядуць, кажа яна, нешта кiслае, кажуць: «такая кiсьляцiна, што можна Львоў пабачыць». Альбо, як дадуць каму аплявуху, кажуць, што «ён пабачыў Львоў».

Словам, у баб ужо такая натура. Рэдка калi iм што падабаецца!..

II

Мы ўжо дапыталiся камiтэту. Высокi дом з чырвоным дахам. Спачатку трэба троху стаяць на вулiцы. Гэта значыць ня троху, а многа. Пасьля адчыняюць дзьверы. Трэба iсьцi па сходах. Наверсе стаiць шмат народу. Прынамсi нашыя з Расii, эмiгрантамi завуцца. Бадай

усе яны галодныя і ўва ўсіх малыя дзецi. А тыя, хто без малых дзяцей, таксама галодныя. Кажуць ім прысьці заўтра. Назаўтра кажуць ім зноў тое самае. Мая матка пазнаёмілася з многімі кабетамі. Кожная з іх мае сваё гора. Каб паставіць побач яе няшчасьце з няшчасьцем іншых, кажа матка, дык яна яшчэ шчасьлівая! Многія з іх уцяклі ад пагромаў. Яны апавядаюць такія жудасьці, ажно валасы дубам становяцца! Многіх адаслалі назад. Многім працу далі. Некаторых адсылаюць у Кракаў. А тут што?—Ніхто ня ведае. Кажуць ім прысьці заўтра, дык яны прыходзяць. А дзе камітэт?—Гэта-ж тут во і ёсьць камітэт. А хто камітэт? А ліха яго знае!

Прыходзіць высокі чалавек з рабым тварам і добрымі вачыма, якія пастаянна ўсьміхаюцца.

— Гэта адзін з камітэту.

Ён доктар. Доктар садзіцца на стул. У кожную хвіліну да яго падыходзіць новы эмігрант, нешта гаворыць і махае рукамі. Доктар слухае і кажа ў канцы, што ён—адзін, што ня можа памагчы. У нас, кажа ён, у камітэце больш трыццаці чалавек, але ніхто не паказваецца. Што я адзін магу зрабіць?

Эмігранты ведаць ня хочуць, што ён адзін. Яны тут болей сядзець ня могуць. Яны ўжо зьелі свае апошнія потрахі. Яны просяць, каб ім далі білеты ў Амэрыку, або каб адаслалі дамоў. Доктар на гэта адказвае, што калі яны хочуць,

дык ён можа іх паслаць толькі ў Кракаў. Можа тамтэйшы камітэт ім паможа. Але эмігранты скардзяцца, што яны ўжо церпяць голад. Доктар совае руку ў кішэню, вымае нейкую манету і дае ім. Эмігранты аглядаюць манету і выходзяць. Прыходзяць новыя.

— Мы ўжо зусім з сіл выбіліся,—кажуць яны.

— Што вы хочаце?—літасьці просіць доктар.

— Мы хочам есьці!—кажуць эмігранты.

— Вось мне прынесьлі яду, ежце.—Так кажа доктар і паказвае на сваё сьнеданьне: каву і булачкі. Ён кажа, што зусім шчыра іх просіць есьці. Што ён, адзін чалавек, можа рабіць? Эмігранты дзякуюць і кажуць, што просяць не для сябе, а для дзяцей.

— Ну, дык няхай дзеці вашы прыдуць сюды!—кажа доктар і сваімі добрымі вачыма нам міргае.

— А вам што?

## III

Падыходзіць да доктара мая матка і пачынае апавядаць яму ад самага пачатку, як у яе быў муж. Муж быў кантарам і хварэў і хварэў. Пасьля гэтага ён памёр, пакінуў яе ўдавой з дваіма дзяцьмі, аднаго старшага, а другога—зусім яшчэ куранятка (гэта яна пра мяне думае). Старшага сына яна ажаніла, упусьціла яго ў мядовую сажалку. Мёд выцёк, а сажалка

асталася. Цесьць абанкроціўся, а сын павінен прызывацца...

— Маці, куды ты заехала?

Так кажа мой брат Эля і пачынае доктару гаварыць тое самае, толькі на іншы лад. Ён пачынае так:

— Прызывацца, ня прызывацца—мы едзем, значыцца, у Амэрыку. Значыцца, я, мая матка, мая жонка, значыцца, і мой малы брат (гэта ён думае пра мяне) і вось гэты чалавек (паказвае на Піню) таксама, значыцца, з намі едзе. Нам трэба было перабрацца, значыцца, праз граніцу. Дык мы, значыцца, прышлі да граніцы. А дзеля таго, што пашпартоў, значыцца, у нас няма, бо нам трэба прызывацца...

— Вось мяне пусьці!—кажа наш сябар Піня, адпіхае майго брата Элю і сам пачынае апавядаць тую самую гісторыю, толькі троху іначай. Хаця Эля мне родны брат, але я павінен казаць праўду, што Піня гаворыць куды пякней за яго. Папершае, у яго няма слова «значыцца», як у Элі. А падругое, ён вельмі добра парасійску гаворыць. У яго шмат расійскіх слоў, і наогул пекных слоў, проста любата. Шмат з іх я не разумею, але яны надта зграбныя. Наш сябар Піня пачаў вось як:

— У кароткіх словах я вам дам взгляд на наша палажэніе, дык вы будзеце мець точка зрэніе. Мы едзем у Амэрыку ня так дзеля воінская повінность, як дзеля самостоятельность

і цывілізація, бо мы там вельмі стеснітельны ня толькі ў прагрэсе, але і ў воздухе, як кажа Тургенев—а во вторых, як толькі ў нас пачаўся еврейскі вопрос з пагромамі, конституцыя і тому подобное, як кажа Бокль у сваёй гісторыя цівілізація...

Шкода! Тут толькі ён пачаў разгортваць свае прыгожыя слоўцы. Наш сябар Піня толькі-што разгойдаўся. Ён яшчэ толькі майстраваўся гаварыць, гаварыць і гаварыць, але доктар раптоўна яго спыніў:

— Кажэце, чаго вам трэба?

Тут зноў выступіў мой брат Эля і зьвярнуўся да Піні:

— Што гэта ў цябе за прывычка гаварыць не дарэчы?

Гэта Піню вельмі пакрыўдзіла. Ён адышоў у бок, зачапіўся за свае ўласныя ногі і буркнуў да Элі:

— Ты гаворыш лепш? Гавары ты!

## IV

Мой брат Эля падыходзіць да доктара з камітэту і давай нанова апавядаць тую самую гісторыю:

— Дык мы, значыцца, прышлі да граніцы. Прышлі да граніцы і пачалі гандляваць, значыцца, з агентамі. Але агенты, ведаеце, вялікія ошусты. Дык яны пачалі бегаць адзін за ад-

ным, падкапвацца, рабіць даносы, ябаднічаць, пакуль падсунулася адна яўрэйка, значыцца, людзкая, справядлівая, набожная, кашэрная, мы згаварыліся з ёю аб цане, значыцца, і яна ўзялася пературабаніць нас усіх праз граніцу, раней нас, а потым падушкі і падушачкі. Дык яна нам дала, яўрэйка, значыцца, двух мужыкоў, павадыроў, значыцца...

— Вось так хутка? Глядзеце! Ён ужо гатоў з мужыкамі!

З такімі словамі выскачыла мая швагерка Броха, адпіхнула майго брата Элю і давай сама апавядаць гэту самую прыгоду. Гэту самую, але троху інача́й: як яўрэйка казала нам ісьці ды ісьці, пакуль пабачым узгорак. Ад узгорку мы павінны павярнуць направа, ісьці ды ісьці: пакуль падыдзем яшчэ да ўзгорка. Адтуль павярнуць налева, ісьці ды ісьці, пакуль падыдзем да карчмы. Адзін з нас павінен зайсьці ў карчму, дык ён знойдзе двух мужыкоў, якія пры століку гарэлку п'юць. Падысьці да мужыкоў і сказаць ім адно слова «Хаймова», дык яны ўжо будуць ведаць і будуць нас весьці праз лясок. На шчасьце, я маю прывычку млець...

Доктар спыніў яе:

— Ведаеце, што я вам скажу, мае дарагія кабеты? І ў мяне прывычка млець. Кажэце мне коратка, што вы хочаце?

Тут выступае матка ў другі раз, і паміж імі пачынаецца такая гутарка:

Матка: Вы хочаце коратка? У нас рэчы адабралі.

Доктар: Якія рэчы?

Матка: Пасьцельныя рэчы: дзьве пярыны, чатыры вялікія падушкі, і яшчэ дзьве вялікія падушкі, і тры маленькія «байстручкі» перасыпаныя...

Доктар: Гэта ўсё?

Матка: І тры коўдры, дзьве старыя, адна новая, пара вопратак, шоўкавая хустка, і...

Доктар: Я не аб гэтым пытаюся. Болей няшчасьцяў з вамі ня здарылася?

Матка: Якія няшчасьці вы яшчэ жадалі-б?

Доктар: Чаго вам не хапае?

Матка: Падушкі і падушачкі.

Доктар: Болей нічога?

Матка: А гэта мала?

Доктар: А білеты ёсьць у вас? Грошы ёсьць?

Матка: Дзякаваць богу, у нас ёсьць шыфскарты, ёсьць грошы на білеты.

Доктар: Дык вам-жа зусім добра. Я вам зайздрошчу. Дайце памяняемся. Я не жартую. Вось вам маё сьнеданьне, вось вам мае эмігранты, вось вам мой камітэт, а вы дайце мне вашыя шыфскарты з білетамі, дык я сягоньня-ж паеду ў Амэрыку. Што я тут магу рабіць адзін-адзінюткі, калі тут так многа бедакоў?

— Доктар нейкі—нямаведама што!—падумалі мы і адклад ня ідзе ў лад. Мой брат Эля кажа: няма чаго калатырыць—паедзем лепш у Кракаў. Шмат эмігрантаў едзе ў Кракаў, а мы што—не эмігранты?

— Калі мы ў Львове, дык трэба быць і ў Кракаве,—кажа наш сябар Піня.

— Бывайце здаровы! Мы едзем у Кракаў.

---

# З ЭМІГРАНТАМІ

I

Калі хочаце ехаць у Амэрыку, дык едзьце з эмігрантамі. Калі едзеце з эмігрантамі, дык вам добра. Прыяжджаеце ў горад—ня трэба шукаць гасьцініцы. Для вас гасьцініца ёсьць. На гэта існуе камітэт. Камітэт клапоціцца, каб у вас было ўсяго. Як толькі мы прыехалі ў Кракаў, дык нас адразу загналі ў нейкую хату, ці камору, ці хлеў. Там мы пераначавалі. Раніцой прышлі да нас з камітэту і запісалі нашы імёны. Матка не хацела казаць нашых імёнаў. Яна баіцца прызыву Элі. Усё можа здарыцца. Але ўсе эміграты сьмяяліся. Немцаў зусім не абыходзіць наш расійскі прызыў. Пасьля гэтага нас усіх перавялі ў вялікую гасьцініцу. Там шмат ложкаў і яшчэ болей эмігрантаў.

— Едзем адгэтуль!—казала мая швагерка Броха. Яна адразу нос адвярнула. Я ўжо вам раней гаварыў, што нашым кабетам нічога не падабаецца. Кракаў ім не спадабаўся з першай хвіліны. Нават мой брат Эля зазлаваўся на Кракаў.

Кракаў, кажа ён, ня Львоў. У Львове прынамсі ёсьць яўрэі, а ў Кракаве і яўрэяў няма. Гэта значыць, што яўрэі і тут ёсьць, але нейкія дзіўныя— напалову яўрэй, напалову паляк. Закруціў вусы і «прошэ пане!..» Так кажа мой брат Эля. Але наш сябар Піня мае свой погляд. Ён кажа, што тут больш «цывілізацыі». Я-б хацеў ведаць, што гэта такое «цывілізацыя», без якой наш сябар Піня жыць ня можа?

## II

У гасьцініцы, якую для нас прыгатаваў камітэт, вельмі добра. Гэта значыць, ня так добра, як весела. Што хвіліну знаёмімся з новымі эмігрантамі. Сядзяць разам, ядуць разам, апавядаюць розныя байкі. Ой, якія прыгожыя байкі! Дзівы дзіўныя! Дзівы аб пагромах. Дзівы аб прызыву. Дзівы пра граніцу. Кожны апавядае іншую гісторыю аб сваім агенце. Адзін у аднаго пытае: «Хто быў вашым агентам пры граніцы—чырвоны, ці чорны?» На гэта другі адказвае: «Ні чырвоны, ні чорны, а проста злодзей...»

Разумеецца, і мы апавядаем сваю прыгоду, як бог нас вёў, як мы кралі граніцу, як агенты напалі на нас, як мы сустрэлі яўрэйку. Расказалі ўсё— ад пачатку да канца. Усе слухаюць і ківаюць галовамі. Адзін высокі эмігрант з злоснымі вачыма, з ватай у вушох пытаецца ў нас:

— Як выглядае гэтая яўрэйка? Набожная, кашэрная?

Пачуўшы, што яўрэйка і набожная і кашэрная, высокі эмігрант з злоснымі вачыма ўскаквае і кажа да сваёй жонкі, якая завецца Сора:

— Сора! Ты чуеш? Гэта-ж тая самая яўрэйка!

— Дай, божачка, каб халера забрала і яе і ўсіх агентаў!

Так кажа яго жонка Сора і пачынае сваю гісторыю аб тым, як гэта самая яўрэйка абманула яе, абабрала з ног да галавы і хацела ўсунуць шыфскарты ў Амэрыку.

Пачуўшы слова «шыфскарты», падымаецца адзін эмігрант, кравец, з чорнымі вачыма і бледным тварам, ён кажа:

— Шыфскарты? Дайце, я вам раскажу пра шыфскарты.

І кравец з чорнымі вачыма і бледным тварам хоча пачаць гісторыю аб шыфскартах, але яго перабівае другі эмігрант, які завецца Тапалінскі. Ён расказвае аб тым, што ў іхным горадзе ёсьць кампанія, якая нібы-та прадае шыфскарты з Лібавы ў Амэрыку. Гэта кампанія вынюхала нейкага чалавека, забрала ў яго рублёў семдзесят і дала яму нейкую паперку з чырвоным арлом. Гэты чалавек прыехаў у Лібаву, хацеў сесьці на карабель, выняў сваю паперку з чырвоным арлом. Хто? Што? Леташні сьнег! Гэта ня шыфскарта, а нешта-нейкае да нечага!..

## III

Байкі аб шыфскартах мне ўжо надаелі. Я люблю эмігрантаў. Седзячы ў вагоне, я пазнаёміўся з эміграндкім хлапцом маіх гадоў. Завуць яго Копаль, і ў яго расьсечаная губа. Ён лазіў на дрэва, зваліўся і пакалечыў губу. Ён божыцца, што яму нават не балела, але шмат крыві цякло. Мала, што ён губу расьсек, дык яшчэ тады бацька яго адлупцаваў. Вось той высокі з злоснымі вачыма і з ватай у вушах—яго бацька. А яўрэйка, якую завуць Сора, яго матка. Яны калісьці былі багатыя. Не калісьці, але нядаўна, да пагрому. Я пытаюся ў яго, што гэта значыць пагром? Я чую ад усіх эміграантаў: «пагром», «пагром», але ня ведаю, што гэта. Копаль мне кажа:

— Ня ведаеш, што гэта пагром? Дык ты-ж зусім дурны! Пагром гэта такая рэч, што цяпер усюды ёсьць. Гэта пачынаецца бадай з нічога, цягнецца гэта тры дні...

— Дык што-ж гэта,—пытаюся,—кірмаш?

— Які кірмаш? Нічога сабе кірмаш! Б'юць вокны, ламаюць мэблю! Рвуць падушкі! Пер'е мігаціць, як сьнег!

— Навошта гэта робяць?

— Навошта! На тое! Пагром ня толькі над хатамі. Пагром бывае і ў крамах. Выкідаюць увесь тавар на вуліцу, разносяць, рабуюць, рвуць, абліваюць газай і падпальваюць.

— Ідзі, ідзі!

— А ты што думаў? Я праўду кажу! Калі ўжо няма чаго рабаваць, пачынаюць хадзіць па хатах з тапарамі, з ламамі, з кіямі, а паліцыя ходзіць за імі. Пяюць і сьвішчуць і крычаць: «Эй, ребята, бей жидов!» і б'юць, і забіваюць, і рэжуць, і колюць...

— Каго?

— Што значыць каго? Яўрэяў!

— За што?

— Вось табе маеш за што! Гэта-ж пагром!

— А калі пагром, дык што?

— Ідзі, цялё! Не хачу з табой гаварыць!

Так кажа Копаль, адпіхае мяне ад сябе, усунуўшы рукі ў кішэні, як даросллы. Мне баліць, чаму ён так фанабэрыцца перада мною. Але я маўчу. «Я табе пакажу, хто з нас больш ведае»!..—думаю я. Праз некалькі хвілін я зноў падыходжу да хлопца і пачынаю з ім гутарку, не аб пагромах—аб іншых справах. Я пытаюся ў яго, ці ўмее ён гаварыць панямецку. Копаль пачынае сьмяяцца: «А хто-ж гэта ня ведае панямецку? Панямецку і паяўрэйску—адно і тое самае»!..

— Вось як? Дык ты ведаеш панямецку, дык скажы мне, як панямецку хрэн?

Копаль яшчэ мацней сьмяецца.

— Што значыць, як гэта хрэн? Хрэн панямецку—хрэн!

— Калі так,—кажу я,—дык ты ня ведаеш!

— А як-жа хрэн панямецку?

На тое ліха, я сам забыўся, як панямецку хрэн. Я бягу да брата Элі і пытаюся ў яго: як панямецку хрэн? Ён кажа, што задасьць мне такога хрэну, ажно горка мне зробіцца... Мой брат Эля нечага злуецца. Ён заўсёды злуецца, калі трэба лезьці ў кішэню па грошы. Наш сябар Піня з яго сьмяецца. Яны перагыркваюцца між сабою. Я кладуся спаць між пакункамі на падлозе.

## IV

У Кракаве мы нічога не дабіліся. У камітэце ня былі. Эміграніы казалі, што ніякай карысьці ад гэтага няма. Эміграніы кажуць, што мы шчасьлівыя, калі дагэтуль абыходзіліся без камітэтаў. Каб не падушкі і падушачкі,—кажа матка,—дык не хадзіла-б у камітэты.

Камітэты—камітэтамі, а я пакуль што ведаю, што мы едзем у Вену. Вы чулі калі-колечы аб такім горадзе? Пачакайце, прыедзем у Вену, дык я вам усё раскажу аб тым, што там робіцца.

# ВЕНА—ГОРАД, А БОГ—БАЦЬКА

## I

— Вена—вялікі горад!

Так казаў мой брат Эля. Піня дадаў:

— Ды яшчэ які горад! Горад над усімі гарадамі!

Нават кабеты, якім нічога не падабаецца, і то згадзіліся з тым, што Вена—горад. Нават матка надзела тут шабасовую хустку. А мая швагерка Броха прыбралася, як да шлюбу. У сваёй сьвяточнай вопратцы Броха выглядала, як чырвоная котка ў чорным вэлюме. Ці вы бачылі калі чырвоную котку ў чорным вэлюме? Я бачыў. Дзеці нашай суседкі Пэсі любілі рабіць з коткай розныя фокусы і тэатральныя прадстаўленьні Котка, як я вам ужо калісьці гаварыў, мае ў іх мянушку: «Фэйга-Лея старасьціха». Яны калісьці надзелі ёй на галаву ярмолку, прывязаўшы яе шнуркамі, прычапілі да хваста шчэмку і пусьцілі на вуліцу. Котка зьбянтэжаная пусьцілася бягом і нарабіла шмат шкоды па суседзях. Ну і білі іх тады— гэтых хлапцоў! Болей усіх дастаў Рагаты—Гэршаль з гузам на ілбу. Цікавы хлапец гэты «Рага-

ты»! Колькі-б яго ні білі—ён усё маўчыць. Надта хацелася-б мне яго пабачыць! Можа быць, што мы з ім у Амэрыцы пабачымся. Нас паведамілі, нібы ўся іхная сям'я выбіраецца ў Амэрыку. Усе едуць у Амэрыку. Ёна-пекар таксама пісаў нам, што едзе. Ён ужо на граніцы. Не на тэй граніцы, дзе мы краліся. На іншай граніцы. Нашу граніцу выбракавалі. На ёй крадуць падушкі. На іншых граніцах таксама крадуць, але не нападаюць у лесе з вострымі нажамі, як на нас напалі. Эмігранты расказваюць, што ёсць такія граніцы, дзе разьдзяюць да апошняй ніткі. Але не забіваюць насьмерць. Праўда і нас не забілі, але хацелі гэта рабіць. Мы ледзь ад страху не памёрлі. На шчасьце пачулася страляніна. Я ўжо вам гаварыў аб гэтым.

## II

Што мы робім у Вене? Нічога, ходзім па вуліцах. Ну і вуліцы! Ну і хаты! А вокны? Люстэрка, а ня вокны! А колькі цацак! Вопратак! Колькі розных дзіўных рэчаў! Бадай ля кожнага вакна мы спыняемся, аглядаем і прыцэньваемся. Мой брат Эля ад дзіва кожны раз за бародку бярэцца. Яна ў яго за гэты час моцна падрасла. Нейк дзіўна падрасла. Як венік выглядае. Я маю ахвоту намаляваць яго на паперы. Я нядаўна намаляваў на паперы нашага сябру Піню. Маю швагерку Броху я таксама намаляваў крэйдай на стале.

Мне за гэта добра заплацілі. Сама Броха гэта заўважыла і пазнала сябе, як у люстэрцы. Яна падазвала майго брата Элю. Ён так урэпіўся ў мяне, што каб ня матка, дык я жывым ня вышаў-бы з яго рук! Кожны раз, як Эля пабачыць, што я малюю, ён мяне лупцуе. Маляваць я люблю ад самых малых гадоў. Раней я маляваў чорным вугальлем на белых сьценах, дык білі мяне. Пасьля—крэйдай на дзьвярах, дык таксама білі. Цяпер малюю алоўкам на паперы—б'юць мяне за гэта і цяпер.

— Ты зноў «чалавекі» пішаш?..

За маляваньне мяне ня так б'юць, як за вылепліваньне. Я маю прывычку ляпіць з мяккага хлеба парсючкоў. Мой брат Эля кожны раз, як пабачыць,—дае па пальцах. Наш сябар Піня бароніць мяне. Ён кажа:

— Што ты да яго маеш? Няхай лепіць, няхай малюе! Можа ён некалі маляром будзе?

## III

Кім-бы я ў Амэрыцы ні быў—абы толькі хутчэй там быць. Цягне мяне туды бяз конца. Я сам з сабой парашыў, што ў Амэрыцы я буду студ'яваць тры рэчы: плаваць, пісаць і курыць цыгары. Усе гэтыя тры рэчы я і цяпер умею, але ня так добра, як гэта можна вывучыцца ў Амэрыцы. Плаваць, ведаю, я-б добра ўмеў, але ў нас няма дзе. У нашай рэчцы проста бяда! У нашай рэчцы,

калі пузам кінуцца ў балота, дык ногі тырчаць зьверху. Ну і рэчка! У Амэрыцы, кажуць, ёсьць мора. Там, калі ляжаць у вадзе на пузырох, дык вас панясе да ўсіх чарцей! Пісаць я таксама магу, хаця ніхто мяне ня вучыў. Я пішу друкаваныя літары, з малітвеньніка. Я ня пішу, а малюю. Хацелася-б мне пісаць хутка, дык рука ня ідзе. У Амэрыцы, кажуць, пішуць хутка. Усё там робіцца хутка, аж пыл і дым курыць, бо часу няма марудзіць. Так усе эмігранты кажуць. Я бадай ужо ўсё ведаю, што ў Амэрыцы робіцца, хаця я там яшчэ ня быў. Кажуць, што там езьдзяць пад зямлёй і жывуць. Як там жывуць—яшчэ ня знаю, але хутка буду знаць. Я ўсяму хутка навучаюся. Калі бачу чалавека адзін раз, дык магу перадразьніваць яго цюцелька-ў-цюцельку, акурат, і голас падраблю. Анэгды я перадразьніў нашага сябра Піню, як ён скача, як ён пазірае сваімі падсьлепаватымі вачыма, як ён хутка гаворыць, як ён сёрбае гарачыя локшыны, як ён гаворыць парасійску,—дык мая швагерка Броха ажно за бокі бралася ад сьмеху, а матка дык проста плакала сьмяючыся. Але мой брат Эля гэта ня любіць. Ён не дае мне галавы падняць. Дзіўная штука з маім братам Эляй! Ён любіць мяне—а лупцуе, б'е да сьмерці. Матка не дазваляе біць мяне. Яна кажа:

— Будзеш біць сваіх дзяцей.

Але няхай чужы кране мяне хоць пальцам, дык Эля таму вочы выкалупіць. Анэгды хлопчык-эмі-

грант паставіў мне губарнатара. Вы ведаеце, як гэта ставяць губарнатара? Вось зараз я вас навучу: тыцкаюць у рот тоўсты палец і штурхаюць вас у бок паміж жабрамі і пузам, дык вы бачыце Амэрыку аж адгэтуль, бо робіцца вам сьветла ў вачох. Хлопчык, які паставіў мне «губарнатара»— адзінаццаці-гадовы шалахвост з напухшымі шчокамі. У яго пара лап, дык няхай яны ў яго адсохнуць! Ён хацеў са мною пазнаёміцца, дык падышоў да мяне і запытаўся, як мяне завуць? Я кажу: Мотка. Дык ён кажа: Мотка-капотка, дробка-дротка. Ёська сотка з зямлі капоткі. Я ў яго пытаюся, што гэта значыць, дык ён кажа: «Гэта значыць, што ты—дундаль маляваны з паліўным носам, хаця і мяне таксама Моткай завуць. Можа маеш храпку на губарнатара?»—пытаецца ён. «Чаму не?—кажу я». «Дык сунься бліжэй сюды, тады я табе пакажу. Я падышоў да яго. Ён мне паказаў губарнатара. Я ўпаў вобзямлю, гэта заўважыла матка і падняла крык. Прыбег мой брат Эля і задаў яму дыхту.

З таго часу мы пасябраваліся з гэтым хлопцам. Ён навучыў мяне апрача «губарнатара», яшчэ шмат якім штукам. Напрыклад, брухамоўства. Вы гэта ведаеце? Навучыць вас немагчыма. З гэтым талентам трэба нарадзіцца. Рот павінен быць зачынены. Нельга крануцца з месца, і брахаць пасабачаму, хрукаць, як парсюк, ды так добра і жыва, каб усе шукалі пад сталом. Я перапалохаў усіх нашых. Мая швагерка Броха абамлела. Усе

кінуліся пад стол і пад ложкі. Я таксама кінуўся туды шукаць сабаку і не перастаў брахаць. Была, кажу вам, праўдзівая комэдыя! Але ўрэшце мой брат Эля дагадаўся, што гэта я раблю. Ну, і надаў ён мне стусакоў! З таго часу я назаўсёды кінуў брухамоўства.

## IV

Мы-б ужо даўно выехалі з Вены, каб не «Олянц». Хто гэты «Олянц»—не магу вам напэўна казаць. Вы толькі чуеце, як усе гаворацць пра «Олянц»! Олянц! Олянц! Усе эміграны злуюцца на «Олянц»! Яны кажуць, што «Олянц» нічога ня робіць. «Олянц», кажуць яны, літасьці ня мае над людзьмі. «Олянц» ня любіць яўрэяў. Штодня ходзяць да «Олянца» мой брат Эля і наш сябра Піня. Адтуль кожны раз прыходзяць, нібы з лазьні.

— Няхай ён запаліцца!—кажа Эля.

— Няхай ён, як сьвечка гарыць!—кажа Піня.

— Дайце лепш мне пагутарыць з «Олянцам»!—кажа матка і бярэ мяне за руку.

Мы ўсе ідзем да «Олянца»: матка і я, Эля, Піня, Броха і Тайбка. Мы ўяўляем сабе «Олянца» з бародкай, з поясам і з чырвоным носам. Чаму гэта з чырвоным носам — я сам ня ведаю. Трасцу я калісь бачыў? Аднак малюю яе вось як: з бліскучымі вачыма, у зашмальцаванай хустцы, ды з вострымі голкамі ў пальцах.

Ну і нагуляліся мы! Мая швагерка Броха шчыра віншавала «Олянцу», каб яму гэтак калола ў правым баку, як ёй коле ў левым, дык ён-бы не забраўся да чорта за пазуху на самы канец гораду! Ледзь дабраліся да «Олянца». Ён сядзіць у такой хаце, што мы з вамі ад яе не адмовіліся-б. Але без двара. Вена ня любіць двароў. Вена любіць вялізныя, як поле, вокны і вар'яцкія дзьверы. Але дзьверы ў іх заўсёды замкнёныя:—Баяцца, мабыць, каб іх не пакралі,—кажа мая швагерка Броха. Ёй ужо і Вена не падабаецца! Яна ня любіць, што трэба званіць ля дзьвярэй. Што ёй да таго, калі звоняць! Каб толькі адчынялі. Але «Олянц» ня так хутка адчыняе дзьверы. Можаце рассыпацца-растрэскацца звонячы — ён вам не адчыніць. Ён мае шмат часу. Вы думаеце, што толькі мы званілі? Тут шмат эмігрантаў: старыя, малыя, бабы, дзеці. Я люблю, калі шмат народу—весела!

Вось адчыніліся дзьверы. Усе кінуліся туды. Задушыцца можна было. На шчасьце ў дзьвярах паказалася нейкае ліха бяз шапкі, з чырвоным тварам і з голенай мордай. Яно пачало кідаць нас па аднаму, нібы клёцкі. Нарэшце мы ўсе апынуліся ў пакоі. Але тут пачалася новая бяда—кожны з эмігрантаў рвецца да стала, каб раней іншых пагаварыць з «Олянцам». Пры вялікіх сталох сядзяць людзі бяз шапак, голеныя, кураць цыгары і сьмяюцца. Хто з іх «Олянц»—ня ведаю. Мая

матка таксама ня ведае. Яна стаіць і гаворыць да іх:

— Кажэце мне, — хто з вас гэты самы «Олянц?» Я мела шмат страты. Усе падушкі і падушачкі ў мяне на граніцы ўкралі. Хацелі нас забіць. Мой муж памёр маладым. Ён усё жыцьцё быў...

Але ёй не даюць гаварыць. Нехта цягне яе за хустку і паказвае на дзьверы. Ён гаворыць на нейкай мове, якой ніхто з нас не разумее. Матка да яго кажа:

— Што вы да мяне панямецку гаворыце? Гаварэце лепш на нашай роднай мове, дык я вам усё гора сваё выкажу... Кажэце лепш, хто з вас гэты самы «Олянц?»...

— Пойдзем лепш адгэтуль! — кажа мая швагерка Броха да маткі. На гэта матка ёй гаворыць:

— Праўду кажаш, дзеткі! Пойдзем адгэтуль! Вена — горад, а бог — бацька!

---

# Д З І В Ы  З  А Н Т В Э Р П Э Н У

## І

Ці вы чулі калі, каб горад звауся Антвэрпэн? Ёсьць такі горад на сьвеце. Мы туды едзем. Нашто нам Антвэрпэн? Бо наш сват, цесьць майго брата Элі, пекар, Ёна, едзе ў Амэрыку праз Антвэрпэн. Пачуўшы, што яе бацька ў Антвэрпэне, мая швагерка Броха давай біцца галавой аб сьцены, каб і мы паехалі праз Антвэрпэн. Раней яна гэтага гораду знаць не хацела. Назва ёй не спадабалася. Цяпер яна засмакавала Антвэрпэн! Наш сябар Піня кажа, што ён павінен будзе аддзяліцца ад нас. Ён лепш з Вены адразу ў Лёндон паедзе. Цягне яго ў Лёндон. Лёндон, кажа ён, ужо пахне Амэрыкай: ангельцы... рыжыя валасы... нагавіцы ў клетках... Зусім іншы сьвет!

— Едзь сабе на здароўечка да сваіх ангельцаў з валасамі ў клетках з рыжымі нагавіцамі, а мы паедзем у Амэрыку праз Антвэрпэн.

Так кажа мая швагерка Броха, а Тайбка, жонка Піні, дуецца, як індычка. Яна мае такую прывычку, чуць што, дык яна дуецца і нічога не гаворыць. Чаго ты злуешся?—пытаецца ў яе Піня.

Яна кажа, што ня любіць ангельцаў. На гэта Піня пытаецца: А ты іх ведаеш? Дзе-ж ты бачыла ангельцаў? — А ты дзе бачыў ангельцаў?— злуецца Тайбка.

Парашылі, што мы ўсе едзем у Амэрыку праз Антвэрпэн. Мне ўсёроўна, няхай едуць хоць праз Гоцаплоцы—толькі ў Амэрыку. Я і мой сябар Піня—мы абодва рвемся ў Амэрыку больш за ўсіх. Мы адчуваем, што нам будзе там вельмі добра. Піня наракае на майго брата Элю. Ён кажа: Мы едзем і едзем—і стаім на месцы. На гэта Эля адказвае: Ну, хто цябе трымае? Едзь! Бяжы! Як я магу гэта рабіць, кажа Піня, калі твая матка хоча пазнаёміцца з камітэтамі ўсяго сьвету?.. Матка, пачуўшы гэта, зьвярнулася да Піні:—Калі ты такі разумненькі, дык парадзь мне, як ехаць у Амэрыку без падушак і падушачак?.. Тут Піня анямеў, і зноў пасябраваліся. Наш сябар Піня ня можа з намі растацца. Кабеты таксама ня могуць жыць адна без аднэй. Сваркі паміж імі, праўда, часта бываюць. Часам даходзіць і да чупрын паміж Брохай і Тайбкай, але яны хутка міруцца. Тут вінавата, галоўным чынам, мая швагерка Броха. Яна сама пра сябе гаворыць, што ўспыхвае, як запалка. У такую хвіліну яна вас зьмяшае з балотам. Аднак, зараз-жа адыходзіць, мякчэе, хоць ты яе да скулы прылажы. Са мною яна ваюе з самага пачатку. Яна знае, што я ня люблю яе. Горш за ўсё ёй не падабаецца, што я з яе сьмяюся. Ёй усё здаецца, што я з яе

кепікі строю. Я толькі гляну на яе, а яна ўжо злуецца. Я ўжо вам гаварыў, што я люблю маляваць і што Піня мяне за гэта лупцуе. Я анэгды нарысаваў нагу, вялізную нагу. Нарысаваў крэйдай на падлозе. Цікава было вам паглядзець, што дзеялася тады ў нас! Броха да мяне прычапілася, што гэта яе нага. Чаму-ж гэта яе нага? Бо ні ў кога няма такіх вялізных ног, як у Брохі. У яе трынаццаты нумар галёш. Яе галёшы, як пара вялізных чаўноў!.. Яна зараз-жа аб гэтым данесла Элі. Ён, як звычайна, падняў крык:

— Чалавечкі? Ты зноў пачаў свае старыя штукі, чалавечкі маляваць?..

Ужо! Нага ў яго перарабілася ў чалавека! А чалавек у «чалавечкі!». Можна ад іх звар'яцець... Я мушу вам праўду сказаць, што хвароба маляваць у мяне павялічваецца з кожным днём. Я натрапіў на каляровы аловак. Мне гэта падарыў хлапец аднаго эмігранта. Той самы, які паставіў мне «губарнатара» і вывучыў брухамоўству. Я ўжо вам гаварыў пра яго. Ён таксама Моткай завецца. Яго завуць Мотка вялікі, а мяне Мотка малы. Мы з ім шчыра пасябраваліся. За тое, што ён мне падарыў каляровы аловак, я, едучы ў вагоне, намаляваў яго на паперы, усяго—з напухшымі шчокамі. Я загадаў яму, каб ён нікому гэта не паказваў, бо брат Эля забіў-бы мяне. Як вам здаецца? У тую-ж хвіліну ён панёс паперку з малюнкам да майго брата Элі і тыцнуў яму ў самы твар.

— Гэта, мабыць, работа Моткі! Дзе-ж гэта ён, пячкур з «чалавечкамі?»

Так казаў мой брат Эля і пусьціўся мяне шукаць. Я сяджу ў маткі за плячыма і душуся ад сьмеху. На ўсім сьвеце няма лепшай абароны, як у маткі за плячыма!

## II

Дзякаваць богу, мы ўжо ў Антвэрпэне. Ну і горад! Праўда, Вена большы горад, і прыгажэйшы, і людзей там болей. Але затое Антвэрпэн чысьценькі, проста золата! І дзіва няма. Вуліцы мыюць, тратуары чысьцяць, а хаты—дык мыляць мылам і ўбіраюць, як нейкіх паненак. Праўда, ня ўсюды так. Напрыклад, там, у гасьцініцы, дзе мы жывем з усімі эмігрантамі,—так, як павінна быць: брудна, дымна, вільготна, сьлізка, цесна, стукат і грукат. Весела, надзвычайна добра. Так, як мне падабаецца. Наш сват, пекар Ёна яшчэ ня прыехаў. Наша суседка Пэся з сваёй халястрай—таксама не. Яны яшчэ едуць. Недзе валэндаюцца па Нямеччыне.

— Нямеччына — пракляты край! — кажуць эмігранты і апавядаюць жудасныя гісторыі. Наша здарэньне з падушкамі, што прапалі на граніцы, зусім глупства супроць тых няшчасьцяў, якія чуеш ад эмігрантаў. Мы тут пазнаёміліся з кабетай з Межбіша, як наўмысьне, не ўдава. Як наўмысьне, мае мужа і, як наўмысьне, у Амэрыцы.

Гэта яна якраз да мужа едзе. Зараз год як яна едзе туды з сваімі дваіма дзяцьмі. Яна ўжо аб'езьдзіла ўвесь сьвет. Перасварылася з усімі камітэтамі. Ледзь прывалаклася сюды ў Антвэрпэн. Хоча садзіцца на карабель, дык яе ня пускаюць. Думаеце, што ў яе вочы хворыя? Не! здаровыя. Але яна троху з глуздоў зьехала. Калі вы з ёй гаворыце, дык, здаецца, дарэчы адказвае. Але раптам сыпне слаўцо такое дзіўнае, што вас у сьмех кідае. Вы ў яе пытаецеся: Дзе ваш муж? Яна кажа: у Амэрыцы. Што ён там робіць? Яна кажа: Ён там царом... Вы ёй гаворыце: Як гэта яўрэй можа быць царом? Яна адказвае, што ў Амэрыцы можна... Ну, дык што-ж вы да яе можаце мець?..

Вельмі шкадуюць усе дзяцей гэтай кабеты. Хаця дзеці вясёлыя. Калі іх матка пачынае гаварыць глупства—яны сьмяюцца. Я з імі хутка пазнаёміўся. Яны мне расказалі, што іх адсылаюць назад дамоў, але матка ня хоча ехаць. Яна хоча ў Амэрыку, да іхнага бацькі—цара (хі-хі-хі!). Яе абманваюць і кажуць, што чыгункай у Амэрыку паедзе (хі-хі-хі!) Угаварылі яе, што адгэтуль цягнік ідзе проста ў Амэрыку (хі-хі-хі!).

## III

Дзівы, якія мы бачым у Антвэрпэне, нельга апісаць! Штодня прыяжджаюць новыя эміграніы. У большасьці з хворымі вачыма. Гэта завецца

«трахома». Амэрыка ня пускае «трахому». У вас можа быць тысяча хвароб. Вы можаце быць крывым, нямым і чаго толькі вам хочацца, толькі каб «трахомы» ня было на вачох. Скуль бяруцца гэтыя «трахомы»?—Набіраюцца (заражаюцца).—Так я чуў у Антвэрпэне. Гэта мне гаварыла адна дзяўчынка, якая завецца Голдка. Яна—маіх гадоў. Мо' на год старэйшая за мяне. З ёю было вельмі цікавае здарэньне. Расказаць вам?

З Голдкай я пазнаёміўся ў «Эзра». Але вы ня ведаеце, што гэта «Эзра», дык я вам растлумачу. «Эзра» ў Антвэрпэне тое самае, што «Олянц» у Вене. Зроблена для нас—для эмігрантаў. Розьніца ў тым, што «Олянц» мужчына, а «Эзра» кабета. Вы-ж чуеце, як кажуць, гэты «Олянц», гэта «Эзра». Самі ўжо павінны разумець розьніцу. Мы як толькі прыехалі ў Антвэрпэн, дык зараз-жа пашлі да гэтай «Эзры». «Эзра» ня тое, што «Олянц». «Олянц» выкідвае людзей, нібы клёцкі, а «Эзра» вас не выганяе. Можаце да яе прыходзіць, калі хочаце. Усё тое, што вы гаворыце, зараз-жа запісваецца ў кнізе. Сядзіць там дзяўчына, якая завецца Зайчык, і ўсё запісвае. Вельмі добрая дзяўчына. Яна запыталася, як мяне завуць і дала мне цукерку. Але аб гэтай Зайчык я вам раскажу іншым разам. Цяпер я вам павінен сказаць, хто такая Голдка. Яна з Кутны. Прыехала сюды год таму назад з сваімі бацькамі, братамі і сёстрамі. Яны мелі шыфскарты ў Амэрыку і былі апрануты паграфску: кожны з іх меў

па дзьве кашулі і непарваныя боцікі. Цяпер у яе ніводнай кашулі няма і бяз боцікаў. Каб не дзяўчына Зайчык, кажа яна, дык хадзіла-б босая. Зайчык падарыла ёй свае ўласныя боцікі. Яшчэ зусім добрыя, але троху завялікія... Такім чынам падышоў час, што трэба было садзіцца на карабель. Перад гэтым сказалі ім, каб яны пашлі да доктара. Доктар агледзеў іх і сказаў ім, што яны здаровыя і моцныя і могуць ехаць у Амэрыку. Але яна, гэта значыць Голдка, павінна астацца тут, у Антвэрпэне, бо ў яе «трахома» ў вачох. Спачатку яна нават не разумела, чым гэта пахне, толькі пазьней яна раскумекала. Гэта значыць, што ўсе едуць у Амэрыку, толькі яна, Голдка, тут у Антвэрпэне застаецца. Падняўся крык, плач, галошаньне. Усе паехалі ў Амэрыку, а яна, Голдка, засталася тут, пакуль выздаравеюць вочы. Такім чынам ужо зараз год мінуў, а яна яшчэ ня вылечылася. Зайчык з «Эзра» кажа, што вочы яе хворыя, бо яна заўсёды плача. Але Голдка кажа, што таму вочы яе яшчэ ня вылечыліся, што яна свайго сіняга каменя ня мае. Кожны раз, як яна прыходзіць да доктара, ён мажа ёй вочы тым самым сінім каменем, якім ён мажа ўсіх хворых. Каб яна, Голдка, мела грошы за што купіць свой сіні камень, дык даўно-б вылечылася.

— Ну, а твае бацькі?—пытаюся я.

— Яны ў Амэрыцы. Яны сабе жывуць там. Кожны месяц пішуць. Паглядзі! Умееш чытаць?

Яна выняла з-за пазухі цэлую кіпу лістоў і дала мне, каб я голасна чытаў. Я-б гэта рабіў, дык я ня ўмею чытаць з пісанага. Каб з друкаванага, дык я-б чытаў.

— Хлопец усё павінен умець!—кажа Голдка.

Мотка вялікі чытаў лісты, а Голдка плакала. Гэта ўгледзела Зайчык і пачала сварыцца на нас, што дзеля нас яна плача, што яна сапсуе сабе вочы! На гэта Голдка адказвае з сьмехам праз сьлёзы:

— Ня так сьлёзы псуюць мне вочы, як доктарскі сіні камень...

Мы разьвітваемся з Голдкай, і я абяцаю ёй, што заўтра ў гэты час мы з ёй тут зноў сустрэнемся. І мы—я і Мотка вялікі—пускаемся гуляць па вуліцах Антвэрпэну.

## IV

Мы, гэта значыць я, Мотка малы, і мой сябар, Мотка вялікі, ня нудзімся. У нас тут ёсьць яшчэ адзін сябар. Гэта хлопец гадоў трынаццаці, які завецца Мэндаль. Ён таксама астаўся ў Антвэрпэне па дарозе ў Амэрыку. Не дзеля вачэй, але дзеля іншай прычыны. Ён згубіўся ў дарозе недзе ў Нямеччыне. Усю дарогу, расказвае Мэндаль, ён харчаваўся толькі селядцамі. Заўсёды пякотка мучыла. Ён на аднэй станцыі саскочыў выпіць вады і астаўся бяз білета і бяз грошай. Дзеля таго што ён мовы іхнай ня ведаў, ён прадстаўляўся

нямым. Ён вандраваў па розных гарадох, па розных краёх, пакуль натрапіў на партыю эмігрантаў. Ён падышоў да іх і расказаў ім усю сваю гісторыю. Дык яны зьлітаваліся над ім і ўзялі яго з сабою ў Антвэрпэн. Тут ён дабіўся да «Эзры». «Эзра» напісала ліст у Амэрыку, каб знайсьці яго бацькоў. Вось цяпер ён тут чакае на адказ і на шыфскарту. Гэта значыць, на паўшыфскарты, бо ён яшчэ малы. Ён не такі ўжо малы, але сам глядзіць на сябе, як на малога. Мы ўсе ўтрох гуляем па вуліцах Антвэрпэну.

Хутка да нас госьці прыедуць—пекар Ёна з сям'ёю. Сягоньня-заўтра прыедзе сюды наша суседка Пэся з сваёй халястрай. Вось будзе весела!

---

# ХАЛЯСТРА

I

Вы ўжо знаёмы з гэтай халястрай. Яны ўсе прыехалі ў Антвэрпэн.

— Як вы кралі граніцу?—гэта было першае, што мы ў іх пыталіся. Яны гаворацъ аб гэтым вельмі шмат. Але іхныя байкі мне ў галаву ня лезуцъ. Я забраўся ў куток з сястрой маёй швагеркі. Я калісьці вам ужо гаварыў аб ёй. Яна завецца Алтка, носіць дзьве коскі, скручаныя абаранкам. Вы, мабыць, памятаеце, як калісьці мне сваталі Алтку. Тады ёй было дзевяць гадоў. Цяпер ёй ужо адзінаццаты. Я гавару ёй пра Голдку. Расказываю ёй аб сваіх новых таварышох і аб усім, аб усім. Алтка слухае ўважна. Пасьля яна мне гаворыць аб сваіх прыгодах. Потым мы ўсе разам з усёй халястрай ідзем да «Эзры».

II

Што вы скажаце на няшчасьце, якое здарылася з намі? Мы былі з маткай у доктара, ён агледзеў яе вочы і нічога не сказаў. Ён толькі напісаў нешта на паперцы і ўлажыў у канвэрт. Мы занесьлі гэты

канвэрт да «Эзры». Там была адна толькі дзяўчына Зайчык, якая ўсіх эмігрантаў у кнігу ўпісвае. Яна сустрэла мяне з сьмехам. Калі-б толькі яна ні зірнула на мяне—заўсёды сьмяецца. Яна разарвала канвэрт, паглядзела ў паперку, перастала сьмяяцца і заламала рукі. Матка пытаецца, што там напісана? Дык яна кажа, што кепска! Доктар казаў, што яна ня можа ехаць у Амэрыку. Мой брат Эля пабляднеў, зрабіўся белым, як палатно. Матка акамянела. Нават не заплакала... Дзяўчына Зайчык пачала ўсіх супакойваць. Целыя суткі мы грызьлі адзін аднаго, сварыліся. А назаўтра мы зноў пашлі да «Эзры». «Эзра» радзіла нам, каб мы пробавалі ехаць праз Лёндон. Можа Лёндон прапусьціць маю матку з заплаканымі вачыма. Калі не ў Амэрыку, дык хоць у Канаду... Дзе Канада—мы ня ведаем. Кажуць, што гэта яшчэ далей, чымся ў Амэрыку. Мой брат Эля і наш сябар Піня маюць затое аб чым паспрачацца. Эля ў яго пытаецца:

— Скажы, Піня, дзе гэта Канада? Ты-ж чалавек з «географіі»...

— Канада знаходзіцца ў Канадзе, — кажа Піня,—гэта значыць, у Амэрыцы. Канада тое самае, што Амэрыка, але ня зусім.

— Якім гэта чынам так выходзіць?—пытаецца Эля.

— Сам-жа бачыш...—адказвае Піня.

Але пакуль-што трэба ісьці да карабля выправіць нашу суседку Пэсю з усёй халястрай.

Страхоцьце, што робіцца там! Мужчыны, кабеты, дзеці, клункі, пакі, падушкі, мяшкі з пярынамі. Адзін бяжыць, другі крычыць, трэці плача. Адзін абліваецца потам, другі лаецца, хтосьці лемантуе.

Раптам пачулася рыканьне нейкай дзікай жывёліны:

— Г-г-г-у-у-у-у!..

Гэта гудзіць карабель.

# ХАЛЯСТРА ЗЬМЯНШАЕЦЦА

## I

З кожным днём халястра эмігрантаў зьмяншаецца і Антвэрпэн робіцца пусткай. У суботу едзе ў Амэрыку на караблі яшчэ шмат эмігрантаў. З імі таксама мой сябар Мотка—Мотка вялікі, той самы, які паставіў мне губарнатара і навучыў брухамоўству. Я ня ведаю, што ў ім такое ўгледзеў мой брат Эля, за што ён ня любіць Мотку вялікага. Я думаю, што ў гэтым вінавата Броха. Мая швагерка Броха мае храпку выслухваць розныя гутаркі і прыглядацца, з чаго хто сьмяецца. Цікава ёй, з чаго сьмяемся. А можа сьмяемся з Піні, які цягне цукеркі і пернікі з кішэняў і пастаянна глымзае?

На гэты раз Броха трапіла якраз пальцам у вока. Мы прыдумалі комэдыю пра яе матку, пекарку Рыву з яе ратондай. Дзень і ноч яна бубніць аб сваёй ратондзе, якую ўкралі на граніцы. Ляпа ў яе не зачыняецца.

Нават мая матка і то ня можа стрымацца і кажа ёй:

— Ой, сватухна! Мне ня меней трэба гаварыць аб сваіх падушках і падушачках, якія ў мяне ўкралі на граніцы, а вы ўсё—ратонда ды ратонда!..

На гэта пекарка Рыва кажа сваім грубым мужчынскім голасам:

— Хоць кажэце «не раўнуючы»!

На гэта ёй матка кажа:

— А ў мяне крадзеныя падушкі?

Рыва кажа:

— Крадзеныя, ня крадзеныя, я пры гэтым не стаяла.

Матка кажа:

— Я не разумею, сватухна, што гэта ў вас за такое? Што гэта за гутарка?

Рыва кажа:

— Як гукнеш, так і адклікаюцца.

Матка кажа:

— Сватухна! Чым я зачапіла ваш гонар?

Рыва кажа:

— Хто кажа, што вы зачапілі мой гонар?

Матка кажа:

— Дык прычым тут «не раўнуючы»?

Рыва кажа:

— Пэўна, не раўнуючы! Бо калі я гавару пра сваю ратонду, дык вы не павінны тыцкаць мне ў нос сваіх падушак і падушачак!

Матка кажа:

— Ці-ж у мяне крадзеныя падушкі?

Рыва кажа:

— Крадзеныя, ня крадзеныя, я пры гэтым не стаяла.

І яшчэ раз тое самае, і зноў тое самае!

Ну, дык вам яшчэ тэатр патрэбен?

## II

Разумеецца, што мы абодва, гэта значыць я— Мотка малы, і мой сябар—Мотка вялікі, у той-жа самы вечар прыселі і прыдумалі вось якое прадстаўленьне:—Ведаеш што? Я буду пекаркай Рывай, а ты прадставіш сваю матку, і завядзем такую самую гутарку, як яны. Але цюцелька-ў-цюцельку такім голасам, такімі-ж словамі, як яны. Я буду гаварыць грубым голасам, як пекарка Рыва, а ты—цененькім галаском, плачучы, як твая матка.

І абодва Моткі перайначыліся, перарабіліся, перакінуліся ў кабет. Адзін націснуў на галаву парык, другі—хустку. Склікалі шмат падшывальцаў-хлапцоў і дзяўчынак з халястры эмігрантаў, і прадстаўленьне пачалося:

Мотка малы (плачучы): Ой, сватухна? Мне ня меней трэба гаварыць аб сваіх падушках і падушачках, якія ў мяне ўкралі на граніцы, а вы ўсё—ратонда ды ратонда!..

Мотка вялікі (грубым голасам): Хоць кажэце «не раўнуючы».

Мотка малы: А ў мяне крадзеныя падушкі?

Мотка вялікі: Крадзеныя, ня крадзеныя, я пры гэтым не стаяла.

Мотка малы: Я не разумею, сватухна, што гэта ў вас за тон? Што гэта за гутарка?

Мотка вялікі: Як гукнеш, так і адклікаюцца.

Мотка малы: Сватухна! Чым я зачапіла ваш гонар?

Мотка вялікі: Хто кажа, што вы зачапілі мой гонар!

Мотка малы: Дык пры чым тут «не раўнуючы»?

Мотка вялікі: Пэўна, не раўнуючы! Бо калі я гавару пра сваю ратонду, дык вы не павінны тыцкаць мне ў вочы сваіх падушак і падушачак!

Мотка малы: Ці-ж у мяне крадзеныя падушкі?

Мотка вялікі: Крадзеныя, ня крадзеныя, я пры гэтым не стаяла...

## III.

Я зусім не чакаў, што пры словах «не стаяла» адчыняцца дзьверы і пакажуцца госьці: мая швагерка Броха з сваёй маткай—пекаркай Рывай, з яе бацькам—Ёнай-пекарам, з іх сынамі, мая матка, мой брат Эля, наш сябар Піня з яго жонкай

Тайбкай і яшчэ шмат людзей—цэлая халястра! Спачатку мая швагерка Броха растлумачыла ўсім, што я строю кпінкі з усяго сьвету. Ёй хацелася, каб увесь сьвет мне адамсьціў. Але ўвесь сьвет зусім не хацеў мсьціць. Мне было досыць майго брата Элі. У яго сухая рука з худымі пальцамі. Калі ён пазаўчора даў вам аплявуху, дык яшчэ назаўтрае можаце пералічыць яго пальцы на сваёй фізіяноміі.

«Трэба разлучыць во гэтых Моткаў!»—пастанавіла Броха, а мой брат Эля грымнуў сваім цьвёрдым голасам, што калі пабачыць нас разам, дык ён мяне пераробіць на мачалку! Я-б хацеў бачыць, як гэта ён мяне пераробіць на мачалку? Ён забываецца, што ёсьць матка на сьвеце, якая хутчэй дазволіць выдрапаць свае хворыя вочы, чымся глядзець, каб мяне перарабілі на мачалку.

## IV.

Вочы ў маёй маткі ня гояцца. Нядобра. Вельмі кепска! Кажуць, што і за мільён яе на карабель ня пусьцяць. Трэба ўцякаць з Антвэрпэну У Антвэрпэне дактары, як разбойнікі! Так і казэраць свае зрэнкі ў вашы вочы. Калі знойдуць на вашых вачох «трахому», дык іх нячыстая сіла бярэ. Няма ў іх ні пашаны, ні літасьці! Нам прыдзецца ехаць у Амэрыку іншай дарогай. Якой дарогай—мы яшчэ самі ня ведаем. Ёсьць

шмат дарог. Каб толькі былі грошы. Кішэня майго брата Элі пусьцее. Усё пашло на дактароў і фэльчароў, каб вылечыць матчыны вочы. Матка хоча плакаць, дык ёй не дазваляюць. Яна скардзіцца, што не дазваляюць ёй гора сваё выплакаць, каб сэрца аблягчыць!..

У суботу мы ўжо напэўна паедзем у Лёндон. Мы ўжо рыхтуемся ў дарогу. Штодня нашыя кабеты ходзяць на станцыю разьвітвацца з эмігрантамі. Ня так разьвітвацца, як сэрца сваё выказаць перад людзьмі. Аказваецца, што мы ў параўнаньні з іншымі эмігрантамі праўдзівыя монархі. У халястры эмігрантаў ёсьць такія, якія яшчэ нам зайздросьцяць. Былі дома багатымі людзьмі, а цяпер жабракамі парабіліся. Мы ведаем усе іх няшчасьці. Раней, калі хто гаварыў аб пагромах, я слухаў, навастрыўшы вушы. Цяпер я ўцякаю ад жудаснага слова «пагром». Я лепш люблю вясёлыя гісторыі. Быў сярод эмігрантаў нейкі фэльчар Бібар, дык ён заўсёды вясёлыя байкі апавядаў. Ён ужо быў у Амэрыцы, хаця ён вялікі манюка.

— Ён пудамі хлусьню прадае!—кажа наш сябар Піня.

— У Амэрыцы ня любяць маны,—кажа Эля.

— А скуль ведаеш?—умешваецца Броха, а яе падтрымліваюць усе нашыя кабеты. Мы дзелімся на два фронты.

Мы, мужчыны: Амэрыка—край праўды і шчырасьці!..

Я н ы, к а б е т ы: Амэрыка — дзяржава фальшу і хлусьні!..

М ы, м у ж ч ы н ы: Амэрыка ўзбудавана на справядлівасьці, праўдзе і літасьці!..

Я н ы, к а б е т ы: На зладзействе, разбойніцтве і шарлатанстве!..

Памірыла нас мая матка:

— Нашто вам, дзеткі, сварыцца за Амэрыку, калі вы яшчэ ў Антвэрпэне?

Праўда-ж! Мы яшчэ ў Антвэрпэне. Але не надоўга. Вось-вось едзем у Лёндон. Едуць усе эмігранты, уся халястра.

Што станецца з Антвэрпэнам??!

# БЫВАЙ ЗДАРОЎ, АНТВЭРПЭН

## I

Ніводзін горад я так не шкадую, як Антвэрпэн. А ня так горад, як людзей. А ня так людзей з Антвэрпэну, як халястру эмігрантаў. А ня так усю халястру, як маіх таварышоў. Шмат з іх ужо паехала. Рагаты, Алтка, Мотка вялікі ўжо ў Амэрыцы. Асталася тут толькі Голдка, дзяўчынка з хворымі вачыма. Болей нікога. Што будзе рабіць «Эзра», якая памагае эмігрантам? Каму яна будзе памагаць? Мне вельмі шкода Антвэрпэну. Слаўны горад, слаўныя людзі. Усе гандлююць брыльлянтамі. Усе носяцца з дарагімі каменьнямі. Усе ведаюць гэту работу: рэзаць або шліфаваць каменьні. Каго-б ні сустрэлі, ён або рэзчык, або шліфоўшчык. Шмат хлапцоў з нашай халястры тут засталіся, парабіліся дыямэнтшчыкамі. Каб мы так ня рваліся ў Амэрыку, дык і я зрабіўся-б дыямэнтшчыкам. Майму брату Элі гэта работа падабаецца. Нашаму сябру Піні таксама. Каб яны былі троху маладзейшыя, кажуць яны, дык зрабіліся-б дыямэнтшчыкамі. Броха з іх сьмяецца. Яна кажа, што дыямэнты прыемна мець, але не

шліфаваць. І Тайбка мае ахвоту мець дыямэнты. Штодня яны паглядаюць у вокны магазынаў і любуюцца дыямэнтамі і брыльлянтамі, якія там навалены цэлымі кучамі, як сьмяцьцё. Аж галава кружыцца, мітусіцца ў вачох. Піня сьмяецца з іх. Ён кажа, што гэтыя каменьні—дрэнь, а тыя, хто імі захопліваюцца—вар'яты. Вы думаеце, што ён на іх песьню не напісаў? Вось як яна пачынаецца:

У Антвэрпэне бяз меры
Дарагіх каменьняў.
Там многа мільянэраў,
А жабракоў—хоць-бы на насеньне!
Там дыямэнты—нібы гной,
Дармо дастанеш, любы мой!
Брыльлянтаў шмат у іх—ого!
Аж для сьвету ўсяго!
Аднак, хоць горад і вялік:
. . . Грошай—ані псік!

Далей ня памятаю.

## II

Трэба мець галаву міністра, каб памятаць усе вершыкі, якія піша наш сябар Піня. Мой брат Эля перагыркваецца з ім за гэта самае. Эля кажа, што калі «Эзра» даведаецца аб тым, што мы прыдумваем дрындушкі пра Антвэрпэн, дык будзе нам «халэмус»—нас адгэтуль прагоняць. Перад выездам мы заходзім да «Эзры», каб яна нам па-

магла. Мы там свае людзі. Дзяўчына Зайчык, якая аб нас у кнізе запісвае, нават ведае, як нас усіх завуць. Мяне яна любіць. З маткай яна абыходзіцца, як з сястрой. Нават Броха кажа, што фрэйлін Зайчык мае праўдзівае яўрэйскае сэрца. Уся халястра эмігрантаў любіць яе. І толькі за гэта, што яна гаворыць да іх не панямецку, а паяўрэйску. А ўсе іншыя ў Антвэрпэне гавораць панямецку, хоць ты іх даўбнёй па галаве! Хаця Піня кажа, што Антвэрпэн не нямецкі горад і яўрэям трэба было гаварыць паяўрэйску. Карона з галавы ў іх ня ўпала-б. Але ўсе тутэйшыя яўрэі ня любяць яўрэйскую мову, а толькі нямецкую. Нават жабракі тутэйшыя панямецку гавораць. Ён здохне з голаду, але панямецку!—Так кажа Броха і гоніць нас у карак, каб ужо хутчэй у Лёндон паехалі. Надаеў ёй Антвэрпэн з яго мовай. Дзе-б ты ні стаяў, дзе-б ты ні хадзіў—усюды: брыльлянты! дыямэнты! Ува ўсіх поўныя кішэні, цэлыя кучы брыльлянтаў. Каб хоць адзін брыльлянцік прыклеіўся да нас! Каб хто з іх згубіў пару дыямэнтаў і каб я знайшла!—так кажа Броха і вочы ў яе гараць. Я ня ведаю, на якую трасцу ёй даліся гэтыя брыльлянты і дыямэнты? Я-б аддаў камяньні ўсяго сьвету за адну пушачку фарбаў і за адзін пэнзаль для маляваньня. Нядаўна я нарысаваў алоўкам на паперы карабель з халястрай эмігрантаў, галовы на галовах. Я гэта падарыў Голдцы, дзяўчынцы з хворымі вачыма. Голдка гэта паказала Зайчык. А тая—усяму

сьвету ў «Эзры». На бяду гэта—заўважыў мой брат Эля. Ну і было мне ад яго: «Чалавечкі! Кінеш малявадь чалавечкі, ці не?» Ніколі так шчыра мой брат Эля ня біў мяне, як на гэты раз. Аб гэтым даведалася Голдка. Яна расказала Зайчык. А Зайчык аб гэтым завяла гутарку з маім братам Эляй—за што ён б'е мяне. Яна паказала яму малявідлу і гаварыла, гаварыла. Мой брат Эля выслухаў яе ўважна, а як прышоў дамоў, дык так мне ўсыпаў, як ніколі да гэтага часу. Ён кажа, што раз назаўсёды выб'е з маей галавы малявідлу...

III.

Сягоньня мы былі апошні раз у «Эзры». Што мы там рабілі—ня ведаю. Мой брат Эля нешта гаварыў. Наш сябар Піня махаў рукамі. Броха дадала свайго дабра. Матка плакала. Тыя, хто сядзіць у «Эзры», нам адказвалі панямецку. Трое сядзела там і паміж сабою экзаменаваліся, хто з іх лепш панямецку гаворыць...

Я быў, як на турэцкім казаньні. Мая галава была там—на караблі, на моры, у Лёндоне, у Амэрыцы. Раптам прыбегла Голдка засопшыся, захропшыся:

— Ты ўжо едзеш?

— Еду.

— Калі?

— Заўтра.

— Куды?
— У Лёндон.
— А адтуль?
— У Амэрыку.
— А я тут астаюся з сваёй «трахомай», а мае бацькі—нямаведама дзе!

Так кажа Голдка і плача, плача... Я хачу яе супакоіць, але слоў ня маю. Сэрца ў мяне сьціскаецца ад жалю. Я гляджу на яе і гладжу яе руку:

— Ня плач, Голдка. Вось пабачыш, як толькі прыеду ў Амэрыку і пачну грошы зарабляць—зараз-жа вышлю табе сіні камень для вачэй. Пасьля прышлю табе паўшыфскарты. Табе-ж яшчэ дзесяці гадоў няма. Прыедзеш у Амэрыку. А там знойдзеш сваіх бацькоў. Як прыедзеш у Амэрыку, дык шукай мяне вачыма. Я буду трымаць у руках вось гэты аловак—бачыш? Як угледзіш у Амэрыцы хлопца вось з такім алоўкам, дык ведай, што гэта я—Мотка малы. Я табе пакажу ўсю Амэрыку, бо я ўжо буду ведаць яе напамяць. Пасьля мы паедзем да тваіх бацькоў, дык ты ў іх павячэраеш...

Голдка болей слухаць ня мела сілы, а з плачам кінулася мне на грудзі...

## IV

Вось гэта Броха, ведаеце, яе прывычку: дзе яе ня сеюць, там яна вырастае. Яна надышла якраз у тую хвіліну, калі мы сядзелі з Голдкай і цалава-

ліся на разьвітаньне! Броха мне нічога не сказала. Ні паўслова. Толькі сваім мужчынскім голасам яна зацягнула мо' на тры сажні:

— «Во-о-о-о-ось я-а-а-ак»?..

Пасьля яна нейк дзіўна сьціснула губы, закруціла носам. Пры гэтым яна кашлянула: «г-г-м» і зараз-жа пашла да майго брата Элі. Што яна сказала яму, ня ведаю. Я толькі знаю, што як вышаў з гэтай «Эзры», Эля заехаў мне ў твар вельмі смачнай аплявухай. У вушох у мяне званы зазьвінелі. У вачох шабасовыя сьвечкі пераміргваліся.

— За што?—пытаецца ў яго матка.

— Ён знае за што!..—адказвае ён мой брат Эля, і мы ўсе ідзем да станцыі. Там штурханіна, шум, крык. Трэба пакавацца. Я люблю глядзець, як пакуюцца. На гэта мой брат Эля зух. Калі трэба пакавацца, ён скідае халаміду і пачынае камандаваць: «Дайце сюды брудную бялізну!.. Мама, дай чайнік! Шапачку, Броха, шапачку скарэй!.. Галёшы, Піня, сьляпы дрынголь, ты ня бачыш? Вунь стаяць галёшы ў цябе пад носам!.. Мотка, чаго стаіш слупам маляваным? Памажы! Ён толькі ведае маляваць чалавечкі! Чалавечкі!».

Гэта ён да мяне зьвяртаецца. Я кідаюся ў гэтую завіруху і пачынаю кідаць усё тое, што пад рукі пападаецца. Эля зноў злуецца і хоча мяне біць. Матка бароніць: Што табе дзіцё гэта зрабіла?.. Гэта ня любіць Броха, чаму матка мяне

заве «дзіцём». Яна сварыцца з маткай. Матка ўспамінае, што я сірата, і пачынае плакаць.

— Плач, плач!—кажа ёй Эля.—Выплачаш апошнія вочы свае!..

Во зараз мы пакідаем Антвэрпэн.

Бывай здароў, Антвэрпэн!

# ЛЁНДОН, ЧАМУ ТЫ НЕ ГАРЫШ

## I

Ніколі ў жыцьці ня бачыў я такога кірмаша, як у Лёндоне. Ня ў Лёндоне кірмаш, але Лёндон сам кірмаш. Гручыць, стучыць, зьвініць, сьвішча, крэхча, войкае... А людзей, людзей, як шрот, як мурашкі! Скуль бярэцца столькі людзей і куды яны бягуць? Мабыць, галодныя, або выбіраюцца куды. Бо калі не, дык навошта ім штурхацца, кідаць людзей пад ногі і таптаць? Я гавару пра нашага сябра Піню. Калі памятаеце, ён прысьлепаваты. Да гэтага ён мае прывычку задзіраць галаву ўверх і блытацца нагамі. Зьбянтэжанае дзідла! Спрытная галава! Першы гасьцінец ён дастаў, вышаўшы з вагона. Ён выскачыў першым. Адна штаніна закасана ўверх. Адна шкарпэтка спушчана—як заўсёды. Я ніколі ня бачыў яго такім адважным і сьмелым. Ён гарэў, як на гарачку, дрыжэў, як на дрыжачку. Пачаў сыпаць, нібы макам, сваімі дзіўнымі словамі: «Лёндон! Англія! Дызраэлі! Бокль! Гісторыя цывілізацыі»!.. Нельга было яго ўціхамірыць. Не прайшло і дзьвюх хвілін, як наш сябар Піня ляжаў на зямлі, і людзі

дыбалі па ім, як па кладцы. На шчасьце яго жонка Тайбка залемантавала: «Піня, дзе ты?» Тады мой брат Эля кінуўся да яго і выцягнуў яго з тлуму, зморшчанага, палінялага, як стары капялюш. Гэта быў нумар першы. У другі раз з ім была прыгода ў той-жа дзень у горадзе, якраз на яўрэйскай вуліцы, якая завецца нейк дзіўна: «Вайтчэпль». На гэтай вуліцы прадаецца рыба, мяса, біблії, сецыцалі, яблыкі, квас, торт, пернікі, кавалкі лядца, талісы, цытрыны, бавэлна, яйкі, шклянкі, гаршчкі, галёшы, макарон, венікі, сьвісьцёлкі, перац, вяроўкі—вось, якраз як у нас. Цюцелька-ў-цюцельку! Нават і балота тое самае. І смурод такі самы. Часам горш. Мы вельмі абрадаваліся, як угледзелі «Вайтчэпль». Піня праз меру абрадаваўся.

«Бардычаў!—закрычаў ён.—Ой, браткі мае! Мы ня ў Лёндоне, а ў Бардычаве!» Ну і папаўся яму Бардычаў! Я думаў, што яго прыдзецца адвезьці ў шпіталь. З таго разу Тайбка аднаго яго ня пускае гайсаць па Лёндоне. Я гляджу на «Вайтчэпль» і думаю: дзівы-дзіўныя, калі Лёндон такі, дык што-ж ужо можа быць у Амэрыцы?!.

Але пагаварэце з Брохай, дык яна вам скажа, што Лёндон мог-бы згарэць яшчэ да нашага прыезду.—Гэта-ж ня горад, а пекла!—кажа яна.—Які шум, які гвалт. Проста ўсё шурам-бурам ходзіць. Адно,—мы яшчэ ходзім самапасам, без камітэту. Мы шукаем камітэту і ня можам знайсьці. Ніхто ня ведае дзе. А кішэня майго брата Элі апаражні-

ляся. Грошы пылам і дымам пайшлі. Піня жартуе з Элі:—«Што ты цяпер з сваёй кішэняй будзеш рабіць»?.. Эля злуецца. Ён ня любіць жартаў. Піня заве яго «заклапочаным чалавекам»... Я люблю Піню за яго вясёласьць. Ён кажа, што там, у Кракаве, Львове, Антвэрпэне, Вене, трэба гаварыць панямецку. Тут, у Лёндоне, вельмі добра. Можна гаварыць паяўрэйску, як дома: напалову паяўрэйску, напалову парасійску.

Тутэйшая мова горшая за нямецкую. Броха кажа, што аддасьць трох ангельцаў за аднога немца. Дзе гэта чуваць, каб вуліца называлася «Вайтчэпль», а грошы — «айпэні», «тапэні», «трыпэні»? Ёсьць яшчэ слова, якое тычыцца грошай—«файф». З гэтым словам «файф» у нас вышла вялікая прыкрасьць. Я вам раскажу, калі хочаце.

## II

Мы, аднак, дапыталіся камітэту. Каб ня ісьці пехатой, нам параілі сесьці на трамвай. Але лёндонскі трамвай мае прывычку—ня любіць спыняцца. Колькі ні будзеш махаць рукамі, не паможа—ён імчыць, вы яго не дагоніце. На шчасьце, гэта заўважыў адзін ангелец. Ён паказаў нам, дзе трамваі спыняюцца. Мы ўсе ўвайшлі ў трамвай. Едзем. Падыходзіць кондуктар. Піня ў яго пытаецца: Сколько надо—колькі трэба плаціць? Кондуктар кажа: «файф» (паяўрэйску:

сьвісьні). Піня пытаецца ў другі раз: «Колькі?» Кондуктар адказвае троху злосны: «файф!». Піня ціскае плячыма і кажа да нас: Что такое, вы чуеце? Ён кажа мне сьвіснуць! Падыходзіць да кондуктара мой брат Эля і пытаецца рукамі:

«Колькі каштуе?» Кондуктар адказвае моцна загневаны: «файф!!» Піня сьмяецца. А Эля таксама зазлаваўся і кажа кондуктару: «Сам файф»!.. Кондуктар зазлаваўся не на жарт. Спыніў трамвай і скінуў нас. Нарэшце мы даведаліся, што «файф»—гэта панашаму пяць.

— Ну, дык Лёндон не павінен згарэць?

Так кажа Броха і мы пехатой ідзём у камітэт. Лёндонскі камітэт такі самы, як усе іншыя. Розьніца ў тым, што ў нямецкіх камітэтчыкаў вусы закручаныя ўверх і чуеш нямецкую мову, а тут усе голеныя бяз вусаў і кажуць «Олрайт»!— адна комэдыя. Мужчыны ўсе голеныя, а кабеты—у парыкох. Нават дзяўчаты носяць прыклееныя валасы з кучаравымі брынзлямі. Ува ўсіх вялікія зубы і такія яны брыдкія, ажно моташна робіцца. Аднак яны з нас сьмяюцца, пальцамі тыкаюць на нас.

— Лёндон, чаму ты не гарыш?

Так кажа Броха і ламае рукі ад гора.

Калі мы ўжо будзем у Амэрыцы???.

---

## ЗЬМЕСТ





